


ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА
прысвячаецца той Гародні, якой мы ганарымся.
Дзякуем усім, хто з намі.

**Каардынатар кніжнай серыі «ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА»:**
Павал Мажэйка (p.mazheika@gmail.com)

**Ідэя серыі:** Эдвард Дмухоўскі
www.hrodna.org

**“Сандалі мітрапалітыка або маленькія гісторыі з вялікай палітыкі”** – гэта 18-я кніга кніжнай серыі ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА.

**Аўтар:** Віктар Сазонаў

**Рэдактар:** Яўген Вапа
тэкст да друку падрыхтаваны пры ўдзеле рэдакцыі газеты «Ніва» (Беласток)
**Графічная апрацоўка і вёрстка:** Зміцер Гупянец

**Вокладка:** Даша Сямчук

ISBN 978-83-61617-57-0

Kolegium Europy Wschodniej im. Jana Nowaka-Jeziorańskiego



**Віктар Сазонаў.** Нарадзіўся 18 кастрычніка 1963 года, сто год пасля Паўстання. Паходзіць з славутых Гальшанаў. Жыве ў Гародні. Па нацыянальнасці – беларус, па веравызнанні – праваслаўны, жанаты, выхаваў сына і дачку, па адукацыі – гісторык, вайсковая спецыяльнасць – разведчык спецназа, сёння – журналіст, публіцыст, пісьменнік. Аўтар кнігі “Занатоўкі кантрабандыста”, якая была перакладзеная на польскую мову. З канца 80-х гадоў XX ст. актыўны ўдзельнік грамадска-палітычнага руху на Гарадзеншчыне і ў Беларусі.

## Ад аўтара

*Я зразумеў у чым ваша бяда.*
*Вы занадта сур'ёзныя.*
*Разумны выраз твару – яшчэ не прыкмета розуму, спадарства.*
*Усе дурноты на зямлі робяцца менавіта з такім выразам.*
*Усміхайцеся, спадарства, усміхайцеся.*

*(Словы барона Карла Фрыдрыха фон Ераніма Мюнхгаўзена з кінастужкі "Усё той жа Мюнхгаўзен" (Прозвішча чалавека, які прыдумаў гэтыя словы, пазначана ў цітрах фільма)).*

Што такое палітыка? Наўрад ці хто, каб адказаць на гэтае пытанне палезе ў тлумачальныя слоўнікі ці стане доўга пра тое разважаць. У лепшым выпадку, большасць людзей, з нейкім незразумела з чаго ўзятым гонарам скажуць, што яны палітыкай не займаюцца. Маўляў, яны вышэй гэтага. Альбо таму, што лічаць сябе дзелавымі людзьмі і не маюць часу на бессэнсоўны, на іх думку, занятак. Або таму, што на свеце ёсць, зноў жа іх меркаваннем, безліч цікавейшых сфераў, дзе можна сябе праявіць. Альбо ўвогуле няведама чаму. У горшым выпадку вам скажуць, што палітыка брудная справа і ў белых пальчатках яе не зробіш. Таму, маўляў, не хочацца свае рукі забрудзіць.

Пры гэтым ніхто не абвяргае таго факту, што калі ты палітыкай не займаешся, то палітыка займецца табой. І толькі вельмі малая колькасць людзей вам распавядуць, што палітыка – справа для сапраўдных змагароў. Што гэта адзін з самых высакародных і небяспечных заняткаў, які толькі ёсць у зямной сферы дзейнасці.

Бо палітыка, гэта служэнне сваёй Радзіме і свайму Народу.

У канцы васьмідзесятых гадоў дваццатага стагоддзя, на вялікіх абшарах СССР сталі паўсюдна паўставаць нефармальныя суполкі. Беларусь не была выключэннем. Афіцыйная савецкая прапаганда бэсціла "нефармалаў" апошнімі словамі. А мы збіраліся і марылі пра Незалежнасць. І не толькі марылі. Але і здабывалі. З цягам часу "нефармалы" ператварыліся ў "адраджэнцаў", адраджэнцы ў "свядомых", свядомыя ў "дэмакратаў", дэмакраты ў "палітыкаў", а тыя палітыкі, якія і надалей дбаюць пра Адраджэнне, дэмакратыю і Незалежнасць, ператварыліся ў "апазіцыянераў" ці дакладней будзе сказаць у апазіцыйных палітыкаў.

З таго часу, калі нефармалы не маглі нават уявіць, што яны некалі будуць палітыкамі, прайшла, здаецца, цэлая эпоха. Незвычайная эпоха ў якой жылі звычайныя людзі. Эпоха, дзе за плячамі засталося мноства не здзейсненых мараў і безліч нявырашаных пытанняў. Можа таму так шмат пакутлівага плачу ў сучаснай беларускай прозе.

Але ж гэта было нашае жыццё, дзе мы не толькі змагаліся, але яшчэ жылі: – радаваліся, весяліліся, умелі кахаць і сябраваць, гадаваць дзяцей, сустракацца з роднымі, глядзець на жыццё па-філасофску і з гумарам. І ніколі не былі занудамі. І напэўна няма больш жартаўлівага і вясёлага чалавека, чым дысідэнт.

Той ранні перыяд першых палітычных бітваў, быў такі ж наіўны, як і тагачасныя змагары. Ніхто не мог сабе нават уявіць, што праз нейкі час змаганне стане настолькі вострым, што не кожны зможа яго вытрымаць. І тыя часы здаюцца сёння неверагодна спакойнымі і ў нечым нават недарэчнымі.

І хочацца ўспомніць пра тыя недарэчнасці, якія нас напаткалі ў раннім палітычным змаганні і ўсміхнуцца. І расказаць іншым. Хай таксама пасмяюцца. Бо хто не ўмее смяяцца з непрыяцеля, ніколі яго не пераможа. А хто не ўмее пасмяяцца з сябе, варты толькі смеху іншых. Менавіта пра тое распавядаюць навелы “Сандалі мітрапалітыка”, або “Маленькія гісторыі з вялікай палітыкі”.

**Віктар Сазонаў**

## Мітрапалітык

– Тэма нашага сённяшняга семінара – ідэальны палітык. Палітык палітыкаў. Які павінен быць кандыдат у дэпутаты, каб здабыць галасы большай часткі суайчыннікаў сваёй акругі дакладна ў той час, калі яны становяцца электаратам, – мяркуючы заінтрыгаваць прысутных адразу па тэме пачаў лектар. – Дык які ж мусіць стаць гэты чалавек. Гэты суперпалітык. Я бы нават сказаў – максіпалітык.

– Паколькі большасць насельніцтва Беларусі, нават у той момант, калі яны становяцца выбаршчыкамі, застаюцца па-ранейшаму праваслаўнымі, то я бы гэтага звышпалітыка на ўсякі выпадак называў бы мітрапалітык, – жартуючы, унёс папраўкі ў лекцыю нехта з прысутных.

– Я бачу вы можаце аналізаваць, – пахваліў таго лектар. – Толькі сёння мы пагаворым пра знешні выгляд..., э-э, як вы там сказалі... мітрапалітыка. Цудоўна. Назва мне падабаецца. Бліжэй да тэмы. Большасць людзей не вылучаюцца вялікім інтэлектам, і пераважна галасуюць за тое, што бачаць уласнымі вачамі або праз акуляры. За ваш партрэт. За ваш знешні выгляд. Яны амаль у ста адсотках выпадкаў блытаюць ваш знешні выгляд з вашай асобай. Як гаворыцца, сустракаюць па вопратцы, а праводзяць у парламент. Многія ўпершыню ўбачаць контуры вашай фізіяноміі толькі на выбарчай дзяльніцы, на партрэце, які там будзе вісець. А людзі ў большасці сваёй цягнуцца туды, дзе больш святла.

– Як матылі ў вогнішча? – хтосьці сонным голасам вырашыў бліскануць інтэлектам.

– Менавіта так! – пагадзіўся лектар і, паглядзеўшы

на гадзіннік, з жахам адзначыў у думках, што яго нудная нават для самога сябе лекцыя толькі пачалася, і прыйдзецца яшчэ трапацца языком няведама колькі, здзяйсняючы насамрэч толькі адну мэту – каб будучыя дэпутаты ад апазіцыі заснулі на яго лекцыі не ўсе адразу. – Таму знешні выгляд мае неверагодна вялікае значэнне. Каб з вас, звычайных местачковых палітыкаў, атрымаліся, як вы там самы казалі, мітрапалітыкі, папрацаваць трэба больш, чым над кульгавай смаркатай вясковай таўстухай, якая мусіць выйграць конкурс “Міс свету ўсіх часоў і народаў”. Таму, як вы павінны выглядаць, вы мусіце ведаць лепш чым нумар сваёй выбарчай акругі. Палітык можа не ведаць як правільна пішацца, Іран ці Ірак, можа не арыентавацца да якой моўнай групы належыць лацінаамерыканская мова, мае права нават не здагадвацца пра тое, што Іслам гэта рэлігія ці ваенная дактрына, і нічога не разумець пра тое, ці мяжуюць паміж сабой Азія і Еўразія, але мусіць добра ведаць, які гальштук падабаецца таму чалавеку, які яшчэ не пазначыў птушачкай прозвішча свайго абранніка ў дэпутаты. Што больш імпануе выбаршчыку? Упэўнены позірк Пазняка ці задумлівы выраз твару Вячоркі? Напор Калякіна ці разважлівасць Шушкевіча? Спакой Мілінкевіча ці гарачнасць Казуліна? Настойлівасць Лябедзькі ці вашы сонныя морды на маёй лекцыі?

Пасля такога папроку прысутныя пачалі пакрыху прачынацца. Гэтыя людзі, а з большага тут сабраліся лідэры рэгіянальных апазіцыйных структураў, за свой жыццёвы вопыт засвоілі толькі адно выбарчае правіла – у сённяшняй беларускай рэчаіснасці выбары выйграе той, хто лічыць галасы. І як ён выглядае, выбаршчыкі могуць і не ўбачыць. Тым больш ніколі не даведаюцца што той думае.

Але такая заява лектара прымусіла іх пачаць актыўна шукаць аргументаў на карысць свайго вопыту. Тым больш, што прыехалі яны сюды ўбачыцца адзін з адным, а не слухаць нейкія навучанні. А лектар працягваў душыць на іх псіхіку, як дошка на вантрабянку.

– Паглядзіце на прысутных. Паўзірайцеся на сябе і на ўсіх вас, і, паклаўшы руку на сэрца, шчыра, як у п'янога папа на споведзі, адкажыце, за каго з тут прысутных прагаласавалі б менавіта вы?

Хлопцы пачалі круціць галовамі як усядно кагосьці шукалі, упіваючыся пры гэтым соннымі вачамі ў апухлыя пасля ўчарашняй сустрэчы твары і зусім не дэпутацкую вопратку сваіх калегаў. Пасля ўчарашняга спаткання старых сяброў, якое ў беларусаў пакуль што мае толькі адну традыцыю адзначэння, фасадныя часткі галавы сапраўды не цягнулі на назву мітрапалітычных. Ды і іншыя дробязі – ад вопраткі да манераў трымацца не выдавалі ў прысутных джэнтэльменаў.

– Агіднае відовішча, – падсумаваў убачанае Лявон. – Што да мяне, то я не прагаласаваў бы ні за адну ўбачаную тут морду, хоць даўно ведаю гэтых людзей як цвет нацыі і з большасцю сябрую.

– Сапраўды, трэба быць больш уважлівымі да свайго знешняга выгляду, – падхапілі іншыя. – Тут лектар мае рацыю, як замужняя жанчына пра тое, што ў маладосці зрабіла не той выбар наконт спадарожніка свайго жыцця.

– Вось, – узрадаваўся лектар, хапаючы паперы і збіраючыся выходзіць. – Бачу маё навучанне не прайшло дарма. Рады буду ўбачыць вас у дэпутацкіх крэслах, а можа нават і ў прэзідэнцкім. І спадзяюся, што мая лекцыя хоць нечым дапаможа вам у гэтым.

– Дзякуй за добрае пажаданне, – неяк ці то з хітрынкай, ці то жартуючы хорам адказалі ўдзячныя вучні. – Каб не вы, то нізашто мы не выйгралі б аніякіх выбараў. А зараз будзем дзяліць прэзідэнцкае крэсла. Дзякуй за пачутую навуку ад таго, хто сам ні разу ў выбарах не ўдзельнічаў. Вы ж бы прэзідэнтам сталі б з вашымі ведамі. А мы вось зараз і пачнём абмяркоўваць, як зрабіць так, каб для жанчын выглядаць як замежны патэнцыйны жаніх, для старых людзей як надбаўка да пенсіі, для малых як добры чарадзей з цукеркамі а для астатніх як дармовая пляшка гарэлкі.

– І яшчэ да вас ёсць адно пытанне, спадар Балдзеюад-сябе, – звярнуўся Лявон да лектара, ужо і так разгубленага апошнімі жартамі прысутных. – Ці нават прапанова. На наступнай лекцыі, калі ласка, раскажыце нам, як гэта ўдалося выйграць выбары, прыкладам, Уінстану Чэрчылю, які яўна не прыслухаўся да вашых рэкамендацый наконт свайго знешняга выгляду.

## Нечаканая сустрэча

– Ах вы гады, ну трымайцеся! Я вам зараз накастыляю так, што доўга будзеце памятаць мяне і сніць да канца свету, або да канца вашага жыцця. Залежыць ад таго, што раней надыдзе. Рабіць вам няма чаго?! Мітынгі яны надумалі ладзіць. Я вам сёння ўвогуле адаб'ю ахвоту выходзіць на вуліцу, нават каб прагуляцца з каханай дзяўчынай, – пырскаючы слінай з істэрычна перакошаным ад злосці тварам крычаў малады міліцыянт АМАПу.

Ніякіх гадаў, да якіх ён звяртаўся, нідзе паблізу не было. Але Ваня, так яго звалі, ужо махаў міліцэйскай дубінай як вар'ят шабляй, нібыта знаходзіўся адзін у атачэнні добрай сотні ворагаў-апазіцыянераў. Да апазіцыі ў яго заўсёды была нейкая маніякальна-параноідная злосць, як у галоднага бяздомнага сабакі пры выглядзе сытага і дагледжанага ката. Ці гэта так паўплывала на маладыя несаспелыя мазгі агітацыя старэйшых афіцэраў АМАПу на палітзанятках, ці перадалося з генамі ад дзеда, старога чэкіста, якога яшчэ ў часы Сталіна прыслалі з Тамбова на Беларусь змагацца з усімі з кім захоча, абы толькі змагацца, Ваня і сам не ведаў. Але заўсёды з радасцю ўспрымаў загад разагнаць якісьці мітынг ці несанкцыянаваны пікет, або затрымаць каго беларускамоўнага. А ў гэты дзень яго нянавісць памножылася ў тры разы ў кубе і шырылася па законах геаметрычнай прагрэсіі. Рэч у тым, што акурат зараз мела адбыцца сямейнае свята. Малодшая сястра, якую Ваня любіў нават больш чым міліцэйскую палку, надумалася ўрэшце пазнаёміць сям'ю з сваім кавалерам. З якімсьці студэнтам пятага курса нейкага інстытуту (Ваню цяжка даваліся назвы навучальных установ), які павінен уліцца

ў іх сям'ю ў якасці бацькі дзіцяці яго сястры. Дзіцяці яшчэ не было, але нават ніколі не заводзіўшы сяброўства з інтэлектам, Ваня стаў заўважаць, што яго сястра нічога не есць, толькі рыгае, а жывот становіцца ўсё большы і большы.

Малады амапавец рыхтаваўся да гэтай сустрэчы мацней чым да канспектавання апошняга выступу міністра ўнутраных спраў. Нават купіў маладой пары падарунак. Пяцімесячнага сабаку пароды бультэр'ер, які ўжо паспеў пазначыць сваю тэрыторыю на ўсёй хатняй мэблі і падзёрці дываны ды абутак. Збіраўся раней прыйсці з працы (калі яго род заняткаў так можна назваць), а тут на табе. Нейкія маладафронтаўцы зрабілі пікет, што ставіла крыж на планах першым сустрэць будучага сваяка.

Праз некалькі хвілінаў атрад АМАПу ўжо прыцiскаў да сцяны некалькіх юнакоў, якія раздавалі ўлёткі на незразумелай для беларускіх ахоўнікаў парадку беларускай мове. Ваня адразу прыгледзеў сябе ахвяру – маладога хударлявага хлопца з бел-чырвона-белым значком на швэдары. Паўтарыўшы некалькі разоў свае аргументы, у выглядзе ўдараў па плячах дубінкай, амапавец хапіў маладафронтаўца за руку, і павалок у міліцэйскую машыну. Але той быў вельмі моцны і пруткі. Ён спрытна выкруціўся з Ваніных абдымкаў, і з абяцаннем: "Сустрэнемся калі будзеш без палкі", паказаў кастлявы кулак і знік у натоўпе зявак.

Дахаты міліцыянт вяртаўся ў самым горшым ад моманту свайго нараджэння настроі. І на сустрэчу з кавалерам сястры прыйдзе з спазненнем, і нікога не ўдалося затрымаць. Яго калегі пахапалі рэшту пікетчыкаў і завалаклі ў пастарунак. А ён толькі час згубіў, нібыта збіраў грыбы зімой, што некалі насамрэч было. З галавы, у якой думкі разля-

таліся як спалоханыя стрэлам вароны, ніяк не знікаў вобраз таго хлопца, які мала што змог вырвацца з спрактыкаваных міліцэйскіх лапаў, але яшчэ і адважыўся выказаць пагрозы. Вось бы яго яшчэ калі ўбачыць, каб адпомсціць. Але дзе ты цяпер таго знойдзеш. Сігануў як навальнічны вецер, і ў дадатак адарваў у міліцэйскай куртцы рукаво. Гэты дзень з нейкай алагічнай стабільнасцю прыносіў усё новыя няўдачы. І з кожным разам усё большыя. Калі так пойдзе і далей, то кавалер сястры яго не дачакаецца. Гэта ўжо будзе трагедыя. Амапавец адмыслова для гэтай сустрэчы падрыхтаваў застольную прамову на цэлую хвіліну, якую запамінаў тры дні, і ведаў, што да наступнага разу ён яе забудзецца. Добра што калегі падкінулі яго дахаты на міліцэйскай машыне. Шанец убачыцца сёння яшчэ быў.

– А вось і я! – радасна, надаўшы свайму голасу максімум мужчынскасці, выбухнуў ён зайшоўшы ў кватэру і ўбачыўшы ў калідоры чужы абутак, які даядаў бультэр'ер.

– Ванюша прыйшоў з работы, – запішчала задаволеная сястра і весела дадала. – Пазнаёмся, калі ласка, гэта Сцяпан, мой хлопец.

Ваня, здымаючы куртку праз галаву, працягнуў праз дзіру ад адарванага рукава руку новаму знаёмаму. Ён убачыў хударлявую далонь, якая не дацягнуўшыся нейкага там сантыметру да яго пальцаў моцна сціснулася ў кулак. Амапавец рвануў куртку назад і падняў вочы на госця. Перад ім, ужо прыцэліўшы кастлявы кулак для моцнага дакладнага ўдару паміж Ваніных вачэй стаяў той маладафронтавец, якога дзве гадзіны таму не ўдалося зацягнуць у міліцэйскую машыну.

## Размова з папугайчыкам

Для беларускага апазіцыянера раптоўны стук у дзверы заўсёды ёсць нечаканай чаканасцю. Таму Віталік Тарасаў, як адчыніў дзверы і ўбачыў маларослую носазадзёртую постаць, якая нетыповымі для нармальнага чалавека паводзінамі выдавала дзяржаўнага чыноўніка невысокага рангу і інтэлекту, ні трошкі не здзівіўся.

– Вы даўно да нас з Расіі? – не даўшы таму раскрыць наўмысна зграмашаныя паказной суровасцю вусны спытаўся Віталік.

Нязваны госць пачаў абдумваць пытанне гаспадара кватэры. У яго нават зморшчылася скура на лбе і вылупіліся ад напружанай працы мазгоў вочы, але рот нечакана выдаў загатаваную заранёў фразу:

– Здравствуйте! Я судебный исполнитель. Я ўполномочен, указанными в этом документе органами, известить вас о том, что истекли все сроки выплаты наложенного на вас штрафа по статье..., э..., указанной в ранее упомянутом документе, за произведённый вами несанкционированный митинг на улицах города, с применением незарегистрированной бело-красно-белой символики...

– Пачакайце хвілiначку, – ледзьве стрымліваючы смех ад пачутае бязглуздзіцы, перабіў яго Тарасаў. – А то зараз выпусціце ўвесь пар, як дзіравая лазня, растраціце ўсё вашае нязвыклае красамоўства, а растлумачыць чаго вы да мяне завіталі так і не здолееце.

Судовы выканаўца на хвіліну збянтэжыўся. Але ўспомніўшы што ён “при исполнении служебных обязанностей”, ды мае пэўную ўладу ад уладаў, сунуў апазіцыяне-

ру нейкую паперчыну з блакітнай размазанай кляксай (хіба пячаткай), і без запрашэння ўхамаваўся ў кватэру.

– А вы откуда взяли что я из России? – нарэшце здолеў пераключыцца на Віталікавае пытанне чыноўнік. Ён, спрактыкаваным як у злодзея вокам аглядаў кватэру апазіцыянера, падлічваючы ў галаве кошт маёмасці, якая ў перспектыве мусіць пакрыць накладзены судом штраф.

– Бо ў нас не трэба малаціць галавой у дзверы, каб табе адчынілі, – крыва ўсміхнуўся Віталік. – Можна націснуць пальцам такую невялічкую “пімпачку”, і зазвініць званочак. А што гэта вы так па-воўчаму на мае рэчы ўзіраецеся? Ці не рабаваць прыйшлі?

– Если вы не выплатите штраф – мы будем описывать ваше имущество, – заявіў судовы выканаўца, дабавіўшы свайму голасу максімум жорсткасці. Яму здавалася, што ад гэтага не толькі Віталік, але і сцены кватэры напалохаюцца. Але голас яго быў настолькі нудна-казённы, што ад яго магла толькі разбалецца галава. Нават у каменя.

– А навошта яго абпісіваць? – Зарагатаў апазіцыянер. – Вы хіба толькі і робіце, што абпісьваеце ўсё ўбачанае. Вось і поўзаеце па свеце Божым увесь абпісяны.

Чыноўнік зноў зморшчыў лэб. Было бачна па яго твары, як пераклад кожнага беларускага слова выклікаў у яго жудасны галаўны боль.

– Вы, вообще, нормальным языком говорить можете, – нарэшце вымавіў ён, яўна не адолеўшы перакладу папярэдняй фразы.

– Ды нармальны ў мяне язык, – працягваў смяяцца Тарасаў. – Я штодзень палашчу рот адмысловай вадкасцю. І язык правяраю. Ён у мяне чырвоны, як мае быць. Як ваш любімы сцяг. Толькі сярпа з молатам там няма.

– Да што вы несёте? Я спрашиваю, вы по-русски можете разговаривать? – судовы выканаўца зчырванеўся ад злосці, як дзіцячы азадак, па якому бацька сцебануў дзяжкай. – Придумали себе язык какой то. И ещё хотите чтобы дети в школе его изучали. А знаете какая у них сложноя программа и без вашего белорусского. Вы их травмируете. У них то головки ещё маленькие.

Віталік аж зайшоўся ад смеху як на канцэрце Міхаіла Жванецкага, бо прадбачыў што будзе далей. Ён падышоў да птушынай клеткі і адчыніў дзьверку. Невялічкі зялёненькі папугайчык выляцеў адтуль і сеў на плячо чыноўніка. Гэтыя птушачкі вельмі любяць новых людзей і стараюцца з імі паразмаўляць на той мове, якую ведаюць. Зрэшты як і беларускае чынавенства часоў двухмоўя.

– Добры дзень! Я птушка! – Выкрыкнуў папугайчык, і зазірнуў няпрошанаму госцю сваім маленькім вочкам прама ў вуха. Нібы правяраў, ці не глухаваты чалавек завітаў у хату. Папугаям моцна падабаецца, як людзі, пачуўшы ад іх чалавечыя словы, пачынаюць смяяцца і хваліць. Вось і гэты, нібыта пераканаўшыся, што з вушной перапонкай у госця ўсё нармальна, прынамсі ў адным вуху, выгукнуў з усяе моцы фразу, за якую яго больш за ўсё хваліў гаспадар:

– Добры дзень! Жыве Беларусь!

У чыноўніка так перакасіла твар, што спалоханая птушка сіганула зноў у клетку. А той аж зароў:

– Ни хрена себе! О бля... Да вы что, и попугая научили разговаривать по вашему.

– Сам навучыўся, – ужо здыхаючы ад смеху патлумачыў Віталік. – І не па “вашаму”, а па нармальнаму. І галава ў яго здаецца малая. А ў некаторых людзей галовы большыя ад конскіх, а адолець мовы не ў стане. Відаць мазгоў менш, чым у папугая. Ды тыя людзі яшчэ ў дадатак, лічаць сваіх уласных дзяцей дурнейшымі за папугаяў, таму сцвярджаюць, што іх дзеткі так загружаныя, што роднае мовы вывучыць не змогуць.

– Пытанне тут у том, – стаў нешта там аргументаваць чыноўнік на гэты раз на ламанай

беларускай мове з жудасным акцэнтам, – ці разумее ваша птушка, што яна гаворыць?

– Але гэта ж птушка, – усміхнуўся апазіцыянер. – Што ад яе можна патрабаваць? Пытанне тут іншага кшталту – ці разумееце вы, надзелены дзяржавай уладай чыноўнік, што робіце вы?

Судовы выканаўца хапіў свае паперы, і з такім выразам на твары, як быццам з’еў кілю нечыстотаў, выскачыў з кватэры.

– Ну што, птушка, – звярнуўся гаспадар да папугая. – Вось прыйшоў прыдурак нешта там абпісываць, а пайшоў сам абпісяны.

– Абпісяны, – паўтарыў папугайчык, і зноў выскачыў з клеткі, шчаслівы ад таго, што вывучыў яшчэ адно слова.

## Дзень без палітыкі

Гарадзенскі тралейбус затармазіў недалёка ад Фарнага касцёлу. Затармазіў – гэта яшчэ мякка сказана. Кіроўца папросту з усяе сілы надушыў на тармазны педаль, і перапоўнены тралейбус, куды на апошнім прыпынку не змог уціснуцца нават худы, як гітарная струна мужчына дыстрафічнай знешнасці, апусцеў роўна напалову. Зад аказаўся вольны. Праўда з пераду пасажыры з цяжкасцю адрознівалі чужыя локці ад сваіх каленяў, але гэта мала каго турбавала. Галоўная задача для кожнага была простай. Як паспець выслізнуць з тралейбусу да таго, пакуль ахвотныя ў яго папасці не пачнуць сцэнку штурма Бастыліі. Сяржуку з Міколам пашанцавала. Натоўп, які пакідаў тралейбус у некалькі разоў хутчэй ад пасажыраў "Тытаніка", вынес іх на цэнтральную плошчу горада. Трохі балелі бакі, але хлопцы ўсядно былі шчаслівыя. Яны вырашылі зрабіць за некалькі апошніх год хоць адзін дзень адпачынку ад палітыкі. Недзе, зусім недалёка, збіралася кааліцыя аб'яднанай апазіцыі "Пяцёрка плюс". Ці можа "Дзесятка плюс". Яна і сама ня ведала як зараз называецца. Неістотна. Мікола з Сяржуком вырашылі пражыць гэты дзень як звычайныя грамадзяне, што і не падазраюць пра наяўнасць нейкіх там палітычных кааліцый, незалежна ад іх назвы. Пражыць хоць дзень без паседжанняў, мітынгаў, пікетаў, затрыманняў, судоў... Яны проста шпацыравалі па вуліцах старадаўняй Гародні і адкрывалі для сябе наноў даўно забыты свет. Свет, дзе ты ідзеш і не баішся, што за табой сочаць. Што праслухоўваюць твой тэлефон (хлопцы адключылі мабільнікі). Што зараз нехта з заклапочаным тварам пачне каментаваць новы ўказ прэзідэнта... Праўда, час ад часу ў галаву нахабна, нібы

рэкламны ролік, лезлі непатрэбныя пытанні, кшталту: – “Куды гэта ідуць людзі, якім не трэба на партыйны сход”, але апазіцыянеры на вакацыях стараліся выкідваць гэтыя думкі як навасёлы выкідваюць непатрэбнае шматгадовае смецце, якое за доўгія гады назбіралася ў іх старым жытле.

Хлопцы проста адпачывалі. Каля пельменнай купілі па шклянцы мінеральнай вады, зайшлі ва ўнівермаг, паглядзелі на кошты тавараў, якіх даўно не ў стане набыць.

– Ой, як добра! – З захапленнем уздыхнуў Мікола. – Жывуць жа людзі, як авечкі, і ні пра што не думаюць. Ніякіх праблемаў, акрамя як дзе ўзяць грошы. Толькі мы ўсё з скуры вылазім. Пупы дзяром не за грошы, а за ідэі. Свабоду слова нам давай, дэмакратыю, свабодныя выбары, правы чалавека...

– Ні слова болей, – абурыўся Сяржук. – А то я табе рэзну мацней чым амапавец на дэманстрацыі. Дамаўляліся ж пра палітыку не гаварыць.

– Прабач мне, дурню, – пагадзіўся Мікола. – Само вырвалася. Сёння размаўляем толькі пра кошты на каўбасу і дзе лепшыя лецішчы. А яшчэ, як апошні раз перапілі і колькі нашы жонкі пасля гэтага з намі не размаўлялі. І трошкі пра кепскіх начальнікаў на працы і пра тое, як яны несправядліва зразаюць прэміяльныя. Словам, будзем гаварыць толькі пра тое, пра што іншыя людзі.

– Так-так, – весела падтрымаў таго суразмоўца. – І трошкі пагаворым пра цёшчаў, крыху пра несправядлівых і хцівых жончыных сваякоў, зусім мала пра вальтанутага кіроўцу тралейбуса, і трошкі больш пра планы рамонту левага люстэрка ў сваёй машыне. І пап’ем піва. Можа нават булькнем у бакал сто грамаў гарэлкі. Зробім ёршык. Як іншыя робяць. Ці ўжо людзі ёршыкаў не робяць?

– Не ведаю. Даўно з нармальнымі людзямі не выпіваў. Усё толькі з палітыкамі... Маўчу-маўчу. Прабач, вырвалася. А давай пойдзем да бара "Віленскі". Там і пап'ем піва як іншыя. Што яны будуць піць, тое і мы.

Павярнуўшы на рагу вуліцаў Савецкай і Ажэшкі налева, хлопцы апынуліся перад барам "Віленскі". Адтуль якраз выйшлі музыкі, каб граць на вуліцы, на пляцоўцы перад барам. Вакол музыкаў, як парсючкі вакол свінаматкі, стаў збірацца натоўп. Хлопцы пасунуліся туды таксама. Але праз хвіліну іх хтосьці хапіў за рукі і паралок назад. Апазіцыянеры павярнулі галовы. Іх моцна трымалі супрацоўнікі міліцыі. Неўзабаве падляцеў і старэйшы афіцэр.

– Я патрабую спыніць несанкцыянаванае мерапрыемства, – рашуча заявіў ён. – Калі вы не падпарадкуецеся законным патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі, то будзеце адразу ж затрыманыя.

– Якое мерапрыемства? – Здзівіўся Сяржук. – Мы проста адпачываем.

– А хто, па-вашаму, тут сабраў столькі людзей? – Не супакойваўся настырны ахоўнік правапарадку. – Несанкцыянаваны мітынг ладзіце. Мяне не абдурыце.

Хлопцы так зарагаталі, што міліцыянты адразу зразумелі сваю памылку.

– Ну кантора! – Праз зубы выцадзіў афіцэр. – Зусім працаваць не ўмеюць. Далі нам наводку, што вы збіраеце мітынг. А тут проста музыка. А каб іх халера! Гэб'ё бесталковае. Падвялі пад дурную хату.

Ён гнеўна кінуў позірк на чалавека ў цывільным, які

няўмела хаваў за пазухай рацыю і ў якім хлопцы пазналі пасажыра тралейбуса, што стаяў побач з імі. Той глянуў яшчэ на аднаго, што таксама каля пельменнай заказваў шклянку мінеральнай вады, акурат тады, калі яе пілі Мікола з Сержуком. Гэты чалавек толькі разгублена паціснуў плячамі і знік у натоўпе. Міліцыянты таксама паспяшаліся прапасці.

– Ну што, – запытаўся Сяржук у сябра. – Не ўдаецца нам адпачыць ад палітыкі? Не ўдаецца. Хоць ты з скуры вылезь, каб не ўбіцца ў якія непрыемнасці – не атрымаецца. Нас сама ўлада піхае рабіць штосьці, каб яе змяніць. Скажы, сябра, а колькі зараз часу?

– Яшчэ паседжанне "Пяцёркі плюс" не скончылася. Трэба ісці туды. Можа хлопцы нас зачакаліся, – ажывіўся Мікола.

І яны шпарка пакрочылі па вуліцы Ажэшкі, каля бліскучых вітрынаў бараў, людзей з бутэлькамі піва і проста адпачываючых кампаній, да якіх ні міліцыі, ні кэдэбэшнікам не было аніякай справы. За іх плячамі, каля бара "Віленскі" зайграла музыка і весела запішчаў натоўп. Але яны, штосьці сур'ёзна абмяркоўваючы і шпарка крочачы на сядзібу БНФ, гэтага ўжо не пачулі.

## Папера ад апазіцыянера

Калі Васіль пачуў у слухаўцы знаёмы голас маёра мясцовай міліцыі, ён і не падазраваў, што гэта будзе за размова. Напачатку кіраўнік тутэйшага БНФ-у вырашыў, што яго чарговы раз збіраюцца папярэдзіць, каб той не праводзіў несанкцыянаванага мерапрыемства. Так было заўсёды, калі надыходзіла нейкая дата, якую традыцыйна адзначала апазіцыя. Вось і зараз, напярэдні першага верасня хлопцы рыхтаваліся да ўлёткавай акцыі. Трэба ж неяк рэагаваць на знішчэнне апошніх беларускамоўных класаў у школах. І тут званок. Васіль нервова закачаўся на задніх ножках свайго крэсла ад гэтага званку. Калі за дзень да акцыі прыходзіць такое тэлефоннае папярэджанне, гэта азначае толькі адно. Як мінімум пятнаццаць сутак арышту. Можна рыхтавацца навучаць беларускай мове living рознага кшталту сукамернікаў, сярод якіх ёсць і такія, што ўвогуле развучыліся гаварыць ад штодзённага ўжывання падарунку беларускай дзяржавы рабочаму класу і збяднелай "праслойцы" былой савецкай інтэлігенцыі ў выглядзе "пладова-ягаднага" віна, якое ў простанароддзі ласкава называюць "бімбар", або "псіхатроп".

Але голас маёра быў неверагодна ласкавым, як на конкурсе класічнага падхалімажу. Васілю зразу залезла ў правае паўшар'е мазгоў думка, што менавіта з такім голасам гэты афіцэр заходзіць у кабінет да свайго міністра, або тлумачыць сваёй жонцы, што жанчына, з каторай яна яго ўчора бачыла ў рэстаране, гэта адмыслова прысланая яму ўсё тым жа міністрам для выследжвання шпіёнаў радыстка Кэт.

– Калі на тое будзе ваша згода, то я сустрэўся б з вамі на нейтральнай тэрыторыі, скажам у парку. Калі ласка, прыйдзіце адзін, – спакусліва спяваў маёр. – Не адмоўце. Вельмі трэба. Чакаю.

Інтрыга. Вось што штурхнула Васіля на тую сустрэчу. Ён быў настолькі заінтрыгаваны гэтым таямнічым спатканнем, што нават расейскія танкі не перашкодзілі б яму прыйсці ў парк своечасова.

– Няўжо ў сталіцы нашы ўжо перамаглі, і вы надумаліся правесці са мной перамовы, каб і надалей захаваць сваю пасаду, – прывітаўся ён з маёрам у дамоўленым месцы.

– Барані Божа! – збялеў той і збянтэжана наклаў левай рукой на сябе крыж. У правай трымаў нейкія паперы.

– А што тады? Якія прычыны? Няўжо вы думаеце, што патаемныя сустрэчы з афіцэрамі міліцыі маё хобі.

Афіцэр міліцыі нервова стаў азірацца, нібыта збіраўся перадаць апазіцыянеру дакументы з усімі дзяржаўнымі таямніцамі.

– Ведаеце што, – пераканаўшыся што за ім ніхто не сочыць прамурлыкаў маёр. – Я думаю вам не трэба не мяне трымаць крыўды. А што вас арыштоўваем, дык гэта работа такая. Але ж мы не па злосці. Загад ёсць загад. Мусім выканаць. Хоць вас мы паважаем. Праўда. У нас усе ў аддзеле захапляюцца вашай мужнасцю. Мы, калі хочаце ведаць, нават ганарымся вамі. Добра што вы ёсць.

– А пры мінулым затрыманні казалі што гэта кепска, і лепш бы нас не было. Бо сама наяўнасць апазіцыі нібыта адбірае ў міліцыянтаў час і не дае ім мажлівасці перахапаць усіх злодзеяў, – рассмяяўся Васіль. – Пяройдзем

да справы. Як напісана ў класіка, людзі дзеляцца на дзве часткі. Адным штосьці трэба ад мяне, а ад другіх штосьці хачу я. Мне ад вас нічога не трэба. Таму выкладвайце, чаго хочаце ад мяне вы.

Ад такой канкрэтыкі маёр на хвіліну аслупянеў. Ён не чакаў такога павароту ў размове, хоць прыпамінаў, што недзе некалі гэтага класіка, імя якога ўспамінаць не адважыўся, ён усё ж чытаў.

– Добра. Не буду прыдурвацца. У мяне сын у Англіі. Ёсць мажлівасць атрымаць добрую працу. Але ж ведаеце гэтых еўрапейцаў. Ёсць праблема з яго знаходжаннем там. Трэба даведка, што ён актыўны бэнээфавец. Калі вы мне яе зробіце, буду старацца і я для вас штось там рабіць. Узор я прынёс. І яшчэ просьба: як вам патэлефануюць адтуль, каб даведку праверыць, то патцвердзіце, што мой сын сапраўды апазіцыянер.

– Ну што ж, – задумаўся Васіль. – Атрымліваецца, што я сваім змаганнем і адсідкамі, ды немажлівасцю сабе знайсці працу, на кар’еру вашага сына працую. Добра. Дам я вам даведку. З пячаткай. Людзі мы не злапамятныя. Узору вашага не трэба. У мяне для вас ёсць свой узор. Толькі сустрэнемся пасля дваццаць першага, калі дваццаць другога вы мяне не пасадзіце. А то ў нас акцыя. Мяркую, вы ведаеце.

Маёр толькі кіўнуў галавой, і задаволены як студэнт, бацькі якога з’язджаюць на лецішча, пакідаючы яму ў поўнае распараджэнне сваю кватэру на выходныя, знік у цемры вечару.

Апазіцыйная акцыя дваццаць першага прайшла надзвычай удала. Нікога не затрымалі, нават не спрабавалі. А дваццаць другога, маёр з задавальненнем дастаў

з паштовай скрынкі паперыну з пячаткай БНФ. Ён беражліва, як звышсакрэтны дакумент Міністэрства Ўнутраных Спраў развярнуў яе і ўрэзаўся вачамі ў тэкст. Там, над подпісам кіраўніка мясцовай партыйнай арганізацыі БНФ было напісана:

“Шаноўныя ангельскія чыноўнікі. Просім не выганяць з Англіі сына нашага маёра. Па-першае, нават яго кумір таварыш Сталін казаў, што сын не адказвае за бацьку. Па-другое, наш маёр нядаўна даказаў, што ён зусім не пераконаны ў тым, што дэмакратыя і дэмакраты гэта кепска, і ўступіў з намі ў патаемны хаўрус. Як высветлілася, у яго ўвогуле няма аніякіх перакананняў. Ні нашых, ні супраць нашых. Таму хай яго сын пабудзе ў вас у Вялікай Брытаніі, каб набыць хоць нейкія. Тым больш, што яго бацька зарабіў на тое – не арыштоўваў нас пад час апошняй акцыі, як гэта рабіў раней.”

І ў самым канцы, маленькімі літарамі ўсміхалася дапіска:

P.S. Таварыш сэр маёр. Падобныя паперы вы зможаце атрымліваць пасля кожнай нашай акцыі.”

## Забароненыя колеры

Раней я лічыў, што прыдуманая псіхааналітыкамі тэорыя ўплыву колераў на настрой чалавека – вынік несяброўства з уласнай галавой самых прадстаўнікоў гэтай, нікому непатрэбнай, акрамя як для іх самых, прафесіі. Яны намагаюцца парады святара, што пад час споведзі шукае адказы на пастаўленыя пытанні ў душы самога чалавека, замяніць на сістэму знешніх уздзеянняў. Гэтыя ўздзеянні, паводле іх версіі, і ёсць асноўным каталізатарам псіхічных адхіленняў гомасапіенса. Але паводле маіх назіранняў, адмыслова ўзяты для супакаення зялёны колер сталоў казіно наўрад чым можа дапамагчы нерваму стану чалавека-разумнага, што за адзін вечар прадзьмухаў здабытак усяго жыцця. Ды і зялёныя грошы амерыканскага народу мала каго пакідаюць у спакоі, незалежна ад таго, амерыканец гэты чалавек, ці апантаны антыамерыканізмам. Нават дальтонікі не могуць застацца раўнадушнымі, убачыўшы ў чужых руках стос зялёных паперкаў з партрэтамі амерыканскіх прэзідэнтаў.

Але калі беларускае заканадаўства забараніла выкарыстоўваць пэўнага колеру сімволіку, а міліцыянты пачалі кідацца на бел-чырвона-белыя сцягі як бык на чырвоную анучу, ці дакладней будзе сказаць, як індыкі на трусы колеру сцяга Савецкага Саюза, мне прыйшлося перагледзець свае погляды на сцверджанні спецыялістаў па вывучэнні масавых псіхічных адхіленняў дарослых прадстаўнікоў чалавечай расы. Сама дзіўнае ў паводзінах міліцыянтаў, што яны раней гэтую сімволіку

насілі на сваіх мундзірах. А зараз пачалі рэагаваць на яе як чэрці на крыж. Ды не толькі міліцыянты.

Было гэта ў Бруселі. Другая палова дзевяностых гадоў мінулага веку. Ужо за выкарыстанне бел-чырвона-белых сцягоў у Беларусі арыштоўвалі, давалі штрафы, кідалі за краты. Але некаторыя беларускія апазіцыянеры (заўсёды знаходзяцца людзі, пра якіх кажаш – “некаторыя”) спадзяваліся, што ўдасца неяк павярнуць краіну на шлях еўрапейскай дэмакратыі нават з той уладай, якой старадаўняя нацыянальная сімволіка папярок гарляка стала, як каса авечцы. Былі надзеі на тое і ў еўрапейцаў (не абыйшлося без уплыву на думку еўрапейцаў некаторых апазіцыянераў беларускага разліву). Таму яны і запрасілі ў Брусель на нейкі там семінарчык групу, якая напалову складалася з прадстаўнікоў улады, а напалову з апазіцыянераў. Доўга еўрапейскія эксперты, пад найграна-сур’ёзныя выразы твараў дэлегатаў ад беларускай апазіцыі і дружны храп беларускіх дэпутатаў новаабранага парламенту, які ў народзе “ласкава” прազвалі “палаткай”, распіналіся пра здабыткі еўрапейскага ладу жыцця. Ды пасля, хіба зразумеўшы, што ні тым ні другім навука ў галаву на лезе, вырашылі паказаць свой слаўны горад. Можа, думаюць, хоць чым зацікавяць беларусаў.

А надвор’е, як на зло, выдалася не найлепшае для турыстыкі. Дождж з дажджом. І яшчэ крыху дажджу. Еўрапейцы нават замаркоціліся. Падумалі, што і гэтая частка праграмы правалілася. Але беларусам горад спадабаўся. Асабліва крамы ды бары. Дакладней тое, што там прадавалася. Апазіцыянеры павесялелі. Сталі жартаваць. Прадстаўнікі ўлады папрачыналіся. Усе разам так энергічна займаліся

скупкай таннага тавару, што брусельцы, гледзячы на іх, сталі пытацца, ці не пачалася якая глабальная прыродная катастрофа. Некаторыя нават падумалі, што хутка вайна, ды таксама пачалі набываць тое, што хапалі беларусы. А еўрапейскія эксперты, узрадаваўшыся, што хоць нешта атрымліваецца, купілі беларусам па парасончыку. Хай, думаюць, ад дажджу хаваюцца.

Ды вось не ўлічылі заўвагі ўсё тых жа псіхааналітыкаў наконт колераў. Парасончыкі былі з белымі і чырвонымі палосамі. Напачатку імі карысталіся ўсе, спрытна перабягаючы ад крамаў да бараў і наадварот. Ды пасля група зноў падзялілася на дзве часткі. Не вытрымалі праўладныя. Бо нехта ўзяў ды пажартаваў, што сфатаграфуе, як дэлегаты ад улады разам з апазіцыянерамі гуляюць па Брусэлі пад бел-чырвона-белымі парасончыкамі, і пашле здымкі прэзідэнту. Тыя ад гэтых словаў канчаткова прачнуліся. Твары сталі такімі чырвонымі, хоць ты серп і молат на лэбе малюй. Яны, не згаворваючыся, разам кінуліся да сметніцы і пачалі выкідваць парасоны.

Дождж яшчэ больш узмацніўся. Разгубленыя еўрапейскія арганізатары семінару паглядалі на беларускую дэлегацыю і не маглі нічога ўцяміць. Займаюцца, здаецца, адным і тым жа – не звяртаючы ўвагі на архітэктурныя помнікі, купляюць тавары і паглынаюць піва. Але чаму палова групы гуляе пад парасонамі, а другая палова, нягледзячы на тое, што вада псуе набыты тавар і да ніткі ўжо іх прамачыла, упарта адмаўляюцца ад падарункаў.

“Можа пакрыўдзіліся, што парасоны мы ім занадта танныя купілі? А можа дажджу ніколі не бачылі? Халера іх разбярэш, гэтых беларусаў...” – падумаў брусельскі кіраўнік групы.

“Чым гэта так заклапочаны брусельскі кіраўнік групы? Трэба яму наведаць псіхааналітыка, які займаецца ўплывамі колераў на паводзіны чалавека-разумнага” – падумалі беларусы.

## Нюансы перыферыі

Калі вы ніколі не былі ў Свіслачы, невялічкім раённым цэнтры, што на Гарадзеншчыне, то ўсе іншыя паездкі ды вандроўкі вашага жыцця не маюць аніякага сэнсу. Вы проста цягаліся, як той дурань з торбай, і ў кожным новым месцы сумавалі ад занудлівай логікі пазнанага.

У Парыжы можна паглядзець толькі Парыж. Эйфелевая вежа ці Ялісейскія палі – гэта толькі дапаўненні да Парыжа. Іх вы ўжо неаднаразова бачылі на здымках, рэкламных шчытах, у кінафільмах, і яны ўжо не маюць для вас асаблівай каштоўнасці. Яны – проста Парыж. У Мінску, Варшаве ці Берліне вы ўбачыце адно і тое ж – мітусню людзей вялікага горада. Можа нават атрымаеце пэўную асалоду ад іх разгубленых, дэзарыентаваных інтэнсіўнасцю мегаполіснага жыцця твараў. У Маскве вы проста заблукаеце, і не зможаце пазбавіцца адчування, што заехалі занадта далёка ад сваёй планеты. А вось пасля наведвання Свіслачы (Божа мой, Свіслачы!), знакамітая кніга Гінеса падасца сумнымі занатоўкамі для гультаёў.

Чаго вартая толькі адна “славутая” “Алея герояў”. Перад уваходам вас вітае інтэрнацыянальная, ці калі выслаўляцца па сэнсе, антынацыянальная савецкая зорка і прывітальны надпіс украінскіх нацыяналістаў “Слава героям”. Кожнаму, хто гэта бачыць, хочацца стаць стромка, з імпэтам перакананага нацыяналіста адказаць надпісу: – “Героям слава!”, ды заспяваць інтэрнацыянал зорцы. А на самой алеі стаяць адзін каля аднаго помнікі Сталіну і Траўгуту, Леніну і Кастусю Каліноўскаму. Чаму гэтых ідэалагічных антыподаў аўтары праекту паставілі разам растлумачыць проста. У

Свіслачы навучыліся гнаць вельмі моцную самагонку, якую мясцовыя аматары нездаровага ладу жыцця называюць “карчоўка”. Хіба таму, што вырабляюць яе пад карчамі ў Белавежскай пушчы. А можа таму што гоняць з карчоў (наконт гэтага спрэчкі цягнуцца стагоддзямі). Але хто яе пакаштуе, пачынае бачыць сэнс жыцця ў абсурднасці. Хіба таму мясцовыя ўлады з перапою і залічылі ў героі беларускага народу ўсіх асобаў, помнікі якім на той момант мелі ў наяўнасці.

Да 1994-га году ўлада і апазіцыя жылі там даволі па-прыяцельску. Віталіся, размаўлялі, часамі пагаджаліся ў поглядах. І гэта дзякуючы ўсё той жа славутай карчоўцы. Людзі там надзвычай шчырыя, спакойныя. Прыкметаў агрэсіўнасці няма на генетычным роўні. Мабыць што зямля такая, добрая. Там нават сабакі гуляюць з зайцамі. У даганянкі. І калі зайца не дагоняць, то нічога кепскага яму не чыняць. А вось пасля змены ўлады ў Мінску, мірнае суіснаванне розных палітычных поглядаў, нават у межах аднаго асобна ўзятага раённага цэнтра, закончылася. Дайшло аж да арыштаў.

Надумаліся неяк апазіцыянеры ўшанаваць памяць паўстанцаў 1863-га году. Пайшлі на магілу Віктара Каліноўскага, паклалі кветкі. Нікога не чапалі. А ўлады чагосьці засталіся незадаволенымі. Ці што іхным Сталіну з Леніным не было каму кветак купіць, ці хто вышэй загад аддаў, папалохаўшы астрогам за яго невыкананне. Пахапалі міліцыянты апазіцыянераў, як паўдуркі кніжкі на лацінскай мове, ды прывалаклі ў пастарунак. А што далей рабіць – не ведаюць. Мітусяцца, круцяцца як вошы на грэбні, кансультуюцца па тэлефонах. Начальнік мясцовай

міліцыі, хіба каб час зацягнуць, нават пачаў прыдурвацца, асабліва перад гарадзенскімі гасцямі, якія таксама завіталі на тую імпрэзу:

– Хлопцы, я ж за вас. Проста ў мяне работа такая. Халера б яе ўзяла. Я ж за вашага Пазняка галасаваў. І за гэтага..., як яго..., забыўся. Магу пабажыцца (тут ён чамусьці зірнуў на партрэт прэзідэнта, што вісеў у кабінеце і бажыцца перадумаў). Вы мне падпішыце пратаколы, а я скажу знаёмаму суддзю, каб да вас не прыдзіраўся. У нас тут усе сваякі, што ў судзе, што ў міліцыі. Дасць вам толькі папярэджанні. І то, пасля возьме на тыдзень адпачынак, каб замаліць гэты грэх у царкве.

– Мы яму самы грэх адпусцім. Толькі пабажыся, што і ён за Пазняка, – рагочуць затрыманыя. Бо тым усядно рабіць няма чаго. Могуць і ў арышце пасядзець сутак пятнаццаць. З працы іх даўно павыганялі. Іншага занятку, акрамя палітыкі, не знойдзеш. Вось і цешацца з міліцыянтаў, пагульваюць, прыдурваюцца. А якая будзе кара, ведаюць раней чым суддзя. Людзі з вопытам. І не памыліліся. Суд пакараў кожнага даляраў пад васемсот.

З залы суда выйшлі дзвюма рознымі групамі. Міліцыянты, якія на гэты раз былі па сумяшчальніцтву хлуслівымі сведкамі, вывалакліся самы сабе. Апазіцыянеры, ці на праўнай мове гэтага дня – падсудныя, таксама асобна. Кінуўшы ў бок фальшывых сведкаў пару-тройку нецэнзурных выслоў'яў з расейскай мовы, апазіцыянеры пацягнуліся "палепшыць" матэрыяльнае становішча да бліжэйшай кропкі продажу карчоўкі, размаўляючы далей выключна па-беларуску. Там яны яшчэ раз убачыліся з прадстаўнікамі праваахоўных органаў, якія планавалі зрабіць тое ж сама.

Але тыя, заўважыўшы людзей, якія на гэты раз ужо па-беларуску выказалі жаданне падбіць якому-небудзь небараку ў мундзіры вока – паўцякалі.

Карчоўка скончылася апоўначы. Таму аднаму з апазіцыянераў прыйшлося пайсці ў рэстаран па дабаўку. А там, расхрыстаўшы мундзіры, з чорнымі як зямелька ад колькасці выпітага мордамі, сядзелі тры міліцыянты. Апазіцыянера як чорт намовіў. Ён сеў да тых за столік, наліў сабе іхняй гарэлкі, выпіў, і спакойным, як у белавежскага зубра рыкам звярнуўся да разгубленых ахоўнікаў парадку.

– Ну што, казлы, папаліся. Мы сфільмавалі на відэастужку, як вы тут прапіваеце свой сабачы хлеб. Заўтра перашлём яе ў Мінск. Вашае ж начальства вас і папрэ з працы. За п’янства ў мундзірах. Вось так. А вы думалі мы вам не адпомсцім?

Адзін з міліцыянтаў стаў азірацца і закрываць рукамі пагоны. Другі засланяў твар. А трэці штосьці хацеў адказаць, але нечакана для сябе закрыў рукой рот. А праз хвіліну, як па камандзе, яны кінуліся да дзвярэй, пакінуўшы на стале фуражкі, недаедзеныя катлеты і недапітыя кілішкі.

Ніхто з прысутных гэтаму факту не здзівіўся. У свіслацкіх своеасаблівы тэмперамент. Толькі маладая афіцыянтка звярнулася да апазіцыянера:

– Мы за вас прагаласуем на выбарах. Абавязкова. Толькі не паразганяйце з рэстарану рэшту кліентаў.

Ды апазіцыянер гэтага ўжо не чуў. Ён спяшаўся да сяброў расказаць гэтую гісторыю. А найбольш цешыўся з таго, што міліцыянты сваім сябрам яе ні за што не распавядуць. Не адважацца.

## Сяброўская сустрэча

Віктар прачнуўся ад манатоннага і навязлівага як голас судовага выканаўцы тэлефоннага гудка. Уставаць не хацелася. Напярэдадні апазіцыя ладзіла мітынг, на арганізацыю якога Віктар згубіў амаль усю сваю энергію і зараз вельмі хацеў адпачыць. Ён вырашыў не падымаць слухаўку, але тэлефон не здаваўся. Яго занудлівыя гудкі лупілі як паленам па галаве і пераварочвалі вантробы. Апазіцыянер хацеў вырваць з разеткі шнур, але паколькі разетка была яшчэ далей ад ложка, чым тэлефон, вырашыў адгукнуцца.

– Халё! – закрычала слухаўка вясёлым бадзёрым голасам. – Прывітанне сябра! Яўген з гэтага боку. Я ў Беларусі, у Мінску. Хутка еду да Гародні. Вельмі хачу сустрэцца.

– То едзь хутчэй, – узбадзёрыўся Віктар. Ад гэтай радаснай навіны і мажлівасці ўбачыцца з замежным беларусам, ды яшчэ ў дадатак добрым сябрам, сон як рукой зняло. – Толькі ператэлефануй як будзеш выязджаць. У нас новы офіс. Запішаш адрас перад выездам.

– О кей! Чакай на званок. І пакліч Зміцера з Уладзімірам.

Хвілін праз дваццаць Зміцер і Ўладзімір ужо накрывалі ў новым офісе стол, з імпэтам і шчырай радасцю ад хуткай сяброўскай сустрэчы расстаўлялі кілішкі. Мінула гадзіна, другая, але Яўген не ператэлефаноўваў.

– Ну што, – першым не вытрымаў Зміцер. – Пустыя кілішкі глядзяцца гэтак жа неэстэтычна, як труна без нябожчыка. Можа перакулім па адной.

Хлопцаў доўга ўгаворваць не давялося і бліскучая бу-

тэлечка пайшла вакол стала як маладая танцорка перад паважанай публікай. Неўзабаве апусцела і другая. Сябры гаманілі паміж сабой, зрэдку перапыняючы размовы каб злётаць у краму. Хтосьці ім увесь час тэлефанаваў, але гэта быў не Яўген. Эйфарыя ад хуткай сустрэчы з сябрам, памножаная на нейкую там колькасць кілішкаў, не давала сумаваць. Было весела. Хлопцы расказвалі анекдоты, смяяліся, жартавалі. І калі Зміцер некага па тэлефоне праінфармаваў, што апазіцыянеры знялі новы офіс, і назваў адрас, Дзяржынскага 1/95, Віктар з Уладзімірам амаль пад стол не закаціліся ад смеху. Справа ў тым, што нумар дома быў не 1/95, а 95/1. А Зміцер, не зразумеўшы што смяюцца з яго, спакойна паклаў слухаўку і заявіў:

– Яўген тэлефанаваў з нейкай запраўкі. Ён ужо пад Гародняй. Я яму даў наш новы адрас.

У Віктара з Уладзімірам адвіслі сківіцы, нібыта яны ўбачылі жанчыну з касой, і каса была металічная, а жанчына старая.

– Ты што, прыдурак, – зараўлі яны ў адзін голас. – Ты ж даў не той адрас.

Цяпер сківіца адвісла і ў Зміцера. Тым больш што сітуацыя выглядала так, што зараз якраз па гэтым месцы ён і дастане.

– Хлопцы, я ўсё выпраўлю. Пайду да таго дома адрас які я назваў, дачакаюся Яўгена і прывяду яго сюды, – спалохана адзаікаўся ён і знік за дзвярамі.

Вярнуўся хутка. З бутэлькай, але без Яўгена.

– Няма ў нашым горадзе дома з такім адрасам, – разгублена заявіў ён і перакуліў чарговы кілішак.

Трэба было імгненна нешта прыдумаць. Сябры зрабілі цэлы мазгавы штурм, разглядзелі ўсе мажлівыя варыянты, як выправіць сітуацыю, і спыніліся на адным. Яны ўзялі паперу, напісалі на ёй 1/95, і заклеілі гэтымі лічбамі на доме нумары 95/1. Выглядала так, што гэтыя шыльды там былі заўсёды.

Гэта спрацавала. Праз нейкі час у офіс заваліўся Яўген.

– Але ў вас і архітэктары дурныя, каб яны павыдыхалі, – заявіў ён з парогу. – Як яны нумарацыю дамоў вызначаюць. У сярэдзіне вуліцы паставілі дом з нумарам адзін. Я ўсе ногі пазбіваў, пакуль яго знайшоў. Думаў здурнею і буду астатак жыцця такі ж тупы, як вашы архітэктары.

Гаспадары пагадзіліся з высновай пра архітэктараў. Нават кінулі ў іх адрас яшчэ пару-тройку абразлівых фразаў і радасныя ад таго, што сустрэча ўсё ж адбылася, прыселі за стол. Неўзабаве высветлілася, што з раніцы ў іх вельмі важная сустрэча (Яўген дамовіўся пра яе з нейкімі важнымі замежнікамі), на якую ні ў якім разе нельга спазніцца. Таму хлопцы доўга не сядзелі, пераначавалі на офісе (офіс быў звычайнай гарадской кватэрай), а з раніцы паўскоквалі як штыкі, выклікалі таксі, і былі гатовыя да сур'ёзных размоваў. Але таксі не ехала. Праўда, нейкая машына ўвесь час круцілася непадалёку, але да апазіцыянераў не пад'язджала. Хутка мінуў і час сустрэчы з важнымі замежнікамі. Настрой быў канчаткова сапсаваны. Прыйшла ў галаву нават версія, што КДБ наўмысна загадаў таксапарку не прысылаць машыну, каб сарваць тую важную сустрэчу. Хлопцы зайшлі ў краму, купілі прадуктаў, і па дарозе назад нос у нос сутыкнуліся з разгубленым чалавекам, які хадзіў і ўзіраўся на нумары дамоў.

– Прабачце, – звярнуўся чалавек да сумнай кампаніі. – Я таксіст. Мяне гадзіну таму выклікалі на адрас Дзяржынскага 95/1, а я не магу знайсці гэтага дому. Недзе тут мусіць быць. Ужо цэлы бак бензіну выпаліў, а дома не знайшоў. Падкажыце дзе гэты дом, каб ён згарэў. Можа вы ведаеце?

– Ах ты гадзіна, – зараўлі апазіцыянеры ў адзін голас. Вось жа гэты дом, у цябе пад носам, прыдурак ты аслеплы. А ты швэндаешся тут як смурод па кальсонах, і ні халеры не бачыш. Аслеп, ці што? Зараз мы табе зрок направім.

– Прабачце, – спалохана запярэчыў таксіст. – Але ж на гэтым доме напісана 1/95, а я пытаю пра 95/1.

Хлопцы паднялі вочы на свой дом. А там, са сцяны ім ветліва ўсміхаліся наклееныя ўчора шыльды з надпісам Дзяржынскага 1/95.

## Золата партыі

– Цікава, як знайсці правільны падыход да нашага выбаршчыка, – задумліва ўздыхнуў Лявон, пасля лекцыі па выбарчых тэхналогіях, якая адбывалася ў Літве, і на якой амерыканцы вучылі беларусаў, як правільна працаваць, каб перамагчы на выбарах у Англіі. – Што цікавіць беларускага выбаршчыка, хіба не ведае ані ён сам, ані хто на свеце. Мне здаецца, што наш чалавек кіруецца толькі эмоцыямі. – Працягваў разважаць Лявон. – І верыць абы чаму. Тэлевізару давярае як вясковаму папу. А там нас зняслаўляюць, як п'яныя матросы ўчарашнюю каханку. Кажуць што мы на замежныя грошы існуём. А людзі слухаюць, і думаюць што праўда. Так мы ніколі іх сімпатый не здабудзем. Бо верацаь яны ўсялякай хлусні.

– Можа яно і так, – сумна ўздыхнуў Віктар. – Але якія бываюць цікавыя гісторыі, звязаныя з сімпатыямі нашых выбаршчыкаў! І з тым, як яны рэагуюць на замежныя сродкі. Давай, калі хочаш, раскажу табе адну.

Даўно гэта было. Тады яшчэ ў нашым горадзе нават беларускамоўныя школы функцыянавалі. Прайграў я неяк выбары ў мясцовы савет. Прайграў – слова не тое. Сам ведаеш якія ў нас выбары. І які выбар. Як у барана на бойні. Выйграе заўсёды той, хто мае права лічыць галасы. Чаго толькі мы туды сунемся, у тыя выбарчыя кампаніі? Пішчмо лезем, як каровы ў бульбоўнік. Хоць ведаем што ўсё ўжо палічана. Нас яшчэ цяжэй зразумець, чым тых выбаршчыкаў.

Ну, але бліжэй да тэмы. Заўважыў я пасля тых прайграных выбараў, што знаёмыя і суседзі, якія напачатку нібыта

ставіліся да маёй дзейнасці з павагай, нават дапамагалі на выбарах, пасля майго пройгрышу сталі ставіцца да мяне несур'ёзна. Нават некаторыя падсмейваліся. Што, маўляў, апазіцыянерчыкі. Ні чорта вы зрабіць не можаце, і нічога не вартыя. І няздольныя ні на што, як егіпецкія муміі.

Мяне гэта вельмі турбавала. Бо менавіта на гэтых людзей увесь разлік. І тлумачыў я ім, і даводзіў розныя думкі – усё марна. Як гарохам аб сцяну. Хоць ім кол на галаве чашы. Не даходзіць. Ніхто і слухаць не хоча. Лепш купяць бімбару ў краме, зальюць вочы, і толькі тады цябе прызнаюць, калі ты з імі разам пацягнеш шклянку другую. І то, не цябе слухаюць, а стараюцца табе давесці, што ні халеры зрабіць немажліва, што ад нас, людзей маленькіх, нічога не залежыць і на які чорт нам усім тое патрэбна.

А апазіцыя зноў да выбараў пачала рыхтавацца. Навучальныя семінары пайшлі. Дай, думаю, і я з'езджу на які. Можа што новае пачую, як зноў давер у людзей набыць. Семінар тады ладзілі ў Варшаве. Нічога новага я не пачуў, і нічога забароненага з сабой не вёз. Але ўлада меркавала інакш. Затрымалі мяне з яшчэ адным знаёмым на мяжы, і паперы нейкія пад нос сунуць. Маўляў, усе ад каго гэта залежыць, далі згоду каб нас абшукаць і ўсё што хочуць забраць, нават калі палічаць за кантрабанду блох, і нават калі падрыўной літаратурай прызнаюць напіс фірмы вытворцы на гадзінніку. І на тых паперах, якія ім дазваляюць усё вызначаць як ім захочацца, свае аўтографы ўжо паставілі. Засталося толькі ўнесці нашы тлумачэнні.

Спрачацца мы не сталі. Тым больш што кішэні пустыя як у алкаголікаў. Усё ў галаве перавозім. А на мытні ў нас усё чагосьці шукалі ў вопратцы. Што там магло быць? Я

ажно падумаў, што ўлада лічыць нас яшчэ дурнейшымі, чым тыя, хто ніяк не можа зразумець, з якой нагоды людзі сунуцца ў палітыку.

Колькі нас не трымай, а адпускаць усё адно трэба. Проста непрыемна на душы было, нібыта сто катоў туды наплявалі. Вярнуўся, называецца, на Радзіму. А Радзіма сустрэла раскрытымі кайданкамі. Ды і знаёмыя, мяркую я сам сабе, яшчэ больш смяяцца будуць. Зноў скажуць, што мы слабыя, як здохшы кот, і з намі могуць зрабіць што заўгодна. Ды яшчэ чуткі распусцяць якія, што замежныя грошы перавозіў. Бо так казалі тыя, хто нас абшукваў. Грошы, кажуць, шукаем.

Але найбольш я быў уражаны назаўтра. Мае знаёмыя і суседзі глядзелі на мяне з нейкай таямнічай павагай, як падлеткі на майстра каратэ, кун-фу і боксу разам. Нейкія газеты перадавалі адзін другому, да мяне падыходзілі, і таямніча-даверлівым прыціхлым голасам, нібыта вербавалі мяне ў японскія шпіёны, казалі, што калі мне будзе патрэбная нейкая дапамога, то магу на іх разлічваць. Яны не толькі могуць дапамагчы, але і хочуць гэта зрабіць, і нават настойваюць на гэтым.

Майму здзіўленню не было межаў. Я таксама купіў газету, і ўбачыў артыкул, які саркастычна-жартаўліва апавядаў, здзекуючыся з уладаў і сілавых службаў, што ў мяне на мяжы шукалі золата партыі. Зразумела, што партыя апазіцыйная, а золата замежнае. Такое прыгожае тое золата, у зялёных паперках з партрэтамі амерыканскіх прэзідэнтаў. І нібыта вельмі шмат таго золата хацелі знайсці. Толькі я яго так схаваў, што найноўшая апаратура не здолела выявіць.

Я сеў на лаўку з той газетай у руках і доўга смяяўся як малады жарабец на прапанову старой каровы. Не з артыкула, а з таго, як адрэагавалі на яго людзі. Во калі зноў павага да мяне вярнулася! Не тады, калі я згубіўшы працу, усядно змагаўся за свае ідэалы, не тады калі мяне затрымлівалі, арыштоўвалі, судзілі, а я стаяў на сваім. А тады, калі знаёмыя і суседзі паверылі ў тую лухту, што мы з-за мяжы можам браць столькі сродкаў, колькі хочам. І цяпер, калі хтось падыходзіць і пытаецца, так напачатку трохі недаверліва, ці праўду казалі па тэлевізіі, што нам амерыканцы сорак мільёнаў даляраў далі, я заўсёды адказваю так:

– Праўда. Але гэта толькі афіцыйна. Неафіцыйна мы чакаем значна больш.

І ты ведаеш, яшчэ нікога не сустрэў, хто гэтае паведамленне ўспрыняў бы адмоўна. Наадварот. Успрымаюць неяк, я бы сказаў, з павагай. І з вялікім шкадаваннем, што яны раней не ўступілі ў якую-небудзь апазіцыйную партыю.

## Сцяг у рукі

– Чарговыя звесткі пра чарговы этап інтэграцыі Беларусі і Расіі чарговы раз прымусілі нас, мясцовых апазіцыйных палітыкаў сабрацца разам, каб вырашыць пытанне з чарговым мерапрыемствам, каб чарговы раз засведчыць, што палітыка беларускіх уладаў чарговы раз цалкам разыходзіцца з думкай беларускага народу, які нізашто не палезе ў чарговую маскоўскую авантуру, нават калі чарговы раз прагаласуе на рэферэндуме за чарговую інтэграцыю. – Выдыхнуў Міхась, і ўважліва паглядзеў на прысутных.

Міхась зусім нядаўна стаў кіраўніком мясцовай філіі партыі БНФ. Многія, нават тыя, хто яго абіралі, пасмейваліся з гэтага поўнага, трохі больш сярэдняга ўзросту чалавека. Іранізавалі з яго манеры гаварыць, трымацца, апранацца, але шанавалі за адданасць справе, руплівасць і працавітасць. Вось і цяпер ён тэрмінова сабраў сход, каб нейкім чынам адрэагаваць на спробу беларускіх і расійскіх уладаў "яшчэ больш паглыбіць працэс інтэграцыі".

– І разумееце, якія яны шалёныя сабакі, – працягваў Міхась пераконваць і так даўно перакананых аднадумцаў. – Незалежнасцю, самым святым гандлююць, жывёлы! Мы мусім адрэагаваць. Прапаную зрабіць мітынг, на які збяром як мага больш удзельнікаў і растлумачым людзям бесперспектыўнасць і ганебнасць такога кроку гэтай улады. Народ нас зразумее.

– Што мы можам растлумачыць? – Засумняваўся нехта з прысутных. – Многія з тых, каго мы заклікаем прыйсці на мітынг, самі галасавалі на рэферэндуме за інтэграцыю. Што ты з дурняў возьмеш, акрамя аналізаў. Трэба на мітын-

гу не тлумачыць нічога, а прыдумаць такое радыкальнае дзеянне, што людзям у мазгах адкладзецца, і пра што будуць памятаць усё жыццё.

– Людзі то на рэферэндуме галасавалі, ды не той рукой. А на другой руцэ пальцы трымалі крыжыкам. Альбо фігай. Так што такое галасаванне не лічыцца, – не пагадзіўся Міхась. – А вось наконт таго, каб прыдумаць чаго, то гэта правільна. Сябры, якія будуць прапановы?

– Давайце расійскі сцяг спалім. Каб паказаць наш пратэст супраць навязвання маскалямі нам сваёй палітыкі, – прапанаваў Вадзім.

– Добрая ідэя, – узрадаваўся Міхась. Ён гатовы быў падтрымаць кожную ініцыятыву, бо сваіх у галаве не вадзілася. – Хто будзе паліць? Справа сур’ёзная. Зразумела, што ўлады гэтым людзям не даруюць. Адпомсцяць. Будуць пакаранні. І вельмі моцныя. Можа нават і адсідка.

Прысутныя пазаціхалі, як засечаны певень. Каму ахвота на ражон лезці. Але ж некаму трэба. Што зробіш?

– Давай мы спалім, як няма больш каму, – перамовіўшыся між сабой, пагадзіліся Мірон з Раманам. – Толькі хай нехта набудзе расійскі сцяг, і прынясе на мітынг. Самыя мы маскальскага сцяга шукаць не будзем. Тым больш купляць. А там, пасля выступу, мы яго спалім і нагамі патопчамся. Можа яшчэ і плюнем.

– Выдатна, – уздыхнуў Міхась. – Пошукі сцяга я бяру на сябе. А зараз выпрацуем сцэнарый мерапрыемства.

Тады апазіцыйныя мітынгі былі вельмі шматлюдныя. Людзі прыходзілі як на свята. Перш за ўсё, каб пасмяяцца з свайго выбару – якіх яны абралі дэпутатаў, ды

якога прэзідэнта. Весялей забавы не прыдумаеш, чым з сябе пасмяяцца. Нават маючы адукацыю масавіка-весялуна. Міліцыя ў той час яшчэ не навучылася біць і арыштоўваць усіх прысутных. Гэтая навука прыйшла да іх пасля, бо багата мелі практыкі. А тады здзекавалася толькі з арганізатараў і выступоўцаў. Таму людзі не баяліся збірацца пад бел-чырвона-белымі сцягамі, і паслухаць апазіцыйных аратараў. Усядно рабіць не было чаго. Па тэлебачанні толькі пра неверагодныя "нашы поспехі нашай сельскай гаспадаркі" расказваюць. Звар'яцець можна ад суму. Адзін чалавек неяк заснуў гледзячы тэлевізар, то прысніў сон, нібыта даярка нейкага "перадавога" калгасу "Шляхам Ільіча", узяла ды ацялілася. Дала калгасу прыбытак адразу сем цялушак, аднаго бычка і дванаццаць парсючкоў. І за гэта мясцовага конюха сам прэзідэнт узнагародзіў ордэнам. Прама ў канюшні. Той чалавек, што сон прысніў (па прафесіі ён быў гінеколаг), прачнуўся ўвесь спацелы і зарокся не глядзець больш беларускай дзяржаўнай тэлевізіі, а хадзіць на мітынгі апазіцыі.

На гэты раз людзей сабралася багата. Відаць сапраўды пытанне было важнае. Апазіцыя дзейнічала згодна з раней абмеркаваным сцэнарам, толькі выпадаў адзін важны момант – спаленне сцяга. Міхась як дурная мяцёлка насіўся па горадзе, каб яго набыць, але нідзе не мог знайсці. А іншыя апазіцыянеры бясконца выступалі на ўжо пачатым мітынгу, паўтараючы адно і тое ж, наўмысна зацягвалі прамовы, каб дачакацца дзесьці прапаўшага кіраўніка мясцовай партыйнай філіі з расійскім сцягам, які па сцэнару трэба было спаліць, патаптаць і абпляваць.

Нарэшце, зразумеўшы што расійскага сцяга купіць не атрымаецца, Міхась набыў чырвоную, белую і сінюю стужкі, прыляцеў як вецер у атэльe, заплаціў каб стужкі сшылі і на таксі прыпёрся на мітынг. Выцягнуў з-за пазухі толькі што пашыты сцяг і сунуў яго Мірону і Раману. Тыя, з воклічамі "Жыве Беларусь!", і пад радасныя, як на вяселлі ідыётаў крыкі ўсіх прысутных, падпалілі яго, кінулі на зямлю, і з прыемнасцю патапталіся пакуль той дагараў. Пляваць не сталі. Баяліся затушыць агонь.

Нейкі час хлопцы чакалі арышту. Але ніхто па іх душы не прыходзіў. Здзіўленню не было канца. Няўжо з рук зышло такое. Спалілі расійскі сцяг, а ўлады ніяк не рэагуюць. Зусім мышэй не ловяць. А як жа абарона задэклараваных ідэй інтэграцыі? Але ўсё ціха. Ніхто не прыйшоў. Гэтая гісторыя ўжо пачала забывацца, як да Мірона і Рамана ў госці завітаў знаёмы. Ён доўга разглядаў фотаздымкі з таго мітынгу, а пасля разгублена запытаў:

– Ну здаецца ўсё разумею, і што вы супраць інтэграцыі, і што за незалежнасць, і за дэмакратыю... Аднаго не магу ўцяміць – чым вам Галандыя не дагадзіла?

– Якая Галандыя? – У хлопцаў валасы на галаве падняліся як у п'янога панка.

Яны вырвалі ў госця з рук фатаздымкі і ўрэзаліся ў іх вачамі. Пасля, не дамаўляючыся, хапілі запалкі і сталі іх паліць, каб не дай Бог яшчэ хто не ўбачыў. Усё стала зразумела. Вось чаму хлопцаў не арыштавалі! Фатаздымкі сведчылі, што замест расійскага, яны спалілі галандскі сцяг. У атэлье, дзе яго шылі, пераблыталі палосы.

Але сама цікава наступнае: – што думалі ў КДБ, праглядаючы відэастужку. Навошта апазіцыянеры паляць га-

ландскі сцяг? Во дзе загадка для разведчыкаў!

– Дзіўныя вы людзі, апазіцыянеры, – яшчэ больш разгублена заявіў Мірону і Раману іхны госць. – То сцягі паліце на мітынгах, то потым паліце фатаздымкі з гэтых мітынгаў. Ні халеры не разбяруся я ў вашых палітычных справах. А адукацыю маю вышэйшую. А калі я, чалавек які з вамі сябруе і амаль штодзённа бачыць, не можа вас зразумець, то як вас іншыя людзі зразумець могуць?

## Вернасць абавязку

Брудная старэнькая машына з цяжкасцю пераадолела невялічкую лужыну і, адпакутаваўшы яшчэ некалькі дзесяткаў метраў, спынілася каля брамкі апошняй хаты невялічкай лясной вёскі, што ляжыць забытая ўсім светам у Дзятлаўскім раёне на Гарадзеншчыне. Штурхануўшы плячом пярэднія правыя дзверкі, з задымеўшай як паравоз пародыі на Форд-Сіеруываліўся ў цемру ночы невысокі светлавалосы чалавек. Шафёр гэтай цуда-тэхнікі таксама паспрабаваў вырвацца з палону сваёй маёмасці, якая здаецца ў гэты момант памяняла статус з аўтатэхнікі на нерухомасць, але дзверкі з яго боку не адчыняліся нават пасля моцных удараў галавой.

– Мікола, я хіба пасяджу тут. А то, адчыняючы машыну, растаўку башку мацней, чым той гнілы хлеў, у які мы паўгадзіны таму ўрэзаліся, – прастагнаў расчараваны няўдалым адзінаборствам з дзверкаю іх гаспадар.

– А ці я табе не казаў, што каб ездзіць па начах, трэба адрэмантаваць святло. Тады і хлявы былі б цэлыя, і дзверкі ў машыне не памятыя, – буркнуў Мікола і дадаў: – Сядзі ўжо. Без цябе разбяруся. Толку з цябе, што з казла малака.

Ён адчыніў брамку і пагрукаў у дзверы хаты. Праз колькі хвілінаў дзверы прыадчыніліся і з шчыліны паказаліся дзве рукі.

– Па маю душу, якая нават чарцям непатрэбная, прыпёрліся, – грымнуў гучны бас з таго боку дзвярэй. – Ну давайце, накладвайце кайданкі, пакуль я яшчэ сонны. А то як прачнуся, пераб'ю ўсю дзятлаўшчыну разам з мірным насельніцтвам.

– Супакойся, Валодзя, – прастагнаў Мікола, хапіўшыся за галаву абедзвюма рукамі. – Дасталі мяне ўжо твае жартачкі за столькі гадоў знаёмства. Гэта я. А на кайданкі ў мяне бракуе капейкаў. Гэтак жа, як і на ежу. Тыя, што прыедуць з кайданкамі, заваляцца да цябе без груку.

– О-о-о! Браце бэнээфавец! – узрадаваўся Ўладзімір. – А які нячысцік цябе прынёс у наш закінуты куток? Няўжо зноў выбары пачаліся, што гарадзенскія апазіцыянеры нарэшце пра мяне ўспомнілі? У такім разе вы працуеце лепш чым улада. Тыя яшчэ не паспелі напалохаць маю вёску кандыдатам ад апазіцыі, які, нібыта, толькі і марыць, каб адабраць пенсію ў струхнелых бабулькаў.

– Выбары ўжо сканчаюцца, – вяла пазяхнуў суразмоўца. – А ў Мінску толькі зараз улёткі надрукавалі, каб іх трасца ўзяла. Вось езджу, раздаю людзям. Каб раскідалі ды парасклейвалі дзе трэба. На бачных месцах. На слупах, дрэвах, прыбіральнях... А тваіх бабулек няма ніякага сэнсу палохаць. На гэты раз у ўладаў іншая тактыка. Яны ўжо ўсе галасы палічылі. Але агітацыю ўсядно разнесці трэба, каб яна ляснулася. Так вырашылі ў Мінску.

– Справа патрэбная, – абапёрся аб сцяну Ўладзімір. – Як трэба, то зраблю. Давай свае ўлёткі. Колькі там прывёз?

– Чатыры тысячы, – пачырванеў невысокі чалавек і паспрабаваў адвесці сарамлівы позірк у бок.

– Што-о-о! Ды вы там хіба павар'яцелі ўсе ў абласных цэнтрах ды сталіцы. – Паспрабаваў глянуць у вочы госцю двухмятровы вясковы гігант, для чаго нагнуўся так, што мала не зарыўся носам у зямлю. – Чатыры тысячы! Ды ў маёй вёсцы ўсяго трыста мордаў жыве. Гэта разам з малымі дзецьмі давыбарчага веку, старымі бабулькамі, што пачалі

зямелькай пахнуць і чытаць даўно развучыліся, сабакамі, катамі і ўсёй скацінай разам. Мне што, ваўкам тваю агітацыю раздаваць?

– Ды не вылупляй ты на мяне свае бельмы. Яны ў цябе ўжо і так большыя ад поўні, – прастагнаў Мікола. – Заўтра апошні дзень агітацыі. Я ў Мінску абяцаў, што ўсе ўлёткі паспею раздаць. Рабі што хочаш, але толькі забяры іх у мяне.

– Ах, ты, злыдзень, – вызверыўся калега па апазіцыі. – Ты што, прапаноўваеш мне іх выкінуць. Чаго тады валокся сюды? Сам бы і выкінуў к чорту.

– Я не магу. Па-першае – абяцаў раздаць. Па-другое – там партрэт нашага кандыдата, лозунгі нашыя. Не магу я. Сумленне не дазваляе.

– А ў мяне, мяркуеш, сумлення і вернасці партыйным абавязкам няма? Я таксама не магу праз гэта пераступіць.

Калегі па партыі ў задуменні селі на ганак. Памаўчалі. Першы адгукнуўся Ўладзімір.

– Тут недалёка жыве пара-тройка маладых хлопцаў. Паабяцаем на піва. Можа яны пагадзяцца разнесці? Па суседніх вёсках можа раздадуць.

Так і зрабілі. Пасля таго, як хлопцы павалаклі кожны па некалькі скрынак улётак, апазіцыянеры ўпёрліся ў машыну і паспрабавалі завесці яе з буксіру. Машына, якую піхалі дзве чалавечыя сілы перадолела лужыну лягчэй, чым калі каленвал круцілі сто семдзесят конскіх. Крыху забуксавалі толькі людзі. Але, як вырваліся на цвёрдую зямлю – свайго дамагліся. Машына зараўла так, што з дрэваў пасыпаліся

лісты, а пеўні і сабакі ў гэтай і навакольных вёсках яшчэ тыдзень баяліся падаць голас.

– На піва хлопцам маеш? – развітваючыся, спытаўся Ўладзімір.

– Скуль? – прастагнаў абласны кіраўнік. – У мяне з выбараў 91-га года па кішэнях гуляе вецер. Адны пазыкі засталіся. Ды і за што ім плаціць. Яны ж усядно разносіць не будуць. Выкінуць недзе. Добра калі таптацца па іх не будуць.

Праз нейкі час, седзячы ў хаце яшчэ аднаго знаёмага ў Дзятлаве ён ужо размаўляў па тэлефоне з вышэйшым кіраўніцтвам. Пасля размовы настрой значна палепшыўся, як у піякі пасля ранішніх сто грамаў. Мікола вельмі бадзёра выйшаў з хаты і сеў у машыну.

– Ну вось, – весела азваўся ён да шафёра. – У Мінску задаволеныя нашай працай. Кажуць, што калі я за што бяруся, то выканаю. Праўду кажуць. Я і сапраўды умею працаваць на сумленне.

– Яшчэ б ім нас не пахваліць, – узбадзёрыўся шафёр. – Пакуль яны спалі, мы за ночку на гэтым дабітым возе цэлую вобласць аб'ездзілі. Усе ўлёткі раздалі. Выканалі свае партыйныя абавязкі. Уклаліся ў тэрмін.

І машына, задымляючы Дзятлава чорным дымам з выкідной трубы і белай парай з усіх астатніх шчылінаў, рассякаючы пабітымі фарамі ранішні туман, сонна пасунулася ў бок Гародні.

## Перапынак на дзесяць хвілін

Задоўга да таго як самы адукаваны, з дыпломам юрыста і некалькімі вышэйшымі адукацыямі беларускі суддзя "вырашыць", якога пакарання "заслугоўвае" той ці іншы апазіцыянер, самы тупы апазіцыянер ужо ведае, якая кара і каму канкрэтна будзе за пэўныя дзеянні. Пры тым, найбольш прывабным у "судовым працэсе" над апазіцыянерамі, ёсць не ступень "парушэння" існага заканадаўства падсудным, а постаць таго, каму чалавек у чорнай вопратцы, дзеля якога сакратар гарлапаніць: - "Встать, суд идёт!", выносіць, узгоднены па тэлефоне з кімсьці вышэйшым (зразумела, што не з Усявышнім), і з вельмі далёкім ад юрыдычнай кампетэнцыі чалавекам, "свой справядлівы і мудры" прысуд.

– Перадайце суддзю, хай не нервуецца і ні з кім нічога не ўзгадняе, – звярнуўся да афіцэра мясцовай міліцыі Сяржук. – Нам прысудзяць па васемсот баксаў кары ў кожным выпадку. Так што, хай зачытвае свой інквізіцыйны прысуд і не даўбе мазгоў ні сабе ні людзям. І вам, "ахоўнікам" правапарадку бессэнсоўна губляць час на судах у якасці ілжывых сведкаў. Вы ж у такіх справах яшчэ больш дубовыя, чым у сваіх прафесійных абавязках. Ідзіце хапаць мясцовых алкаголікаў, а то план не выканаеце.

– Ды вы што, хлопцы, – зычліва ўсміхнуўся афіцэр мясцовай міліцыі. – Якія васемсот баксаў. За што?

– А за што вы нас затрымалі? – падключыўся да размовы Віктар. – Мы што, арганізавалі ўзброены захоп вашага раённага цэнтру?

– Ды і сам не ведаю за што, – міліцыянт пачырванеў

як пераварaны рак. На перыферыі міліцыянты далёкія ад палітыкі і стараюцца не сунуць туды носу. Таму не заўсёды арыентуюцца, а дакладней сказаць заўсёды не арыентуюцца, за што арыштоўваюць палітычных. Проста выконваюць загад зверху, наіўна спадзяваючыся, што справядлівы суд выправіць іх памылку. І загад будзе выкананы, і справядлівасць аднаўленая. Усё як кажуць мудрыя вяскоўцы, зыходзячы з народнай прымаўкі – і козы цэлыя і ваўкі сытыя. А што ад каровы толькі косці валяюцца, дык народная прымаўка па гэтым пытанні інструкцый не дае. – Нам зверху загадалі вас схапіць, – апраўдваліся ахоўнікі правапарадку.

– Ну і суддзю вашаму загадаюць. У яго таксама ёсць верх. Той самы, што і ў вас. Трэба за доўгія гады прыслужвання ўжо зразумець, што вы ўсе проста ніз. І ніжэй няма нічога. Усе астатнія, гэта ваш верх.

Ахоўнік правапарадку дачырванеўся да недаваранага бурака, але спрачацца не стаў. Толькі цяжка ўздыхнуў, апусціўшы вочы аж да роўню гузікаў на клінах у сваіх портках, нібы правяраў, ці ўсё там на месцы.

– Встать, суд идёт!, – уратавала яго ад яшчэ большых зменаў у колеры твару нафарбаваная як шалёная малпа сакратарка суда, якая здабыткі чалавечай цывілізацыі бачыла толькі ў мажлівасці малявання кожны дзень французскай губной памадай сабе лупаў пад колер савецкага сцягу.

Прысутныя падняліся з крэслаў. У зал паседжанняў уварваўся збянтэжаны мясцовы суддзя. Выглядаў ён надзвычай разгублена. Як воўк, які нечакана для сваёй зграі і для сябе самога, забрахаў па-сабачаму. Яго стала нават трошкі шкода. За столькі гадоў спакойнай працы, калі

даводзілася разглядаць справы з сямейнымі дэбашырамі-алкаголікамі, ці ў горшым разе з злоснымі неплацельшчыкамі элементаў, яму падсунулі нейкіх апазіцыянераў. А што з тымі рабіць? За што судзіць? Ну прыехалі хлопцы на могілкі, усклалі кветкі на магілу агульнапрызнанага нацыянальнага героя... Дзе тут злачынства? Але зверху... Нічога не хочуць слухаць. Як глухія цкцярукі на шлюбным танцы ў перыяд спарвання вясковых качак. Кажуць, што калі ў лапы роднай міліцыі патрапіла ажно два абласныя кіраўнікі апазіцыйных партый, то трэба іх караць адпаведна статусу. Адзіная надзея была на тое, што апазіцыянеры будуць паводзіць сябе па-хамску ў зале суда і можна будзе "прыкалупацца" да гэтага. Пакараць за непавагу да суда. Але тыя паводзілі сябе надзвычай стрымана і карэктна.

Суддзя абліваўся потам. Высветлілася, што пратакол складаў не той міліцыянт, які затрымліваў. Што сведкамі ёсць людзі, якіх у гэты час зусім не было ў раённым цэнтры. Праз кожныя пяць хвілінаў паседжання суддзя абвяшчаў перапынак на дзесяць хвілінаў, уцякаў у свой кабінет і доўга раіўся з кімсьці па тэлефоне. А аднаго разу, калі ён змучаны працэсам, спытаўся ў сведкі-міліцыянта, як той мог усё бачыць, калі ў гэты дзень зусім не быў на службе, ледзьве не самлеў ад атрыманага адказу.

– Што вы да мяне хочаце?! – загаласіў на суддзю міліцыянт такім голасам, якім племянны бык не можа зараўці нават пасля перапою. – Дамоўцеся там спачатку паміж сабой, зверху. Я чалавек маленькі. Што мне начальнік загадаў, тое я і гавару.

– Перапынак на дзесяць хвілінаў, – чарговы раз прастагнаў суддзя і зноў кінуўся тэлефанаваць.

Нарэшце, стомлены як пасля першай шлюбнай ночы, суддзя, чарговы раз спатыкаючыся, прытупаў у судовую залю. На гэты раз для абвяшчэння прысуду. Ён выцер з ілба пот, доўга ўглядаўся ў свае запісы, і, як здавалася, нічога ў іх не разабраўшыся, глянуў на Сяржука.

– Словам, вам штраф..., за парушэнне артыкулу..., у памеры...

– Васемсот баксаў, – смеючыся дапамог яму Сяржук.

– Так, – адказаў прадстаўнік судовай улады і, глянуўшы на Віктара, дадаў, – вам тое самае.

І куляй выскачыў з зала паседжанняў.

Сакратарка суда не чакала такой развязкі. Яна нічога не зразумела. Ні таго, што быў "зачытаны" прысуд, ні таго, што суд ужо закончыўся... Толькі падняла павекі так, што з іх як снег пасыпалася пудра, і яшчэ хвілінку памітусіўшыся, заявіла ўпэўненым цвёрдым голасам:

– Перапынак на дзесяць хвілінаў...

І пад усмешкі прысутных апазіцыянераў кінулася даганяць суддзю. Пакараныя таксама пасунуліся ў бок дзвярэй. На хвіліну яны затрымаліся і, убачыўшы збянтэжаных як кот, што надаў у муку, міліцыянтаў, што так і не маглі вырашыць, ісці ім ці заставацца, весела, праз слёзы, засмяяліся:

– Ідзіце, хлопцы, пакурыце. І не ламайце галовы над тым, каго сёння судзілі, нас, ці вас. Нас пакаралі па васемсот даляраў. А вам далі перапынак... На дзесяць хвілінаў...

## Вернасць слову

Пакуль міфалагічныя багіні Венера з Афрадытай спрачаюцца між сабой, якое з іхных пазашлюбных дзяцей, Купідон ці Эрас, маюць большую дасведчанасць і сілу ў амурных справах, зямныя двухногія істоты, перажыўшы ўсе дурноты юнацтва, не асабліва ламаюць сабе галаву падобнымі пытаннямі. І гэта не тое, што ім зусім ужо не патрэбныя пачуцці да іншага полу. Проста мацнейшая частка смяротных лічыць, што незямная цяга да жанчыны не мусіць замінаць ім час ад часу папіць піва з сябрамі. Тым больш не павінна шкодзіць у важных справах, ступень важнасці якіх яны самы і вызначаюць. Таму людзі, якія мусяць штодзённа цярпець пакуты галення твару, мараць адпачыць ад шчасця ўбачыць сваіх каханых жонак хоць бы у суботу, нядзелю, панядзелак і ўсе астатнія дні тыдня.

Адваротная мужчынскай частка насельніцтва мае свой прагматычны пагляд на бязмежную незямную веліч стасункаў мужчыны і жанчыны. Найперш, на іх думку, самец чалавека абавязкова мусіць штодзённа даказваць сваё каханне здабываннем неверагодна вялікіх сумаў грошай, неабходнасць у якіх памнажаецца прапарцыянальна ўжо зарobленым раней і расце па прынцыпе геаметрычнай прагрэсіі. Разам з тым, мужчына мусіць цэлы час сядзець у хаце, нікуды не выходзіць, дапамагаць гадаваць дзяцей, працаваць на гаспадарцы і ні ў якім разе не цікавіцца футболам і палітыкай. Хоць пры ўсім тым, слабейшая частка чалавецтва не адмаўляе сабе ў праве цікавіцца футбалістамі і палітыкамі. Асабліва багатымі. Або прыгожымі. А лепш калі і тое, і другое.

Палітыкі ў дэмакратычных краінах даўно сталі карыстацца з падобнай жаночай логікі. Бо добра ведаюць, што бываюць толькі два тыпы лагічнага мыслення – мужчынскі і алагічны. Таму там, калі хто хоча здабыць на выбарах галасы вечна ваюючых за роўныя правы выбарцаў, ці дакладней сказаць – выбаршчыцаў, абавязкова ілжэ, што ён багаты, малады, прыгожы, высокі і любіць жанчын. А вось беларускія палітычныя дзеячы ад апазіцыі, чамусьці не даацэньваюць фактар гендарнага пытання і агульнаабдуманага сямейнага выбару ў падтрымку якогась там кандыдата. Усё спадзяюцца на адвагу і настойлівасць мужчын, якім жанчыны возьмуць, ды і падпарадкуюцца. А з чаго такія высновы? Кожны ведае, што пераканаць жанчыну – справа не толькі безнадзейная, яле і вартая смеху. А іншыя аргументы ўздзеяння на жонак даўно забароненыя крымінальным кодэксам і шматлікімі нарматыўнымі актамі беларускага заканадаўства.

Нейкая разумная галава аднойчы прыйшла да высновы, што айчынныя палітолагі, палітычныя тэхнолагі і псіхааналітыкі ад палітыкі, ніяк не могуць зразумець галоўнай розніцы ў паводзінах выбарцаў і выбаршчыц. Жанчыны, заявіла яна (тая галава), кіруюцца інтуіцыяй, якая іх заўсёды і абавязкова падманвае (дастаткова паглядзець, якіх яны выбралі сабе мужоў, кіруючыся ўсё той жа інтуіцыяй альбо паслухаць, як яны на другі дзень пасля вяселля, цвердзяць, што выбралі сабе найгоршага на свеце). А мужчына, калі ён мужчына, кіруецца даным словам. І калі яго трымаецца, то хіба што пазбягае непрыемнасцяў.

Неяк, гарадзенскія кіраўнікі апазіцыйных партый напалохаліся, што на рэгіёнах стала змяншацца колькасць

людзей у партыйных структурах (нібы ў Гародні яна павялічвалася). Надумаліся праехацца па вобласці і на месцы разабрацца ў чым справа. Ці людзей там ужо так моцна запалохалі, што яны пазалазілі ў траву ніжэй карэнняў, ці па якой іншай прычыне былыя адважныя хлопцы пахаваліся ў бульбу. А мо кіраўнікі з адчаю, што ў самых ні халеры не атрымліваецца, пастанавілі паглядзець, ці ёсць хоць недзе хоць хто ў каго ёсць хоць нехта.

Надвор'е было, хоць пальмы садзі. Цёпла, хораша. Так прыгожа, як можа быць толькі ў беларускай вёсцы. Гарадзенцы ўзялі з сабой некалькі вараноўскіх актывістаў і выехалі на прыроду пагаварыць.

– Што тут можна сказаць, – зацягнуўся цыгарэтай Казік. Было бачна, што гэтаму вараноўскаму партыйнаму актывісту і самому недаспадобы такі стан рэчаў, які склаўся.

– Але ж нас і цяпер нямала. Прынамсі, каб зрабіць сапраўдную справу. Мы гэта не раз даказвалі. Сама мужныя не паўцякалі. Засталіся. Працуюць. Ёсць пэўныя зрухі. Проста сітуацыя змянілася. Душаць зараз нас, сабакі праклятыя! Пры ўладзе аніводнага мясцовага. Папрысылалі чужынцаў. Бо ведаюць, свае нам нічога не зрабілі б. Нават калі б служылі гэтай уладзе. А гэтыя, толькі галаву падымеш – адразу дастанеш па зубах. З працы звальняюць. Праходу не даюць.

– Але ж некалі вас было нашмат больш, – працягвалі дапытвацца гарадзенцы. – А сіла тады – калі ўсе разам. Няўжо ў вас прапаў мужчынскі дух?! Ваярскі дух нашых продкаў?! Няўжо, калі нас зноў цягнуць у Азію, падалей ад Еўропы, мы будзем сядзець засмаркаўшыся і пакідаць

праблемы на сваіх дзяцей?! Што, самы не можам іх вырашыць? Ці не стае мужчынскасці і мужнасці? Ці ў вас людзі баязліўцамі сталі? Замест каб змагацца сядзяць і плачуць.

– Ды не, – не пагадзіўся Казік. Гонар за свой рэгіён прымушаў яго знайсці іншае тлумачэнне. – Проста мужыкі ў нас добрыя, паслухмяныя. Хоць да раны прыкладвай. Вельмі дбаюць пра сям'ю. Ці ж гэта кепска? З тае нагоды трошкі зашмат жонак слухаюць. Паклічаш якога на справу, а ён так і кажа, што жонцы паабяцаў не хадзіць. А раз паабяцаў – трэба трымацца слова. У нас усе дадзенае слова датрымліваюць. Слова ўсё ж мужчынскае.

– І што?! Ніколі не парушаюць абяцанага? – упяліліся вачамі ў Казіка госці.

– Амаль што, – пачырванеў той і дадаў. – Прыкладам, паабяцаюць гарэлкі больш не піць, ну то ўсядно ўцякуць, ды нап'юцца. Дадуць слова не хадзіць у бар – праз гадзіну сядзяць ужо з півам. Нават, які бывае зарачэцца налева, да іншых жанчын не лётаць, усядно чорт панясе. Некаторыя на тры тыдні з хаты зысці могуць. Ну, а калі паабяцаюць не хадзіць на мітынгі, то тут няма сумневу – не пойдуць. Бо трэба, кажуць, датрымаць слова.

## Найгоршыя людзі

Юрась Сініцкі выйшаў з агульнага паседжання аб'яднанай апазіцыі вынішчаны, як прафесар філасофіі пасля працы на калгасным полі. Ад бессэнсоўных спрэчак разбалелася тое мейсца, якім да паседжання яму ўдавалася думаць. Яго сістэма кантролю над эмоцыямі, што недасведчаныя псіхолагі чамусьці называюць нервовым станам, пачала даваць збоі. Юрась здрыгануў паветра некалькімі непрыстойнымі выразамі і супакоіўся толькі тады, калі зразумеў, што ў бліжэйшай кнайпе можа купіць лекі ад нерваў. Грам так стопяцьдзесят, не болей. Ну, максімум дзвесце.

Гурыновіч Дзяніс, наадварот, вельмі любіў палітычныя спрэчкі. Гэта яму падымала настрой, як кату валер'янка. А на гэты раз, пасля той бязглуздзіцы, якую людзі з сур'ёзнымі тварамі неслі цягам некалькіх гадзінаў, настрой у Дзяніса быў такі ўзнёслы, што хацелася падтрымліваць яго як мага надалей тымі ж лекамі, якія настойліва працягвалі спакушаць Сініцкага.

Жаданні хлопцаў супалі. Праз колькі хвілінаў Юрась з Дзянісам ужо адкаркоўвалі першую бутэльку. На жаль, у добрай кампаніі, гэтыя паўлітрухі маюць незразумелую ўласцівасць хутка заканчвацца. Сябры ўжо збіраліся развітацца, як да іх століка падышлі два мужчыны, і па-беларуску спыталі дазволу прысесці. Хлопцы зірнулі на іх і зарагаталі. У адным яны распазналі афіцэра мясцовага ўпраўлення КДБ. Твар другога выглядаў так, што каб на яго лбе была татуіроўка з сімволікай якой-небудзь апазіцыйнай партыі, то нават яна не змагла б змякчыць яго дубаватага таямніча-шпіёнскага выгляду.

– З каго смяецеся? – Запытаў адзін з падыйшоўшых.

– З вас, – адкінуўся на крэсле Юрась. – Няўжо ў КДБ абавязкова мець аднолькавыя, як у блізнюкоў бацькоў-дэбілаў, морды?

– Затое вы ўсе такія розныя, што мы вас нібыта і не пазнаём, – пакрыўдзіўся адзін з афіцэраў. – І як быццам бы павадкаў вашых не ведаем. Вы ж прымітыўныя, як амёбы. Пасядзіце там, на вашых сходках, пагаворыце абы пра што, каб нас заблытаць, а пасля ў knaйпу тупаеце. Робіце выгляд што гарэлку п'яце. А мы ж ведаем, што самыя галоўныя размовы якраз тут і адбываюцца.

Цяпер настрой пачаў падымацца і ў Юрася.

– А вас што, падслухаць прыслалі?! – засмяяўся ён. – Хіба іншага занятку не маеце? Усе справы парабілі? Усіх шпіёнаў пераловілі. Ай-яй-яй! Засталося толькі за грамадзянамі ўласнай краіны цікаваць, як бабуся-пляткарка за суседзямі.

Афіцэраў гэтыя словы кальнулі ажно туды, дзе ў кожнага чалавека, незалежна ад прафесіі, знаходзіцца сэрца. Яны заказалі тыя ж лекі, што і апазіцыянеры, і пасля другой бутэлькі адзін зноў звярнуўся да хлопцаў.

– Вы чамусьці думаеце, што толькі бэнээфаўцы Беларусь любяць. А сапраўдныя патрыёты – гэта мы. А вы нам не даеце займацца нашай непасрэднай справай. Я за гэта вас перадушыў бы, як сляпых катоў. Шкада што начальства не дазваляе. Працавалі б мы нармальна, як усе людзі. Дык не. Трэба сярод ночы падымацца, бо вы нешта абмяркоўваеце. Дня вам мала! І на выходныя прыходзіцца працаваць. Бо вы мітынгі ладзіце. Я ўжо не кажу пра час выбарчых кампаній. Тады трэба насіцца, як дурны з торбай. А каму гэта трэба? Думаеце мне? Не-е! Сядзелі б па хатах,

носу не высоўваючы, і за вамі ніхто не сачыў бы. А то ўсё скардзіцеся, што вам жыць невыносна. Не вам, а нам кепска. Вось, прыкладам, сёння. Збіраўся я з сям’ёй у госці да лепшага сябра. Жонка задаволеная, дзеці цешацца. А тут званок. Даносчык тэлефануе. Два апазіцыянеры пайшлі ў бар пагаварыць. Вось і накрыліся мае госці. Трэба ісці і слухаць, пра што вы шушукаецеся.

Добра падпіты афіцэр злосна цяпнуў цэлую шклянку гарэлкі, і так моцна стукнуў сябе кулаком у шырокія грудзі, што на суседніх століках мала не перавярнуліся талеркі.

– Я вам так скажу. Назіраем мы за вамі даўно. Людзі вы нармальныя. Нашмат лепшыя чым маё кіраўніцтва. Яно за мной цікуе больш, чым я за вамі. Невыносна стала жыць. Немажліва працаваць у такіх умовах, калі за табой сочаць. Благія яны, злыя. А самыя кепскія людзі, гэта даносчыкі. Горшых гадаў, чым стукачы, я не ведаю. Шасцёрак стала нашмат болей, чым патрабуе наша праца. Тэлефануюць, даносяць... А мы на кожны піск стукача-дэбіла рэагаваць мусім. Вось каго трэба знішчаць – паганых шасцёрак. Шкада што мы без іх абысціся ніяк не можам. Работа, браце, у нас такая. Ды і ў вас не лепшая. Таксама паганая.

Афіцэры расплаціліся за столік і сумна пасунуліся на выхад.

– Як ты думаеш, чаму яны нас пакінулі? – Заліўшы вочы парговай порцыяй, спытаўся Дзяніс.

– А што ім рабіць, калі мы іх раскусілі, – задумаўся Юрась. – Хлопцы яны сапраўды добрыя, шчырыя. Ёсць, відаць, і ў КДБ нармальныя людзі. Але ж работа... Зараз хіба якога стукача, пра якога так кепска гаварылі, да нас падсадзяць.

Хлопцы разам перавялі позірк на ўваход. Адтуль, да іх століка, з радасным воклічам: “Прывітанне сябры! Як я рады вас бачыць!”, шпарка накіроўваўся адзін з сяброў іх партыі.

## Зачараваная машына

– Куды ты так прэшся, як голы ў лазню? – не вытрымаў Зміцер, пасля таго як машына, нібыта спрабуючы даказаць, што апярэдзіць хуткасць гука можа не толькі самалёт-знішчыльнік, ледзьве ўпісалася ў паварот. – Трэба за рулём думаць не тым месцам, на якім сядзіш, а хоць бы патыліцай. Хіба хочаш адразу знішчыць усю гарадзенскую апазіцыю? Глядзі! Не абы каго вязеш, а гонар нацыі.

Пасажыры старэнькай, дабітай здзекамі і недаглядам "Аўдзюхі" весела зарагаталі, кінулі яшчэ пару-тройку жартаў у бок шафёра і з маніякальным імпэтам сталі рабіць выгляд, што рыхтуюцца да сур'ёзных выступаў. У гэты дзень хлопцы сапраўды вельмі спяшаліся. Партыйны з'езд у Мінску вось-вось павінен пачацца, а яны былі толькі на паўдарозе.

– Не такія вы ўжо і важныя, – паспрабаваў аджартавацца Віктар, наўмысна выпусціўшы з рук руль, каб паказаць што не спалохаўся. Хоць сэрца было ўжо ў пятах, а можа нават у сандалях. – Такім палітычным дзеячам як вы ў кожным калгасе можна знайсці замену. Ды і не толькі ў калгасе.

– Хопіць нам калгасных палітыкаў, – зараўлі ў адзін голас пасажыры так, што заглушылі гук машыны, якая ўжо тыдзень як згубіла выкідную трубу і тарахцела мацней чым батальён танкаў узору 1934-га года.

– Ну то сядзіце і не рыпайцеся, – не здаваўся Віктар. – Як вы збіраецеся змяніць сітуацыю ў краіне, калі нават на машыне баіцеся ездзіць? Трасецеся, як коні ў космасе. А баяцца няма чаго. Мая машына зачараваная. Ні з ёй, ні з тымі хто ў ёй сядзіць як ёлупень ды толькі і ведае, што рагоча,

нібыта прыдурак з пансіянату для ненармальных, ніякіх непрыемнасцяў стацца не можа. Хоць і тармазоў няма, і колы лысыя. Гэта тэхніка адзіная і ўнікальная. Ёй нават шафёр непатрэбны. Усядно рулявая сыстэма не працуе.

– Пахвалішся як даедзем да сталіцы, якая смела глядзіць назад у будучыню, – паспрабаваў жартам перавесці размову на іншую тэму Сяржук. Ён быў вельмі забабонны і не любіў аповедаў пра праблемы з машынамі пад час язды.

Але "Аўдзюха" неслася так хутка, што іншыя тэмы не прыжываліся. Заставалася толькі паверыць шафёру на слова, што гэтае карыта на калёсах сапраўды зачараванае і давязе туды, куды яны запланавалі.

У Мінск машына ўляцела з хуткасцю ракеты. Быў выходны дзень і транспарту на дарогах было няшмат. Таму Віктар рызыкнуў, дзеля эканоміі часу праехаць на чырвоны колер светлафора, прабубнеўшы сабе пад нос: - "А не такі ён ужо і чырвоны..." Але толькі машына перасекла скрыжаванне, як на дарогу, што чорт з торбываскачыў міліцыянт і замахаў сваёй палкай, нечым падобнай на пярэднюю левую нагу зебры.

– Ну што, давыпендрываліся, – прастагнаў Зміцер. – Зараз за такое парушэнне пазбаўляюць правоў. Добра калі тваю зачараваную трухляціну не забяруць каб крыху адрамантаваць, пасля пафарбаваць і выкінуць на сметніцу. Бо ў такім выглядзе як зараз, яе і туды не возьмуць.

– Сапраўды, уляпаліся, – адгукнуўся Віктар. – Няма выйсця. Трэба зараз прыдурвацца да канца. Горш усядно не будзе.

Ён паклаў рукі на руль і стаў, з незадаволеным выразам твару цярпліва чакаць міліцыянта. Той не спяшаўся. З важ-

ным выглядам, нібыта яму аднаму ўдалося знішчыць усю арганізаваную злачыннасць на Беларусі, ён падыйшоў да машыны і нахабна пастукаў у шыбу. Шафёр апусціў шкло і сурова зірнуў у вочы міліцыянта.

– Ты што, канаплі абкурыўся? – Злосным голасам звярнуўся ён да ахоўніка парадку. – Ты чаго пад калёсы кідаешся? Цябе што, начальства паставіла на дарогу і не растлумачыла, каго можна спыняць, а каго не?

У міліцыянта ад такога нечаканага нахабства вочы расшырыліся, як у жабы, якая выпадкова праглынула варону. Ён стаў успамінаць твары сталічных кіраўнікоў, але чалавек, які быў перад ім, па-ранейшаму здаваўся незнаёмым. Інстынкт самазахавання падказваў, што лепш высветліць, што за вялікія такія шышкі сядзяць у машыне. Ён краем вока зірнуў на нумарны знак, спадзяючыся, нумар машыны штосьці падкажа, але і гэта нічога не дало.

– А вы хто? – нарэшце прарэзаўся яго нерашучы голас.

– Ну вось табе і раз, – Віктар дастаў цыгарэты і неспяшаючыся закурыў. – Каго ў міліцыю панабіралі?! Смаркачоў нейкіх. Ужо адміністрацыю кіраўніка дзяржавы не пазнаюць. Хутка і самога прэзідэнта пераблытаюць з якім бэнээфаўцам.

У паліцыянта адначасова затрэсліся левае павека, правая шчака і ўсе калені. Ён ступіў крок назад, прыклаў далонь да фуражкі, глынуў сліну і дрыжачым голасам ледзьве-ледзьве выдыхнуў:

– Праязджайце, калі ласка...

Віктар няспешна завёў машыну, і наўмысна не ўключаючы павароту перасёк адразу тры дарожных паласы.

– Сапраўды машына зачараваная, – зарагаталі хлопцы і павярнуліся каб паглядзець на міліцыянта.

Выгляд у таго быў такі здзіўлены, як у вясковых дзяцей, што ўбачылі свайго школьнага настаўніка працы, які ў дзень зарплаты з'явіўся дахаты рана і цвярозы. На разгубленым твары міліцыянта, які глядзеў на ад'язджаючую машыну з наклеенай на багажніку выявай забароненага ўладамі бел-чырвона-белага сцяга, можна было заўважыць, што ён на дзевяноста дзесяць адсоткаў не паверыў Віктару. Не можа быць, каб адміністрацыя прэзідэнта ездзіла на такой старой машыне, ды яшчэ размаўляла па-беларуску. Але раптам… Пасля бяды не абярэшся. Лепей перастрахавацца.

І да тае пары, пакуль машына не схавалася за паваротам, ён так і стаяў з прыкладзенай да фуражкі далонню.

## Палітычны прытулак

Па сталіцы Каралеўства Бельгія, апусціўшы ад першага ў гэтым годзе снегу галовы, насустрач адзін другому няспешна валакліся два беларусы. Яны і не падазравалі, што ідуць па адной вуліцы, і маглі б нават размінуцца, каб не брусельскі вецер. Ён завіраваў акурат у той момант, калі беларусы збіраліся павярнуць кожны на сваю вулачку, сцебануў ім па тварах макрынёй і прымусіў кожнага зірнуць, які гэта яшчэ небарака тупаецца ў такое надвор'е па слізкіх вуліцах галоўнага горада бельгійскага каралеўства.

– Вачам не веру! – Здзіўлена крыкнуў адзін з беларусаў. – Вось табе раз! Алесь! Ты гэта, ці не ты?! Вось дык сустрэча. На радзіме цябе ўжо колькі гадоў не бачыў, а тут... Які чорт цябе сюды занёс?

– Прывітанне, Вадзім, – ледзве выблытаўшыся з моцных абдымкаў суайчынніка бадзёра стукнуў таму далонню па плячы Алесь. – Сапраўды, з таго году, калі мы апошні раз бачыліся, ўсе сабакі ўжо падохлі! Прычым ад старасці. Ну а тут я хіба з тае самае нагоды што і ты. Няйнакш палітычнага прытулку прыехаў прасіць?

– Ага! Толькі мне не далі. Заўтра мушу пакінуць Бельгію, – уздыхнуў Вадзім. – Ды і халера з ёй, той Еўропай. Мы там у Беларусі самі сабе Еўропа, ды самі сабе шляхта. А тут, у Бельгіі, ты проста смярдзючы эмігрант. Калі па-праўдзе, то яна мне за гэты час ужо папярок горла стала, як каса авечцы. Мала не здох ад суму па сваіх. Каб не змусіў лёс – ніколі сюды носу не паказаў бы. А прыйшлося. І ведаеш, тое што мяне лупілі, як сідараву казу на кожным мітынгу, садзілі на суткі, запалохвалі – мне не страшна было. Не так

лёгка зламаць беларускі ваярскі дух. А вось калі пазбавілі працы і сродкаў, каб пракарміць сям'ю – вымушаны быў нешта думаць. Апошнюю працу, якую я, чалавек з вышэйшай адукацыяй хацеў здабыць, была праца грузчыка. І тут ідэалагічны аддзел умяшаўся. Не далі. Сам ведаеш, у нас хто ў палітыцы, той без працы. З тае бяды надумаўся я крыху падзарабіць у Еўропе. Папрацаваць нейкі час, а пасля вярнуцца. Каб з пазыкаў вылезці, для сям'і на які час сродкаў каб хапіла, пакуль не зменім сітуацыю ў Краіне. Яны на захадзе, думаў я сам сабе, дэмакратаў любяць. Ну а я хто? Дэмакрат. Ды колькі меў арыштаў ды пераследу за свае погляды. Нехта падказаў, што да нас бельгійцы нармалёва ставяцца. Ну то я сюды і рвануў. Але не туды тое! Не для пана жупан. Як сталі з мяне здзекавацца. То такой паперкі не хапае, то іншую прынясі. Я гляджу на аднога інспектара іхняй міграцыйнай службы і мяркую сабе, што для таго, каб ён стаў хоць трохі думаць лагічна, яму трэба адсячы галаву. Бо тым, што ў яго галаве, нармальна думаць не навучышся ўжо ніколі. Позна. Спазніўся на ўсё жыццё. А можа, калі верыць у наяўнасць рэінкарнацыі, то і не на адно. Ведаеш якія паперы ён у мяне патрабаваў? Каб тыя, што мяне білі ў міліцыі, далі паперу што яны мяне сапраўды незаконна білі за мае погляды, тыя хто садзіў – далі паперу што несправядліва садзілі, тыя хто сведчылі фальшыва, каб далі паперу што ілгалі на судах. А хто ж табе такую паперу дасць. Няма дурных! Няўжо яны пра сябе так скажуць. Каб у іх была хоць крупінка сумлення, то яны так не рабілі б. Ну а як таго сумлення няма ўвогуле, то чаго яны будуць прызнавацца ў сваіх злачынствах. Я кажу ім, што калі не хочуць палітычнага прытулку даваць, то халера з ім. Хай яго зямля заверне, разам з тымі паперкамі, якія для яго

неабходныя. Кажу, дазвольце толькі мне працу пашукаць. Падзараблю – сам ад вас з'еду. Тут яны яшчэ больш напалохаліся і вырашылі выгнаць мяне назад адразу і без абмеркавання. Вось еду на вакзал. А што ў цябе?

– А ў мяне ўсё добра. Бо я не такі дурны рамантык, як ты. Я да вас у БНФ прыйшоў як вы былі моцнымі. Думаў хутка ўладу возьмеце. Можа і на маю долю хапіла б тае ўлады. А як вас прыціснулі, што трактар чарвяка, і прымушаюць сядзець ціха, як мышаня пад мяцёлкай, то на халеру мне рызыкаваць сваім здароў'ем. І дзеля чаго? Мне ўсядно, дэмакратыя будзе, ці халеракратыя... Абы зарабіць можна было. Таму я вас і кінуў. Хацеў ва ўладныя структуры ўлезці – не атрымалася. А час ішоў і ўсё даражэла. Тады вырашыў сігануць на захад. Купіў неабходныя паперы і рвануў. А там усё засведчана, у тых паперах. І што я сябра ўсіх вашых апазіцыйных партыяў, і нейкіх там грамадскіх арганізацыяў, і актывіст, і змагар за праўду і дэмакратыю... І ад таго хто мяне біў паперка ёсць, і ад таго хто памагаў біць. І ад таго хто хацеў біць, але не паспеў. І нават ад сведкаў. І ўсе завераныя, з пячаткамі. І з суда, і з міліцыі, і з пракуратуры і нават з КДБ. Так што мне прытулак далі адразу. Чытаюць тыя фальшывыя паперкі і вераць. Бо душы ў іх папяровыя, і вераць толькі паперам. Ды і я ім яшчэ хлушу як наняты. І ніякіх праблемаў. А твае праўдзівыя гісторыі з апазіцыйнага жыцця на чыноўнікаў дзейнічаюць як на нябожчыка казытанка. Будзеш сланяцца па кабінетах, як цень бацькі Гамлета, аж пакуль цябе не вытураць. А цябе, праўда, ужо вытурылі. Так і мусіла стацца. Дзе ты бачыў, каб нешта некаму даставалася дарма, калі ў яго на гэта няма грошай.

– Як жа так!? – разгубіўся Вадзім. – Яны ж па нашых

эмігрантах пра нас усіх так мяркуюць. А ты паперкі нейкія ліпавыя... А дзе ж сумленне? Цябе ж ніхто не біў, ніхто не арыштоўваў. Чаго ж ты ілжэш?

– Ты сапраўды не дарос да еўрапейскага мыслення, – зарагатаў Алесь. – І не бачыш розніцы паміж справядлівасцю і тым што справядліва. Вяртайся назад, змагайся. А як пераможаце – я пад'еду. І перакананы, што лепш за цябе ўладкуюся. Тады будзе як ? А так – хто першы дабяжыць, той больш і адкусіць. Як гаворыцца, хто першы той і лепшы. А даляціць першы той, хто спрытнейшы, ды трошкі грошай будзе мець на той час. І гэта буду я, а не ты. Ну, да пабачэння. Мне пара. Справы.

І ён хуткім крокам рушыў у надышоўшы вечар. Вадзім яшчэ пастаяў хвілінку, і няспешна пасунуўся ў процілеглы бок. "Як гэта такім людзям усюды ўдаецца ўладкавацца, – разважаў ён. – Вось бы яны ўсе паз'язджалі ў Еўропу. Тады можа на Беларусі з-за недахопу працоўнай сілы і я працу знайшоў бы. А будзе праца – будуць сродкі на сям'ю, на жыццё і на змаганне. Хутчэй бы ўсе гэтыя прагматыкі куды паўпіхаліся на цёплыя месцы за мяжой. Ну а пасля, як мы пераможам, хай сабе вяртаюцца. Некаму ж трэба будзе кіраваць краінай, ды ўсталёўваць дэмакратыю і справядлівасць... Ці тое, што справядліва... Як гэта там Алесь казаў..."

І ён няспешна пасунуўся на брусельскі вакзал, прыкідваючы ў галаве, якія словы трэба сказаць па-французску, каб яму прадалі білет у кірунку Беларусі.

## Засада

Алег адкінуўся на крэсле, як сонны кароль на троне, закінуў ногі на стол і пацягнуў з бутэлькі піва. Вечар быў невыносна сумны. Хутчэй бы дачакацца заўтрашняга дня. Назаўтра бэнээфаўцы запланавалі правесці мітынг. Напярэдні такіх акцый, апошнім часам, у ночы ім хтосьці выбіваў у офісе шыбы. Таму на гэты раз Алег, каб разам з вокнамі не пабілі яго анфас, узброіўся калом і шрубакрутам, патушыў святло і пад смак "Лідскага" спакойна разважаў пра жыццё. За вакном было, няўтульна, цёмна, мокра, як на дне студні, з адной толькі розніцай, што яшчэ і ветрана.

"Якая нудная і непрыемная ноч, – разважаў, седзячы ў цяпле партыйнага пакоя, Алег. – У такую ноч на вуліцу ў Беларусі выпаўзаюць толькі абкураныя пустагаловыя хуліганы, п'яныя злодзеі-няўдачнікі і заспаныя супрацоўнікі КДБ, якіх тэрмінова выклікаюць нашкодзіць апазіцыі. Цікава, хто з іх на гэты раз атрымаў загад памалаціць нашы вокны ў офісе?"

Ён адкаркаваў чарговую бутэльку піва, пазяхнуў поўнай моццу сваёй здаровай пашчы і стаў прыкідваць чым заняць час. Можна было ўключыць тэлевізар, і, каб трохі пасмяяцца, захмялеўшымі вачамі пашукаць на блакітным экране галоўнага глюка краіны. Але гэта наўрад ці палепшыла б настрой. Прыйшла ў галаву геніяльная ідэя трохі драмануць. Ды і яна мела свой слабы бок – спаць не хацелася. Лепш за ўсё запрасіць кагосьці дзеля кампаніі. Алег ужо нават падняў тэлефонную слухаўку каб запрасіць, як пачуў шкрэбанне ў замку з другога боку дзвярэй. Твар апазіцыянера расплыўся ў здзеклівай усмешцы. Якая ўдача! У офіс

нелегальна, без санкцыі пракурора, уночы, як сама бяздарныя злодзеі, спрабавалі залезці супрацоўнікі КДБ. Алег пазнаў іх адразу. Па манеры дзеянняў. Хуліганы высадзілі б гэтыя гнілыя дзверы адным ударам нагі. Злодзеі адамкнулі б замок яшчэ хутчэй, чым выбілі б дзверы хуліганы. І толькі бязрукія няўдалыя супрацоўнікі спецслужбаў могуць так доўга грэбацца з замком, які на той момант нават не быў зачынены. Алег падумаў, што можа спакойна дапіць піва, бо ўзломшчыкі яшчэ доўга будуць капацца з тога боку. Іх дзеянні прыносяць вынікі толькі дзякуючы неверагодна вялікім штатам стукачоў-даносчыкаў, падтрымцы ўсёй дзяржаўнай машыны, а сама галоўнае з-за бессаромнага парушэння законаў, на якія яны ж і спасылаюцца, караючы іншых. А калі прыходзіцца зрабіць штось сваімі рукамі, то гэта доўгая песня. Зрэшты, як і ва ўсіх астатніх у гэтай сістэме. Як казаў адзін іншаземец пра іх: - "У вас вельмі прыгожыя дзеці. А ўсё што вы робіце рукамі, чамусьці не так добра атрымліваецца".

Алег яшчэ некалькі разоў прыклаўся да бутэлькі і патэлефанаваў Ігару.

– Прывітанне, стары, – няспешна прашаптаў ён у слухаўку. – Як наконт таго, каб павесяліцца.

– На гэта ў мяне няма грошаў, – адказаў сонны голас. – Ты ж ведаеш, апошнія грошы аддаў на аплату офісу. Грэх смяяцца з жабрака.

– Ну то лічы, што сёння табе пашанцавала. Ёсць мажлівасць пацешыць душу цалкам за-дарма. У штаб-кватэру лезе кантора.

– Хутка буду, – узбадзёрыўся сонны голас. – Прашу толькі не пачынай пацеху без мяне.

Праз нейкі час Ігар павітаўся з нарадам міліцыі каля офісу БНФ, падміргнуў людзям у цывільным, якія адразу ўскочылі ў джып і зніклі, і зайшоў у калідор, які вёў да дзвярэй партыйнага офісу. У гэты момант Алег адчыніў дзверы офісу і ўключыў на калідоры святло. Ад нечаканасці ўзломшчыкі аслупянелі як дзіцянё, якое вырашыла праверыць, што п'е бацька, а ў шклянцы быў не мёд.

– Мы не мелі дзе выпіць гарэлкі, вырашылі завітаць сюды. На вуліцы зімна, – паспрабаваў патлумачыць сваю прысутнасць у чужым будынку старэйшы.

– Ах вы няшчасныя бяздомныя алкаголічкі з вышэйшай адукацыяй, – зарагатаў Алег. – Выпіць сюды залезлі, а бутэльку купіць забыліся. А мо хопіць лапшу на вушы развешваць. Тут вам не лохі. У вас жа на лбе каляровымі фарбамі напісаныя тры літары. Першая "К", апошняя "Б". Адгадайце з трох раз якая пасярэдзіне – "Д" ці "Г"?

Для "алкаголікаў" загадка сапраўды аказалася складанай. Бо па-расейску іх установа называецца КГБ, а па-беларуску замест "Г" гучыць "Д". Якой мове аддаць перавагу ў гэтых умовах яны не вызначыліся. А Алег ужо хапіў аднаго, засунуў руку таму ў кішэнь і выцягнуў пасведчанне работніка спецслужбы. А тут, неўзабаве, падляцелі яшчэ некалькі апазіцыянераў.

Ноч атрымалася надзвычай вясёлай. Чаго вартыя былі толькі выразы твараў міліцыянтаў, якія з абалванеными вачамі назіралі, як бэнээфаўцы валакуць у міліцыю прадстаўнікоў арганізацыі, ад гучання назвы якой у ахоўнікаў парадку трэсліся калені што лісты на асіне. А якая цікавасць назіраць, як усё кіраўніцтва сілавых структураў горада ў ночы злятаецца да міліцэйскага будынку.

Назаўтра хлопцы правялі запланаваную акцыю і прыселі падзяліцца ўражаннямі ад учарашняга.

– Зразумела, што ўжо з ранку ў міліцыі не было ні затрыманых, ні падазраваемых, – праінфармаваў калегаў Ігар. – Але цікавае іншае. Сёння спецслужбы шукаюць у сваіх шэрагах стукача, які сыпануў нібыта нам пра начную аперацыю. Адным словам здаў сваіх. Ніяк не могуць паверыць, што мы не адмыслова для іх зрабілі засаду. Дарэчы, Алег, а што ты там рабіў у ночы. Няйначай чакаў няпрошаных гасцей. Табе за тое, хіба, падзяку па партыйнай лініі трэба аб'явіць.

– Скажу праўду, але вы мне не паверыце, гэтак жа як і яны, – усміхнуўся Алег. – На вуліцы было зімна, і я, нахабна парушыўшы партыйную дысцыпліну і ранейшыя дамоўленасці не хадзіць у офіс па асабістых справах, карыстаючыся тым, што нікога няма, на спытаўшы, зрабіў некалі дублікат ключа ад нашай сядзібы, і зайшоў туды проста папіць піва.

Але яму не паверылі. Падумалі, што завітаў ён туды не для таго, каб выпіць піва, а для таго, каб хлебануць шампанскага. І завітаў не адзін.

## Законы фізікі

Гавораць, што нават суд зрэдку можа быць несправядлівым. Гэта поўнае глупства. Такую адарваную ад жыцця ахінею мог ляпнуць толькі дыстрафічнага выгляду тэарэтык-акулярнік, які ні разу не сустракаўся на практыцы з правасуддзем. Нехта, у каго было вельмі шмат вольнага часу, прааналізаваў, што суды могуць зрэдку пастарацца быць справядлівымі. І то, калі вельмі гэтага захочуць. Гэтае сцверджанне ўжо бліжэй да агульнапрынятага ў Беларусі меркавання пра айчынную "феміду". У адваротным выпадку і абвінаваўцы і абвінавачваемыя не стараліся б упіхнуць пры патрэбе і без неабходнасці хабар суддзю, ветліва падносячы яго ў выглядзе ўдзячнасці за справядлівасць. Але калі справа тычыцца палітычных працэсаў, то хабар гэта яшчэ адзін артыкул да вашага абвінавачвання. А калі ёсць меркаванне неяк абараняцца законна, то яно звязанае з страхам, што адвакат у заключным выступе ў вашу абарону скажа толькі адно слова: "Вінаваты".

Васіль спадзяваўся на іншае. Верыў яшчэ ў справядлівасць апошняй інстанцыі пошукаў праўды. Начальства даўно хацела выкінуць яго з прадпрыемства. А за што? Рукі ён меў залатыя. За што не возьмецца, усё атрымліваецца хутка і дакладна. А якому кіраўніку дзяржаўнага прадпрыемства даспадобы мець падначаленага, які можа, умее і робіць, на вачах іншых, усё лепш за шэфа? А тут яго яшчэ заўважылі пры распаўсюдзе агітацыйнага бюлетэню зусім не таго прафсаюзу, у які патрэбна, паводле меркавання ўладных структур, запісвацца "гегемону". З тых часоў Васіля сталі трактаваць як апазіцыянера і ставіцца адпа-

ведна. Доўга думаць не сталі (калі доўга думаць, то можна і самому стаць апазіцыянерам, ды і калі ёсць канкрэтныя распараджэнні “зверху” – думаць забараняецца). Узялі і проста выкінулі яго з працы за парушэнне тэхнікі бяспекі. Маўляў, карыстаўся зварачным апаратам падключыўшы толькі адзін шланг. А трэба два. З тэхнічнага боку гэта поўная бязглуздзіца, як і ўся сістэма бяспекі на былых савецкіх прадпрыемствах, якая базавалася выключна на тым, што рабочаму проста давалі распісацца, што ён азнаёмлены з усёй сістэмай бяспекі, якая толькі можа быць. А тут дык увогуле адзін смех. Зварачны апарат не працуе на адным шлангу. Здавалася, даказаць сваю правату будзе прасцей, чым з’есці яблык. Ну і Васіль пачаў актыўна судзіцца.

Суд пачаўся дакладна праз тры дні і дзве з паловай гадзіны ад таго часу, на які быў прызначаны, што ўжо было неверагодным прагрэсам у судовых справах з людзьмі звязанымі з палітыкай. Васіль і яго адвакаты былі перакананыя, што выйграюць працэс без асаблівых намаганняў. Ужо з асалодай паціралі рукі, уяўляючы як дырэктар заводу і адміністрацыя, набраўшыся сораму, як Жучка блох, будуць прасіць прабачэння ды налічваць кампенсацыю за два месяцы незаконнага звальнення Васіля з яго любімай працы.

– ... і гэта проста здзек, прыдумаць такую прычыну звальнення, – завяршаў сваю прамову адвакат Васіля. – Зварачны апарат на адным шлангу працаваць не можа, гэтак жа, як не можа гарэць лямпачка, калі адлучыць адзін з правадоў. Вось, калі ласка, заключэнні экспертаў. Гэта законы фізікі. Іх ніхто змяніць не можа. А майго кліента звольнілі за тое, што апарат працаваў на адным шлангу! Абсурд! Гэта ўвогуле немажліва з боку гледжання

навукі. Гэты працэс можна назваць – “навука супраць адміністрацыі завода”!

Васілю было нудна і нецікава. Ён быў у судзе першы раз і ніяк не мог зразумець, што так доўга могуць даказваць людзі, у якіх ёсць пасведчанні пра вышэйшую адукацыю, калі і так усё зразумела. (ён тады яшчэ не мог уцяміць, што калі людзям далі добрую адукацыю, гэта яшчэ не азначае, што гэтыя людзі яе ўзялі). Яго роздум перапыніла суддзя, прыгожая маладая жанчына, з нічым не абгрунтаванымі звышпрэтэнзіямі на элітарнасць.

– Суд выдаляецца для прыняцця пастановы, – заявіла яна рашучым голасам, і такой паходкай, нібыта яна знаходзілася не ў зале суда, а на сцэне паказу модаў, прысвечаных падзенню ўсеагульнай маралі па ўсім свеце, выйшла ў бліжэйшыя дзверы.

– Устаць! Суд ідзе! – праз нейкі час загаласіла яшчэ адна жанчына, сакратар суда, якая пад час працэсу нервова трэсла галавой, нібыта пагаджалася з усім сказаным і абвінавачваемымі, і абвінаваўцамі.

Суддзя ўвайшла ўсё той жа паходкай-дэфіле, але выраз твару яе моцна памяняўся. Цяпер здавалася, што яна збіраецца ўзяць дэбют у выставе васковых фігураў.

– Суд лічыць, – заявіла яна халодным аж да касцей голасам, – што адміністрацыя прадпрыемства мела падставы для звальнення. А наконт законаў фізікі, раю даверыцца Энштэйну, які даказаў, што ўсё адносна.

Каб магутны розум вялікага аўтара тэорыі адноснасці мог прадбачыць падобную трактоўку яго навуковага генія, то адразу адмовіўся б працаваць у даследчай галіне, а свайму ўладальніку параіў бы стаць адначасна забойцам

і пацыфістам, і дзеля ўсталявання міру распачаць несканчальную вайну. Розум жа адваката Васіля падказаў свайму ўладальніку, што больш апазіцыянераў абараняць не варта. Розум самога Васіля прымусіў яго падыйсці да суддзі.

– Скажыце калі ласка, – спакойна вымавіў ён, – на каго канкрэтна падаваць заяўку на Нобелеўскую прэмію? Што больш правільна, каб прэмію атрымалі толькі вы, ці ўся айчынная судовая сістэма? Вы зрабілі неверагодны прарыў у навуцы. Цяпер можна за некалькі хвілінаў вырашыць усе тэхнічныя праблемы чалавецтва – рашэннем суда змяніць законы фізікі, спаслаўшыся, пры гэтым, на аўтарытэт Эйнштэйна.

– Рашэннем суда законаў фізікі не зменіш, – стомлена зірнула на Васіля суддзя. – А вось работу табе змяніць усядно давядзецца.

І, змяніўшы паходку на менш прывабную, выйшла з залы, паўтараючы адну і тую ж фразу: “Законы фізікі, законы фізікі...”.

## Гарадскія чуткі

Чуткі і плёткі заўсёды былі звыш эфектыўнай зброяй спецслужбаў. Як зручна можна знішчыць палітычнага апанента, зняславіўшы таго і навешаўшы на яго ўсіх сабак, эфектыўна выкарыстоўваючы шматкалькасныя штаты халуёў-пляткароў. У Беларусі, скарыстоўваючы даўнюю методу "падзяляй і ўладар", пляткарам удалося запалохаць рускамоўнае насельніцтва ў тым, што як да ўлады прыйдзе апазіцыя, то яе галоўным законам для небеларусаў будзе "торба, вакзал, Расія". Але ў прызвычаіўшымся давяраць неправераным плёткам грамадстве, чуткі часта працуюць супраць іх прыдумшчыкаў. А бывае што самы ўзнікаюць там, дзе ўлада не хацела б, і ў імгненне вока разносяцца па ўсім горадзе, дзякуючы створанай сістэме абгавораў.

У гэты дзень Валера Абламейка і думаць не мог, што стане аб'ектам размоваў усяго гораду. Тым больш не мог уявіць, што пра яго будуць гаварыць як пра самую агрэсіўную істоту на планеце Зямля і нават за яе абшарамі. Праціскаючыся ў вузкія дзверы гарадскога тралейбусу разам з некалькімі дзесяткамі рашуча настроеных на штурм аўтатранспарту абывацеляў, якім не было ніякай справы адзін да другога, Валера і не падазраваў, што ў гэтай шматлюднай цеснаце яго штосьці можа змусіць да радыкальных дзеянняў. Звычайна ў гадзіну пік, калі на прыпынках грамадскага транспарту людзей больш чым у самым горадзе, кожны імкнецца як мага хутчэй даехаць да свайго жытла і не звяртае аніякай увагі на кароткія і рэзкія ўдары локцямі па скабах ад васковатварых суседзяў. Як бы прынята не зважаць і на танцы незнаёмага чалавека на ступнях

вашых ног. А ў гэты дзень юны маладафронтавец быў настолькі стомлены, што не звяртаў увагі ўвогуле ні на каго. Каб у тралейбус увайшла першая ледзі Амерыкі пад руку з беларускім прэзідэнтам, на яго нават гэта не зрабіла б уражання. Валера толькі паўгадзіны таму скончыў збіраць подпісы жыхароў горада пад заклікам, каб у грамадзкім транспарце абʼяўлялі прыпынкі па-беларуску. А ў гэтым тралейбусе, куды прыклаўшы ўсе мажлівыя яго маладому трэніраванаму целу высілкі, ледзве прасунуўся Абламейка, шафёр увогуле нічога на абʼяўляў. Ні на якой мове. Здавалася, што за рулём сядзіць нямы. Зрэшты, як і большасць тралейбуснікаў у Гародні.

Валера з цяжкасцю дастаў з кішэні квіток і паспрабаваў перадаць яго чалавеку, што стаяў бліжэй да кампосцера.

– Прабіце, калі ласка, – папрасіў юнак.

– Я сейчас тебе купол пробью, – пачуў ён у адказ пагрозлівы пʼяны голас. – Г-говори со мной по-руски, если хотиш дотянуть до следующей о-остоновки.

Здаровы перапіты мужчына сціснуў кулакі і, распіхваючы локцямі людзей, прабіваўся да Абламейкі. Людзі ў паніцы стараліся рассунуцца па баках, як куры, напалоханыя праходам у хлеў лісы. Валера адразу зразумеў, што бойкі не пазбегнуць. Каб хоць неяк запанаваць над сітуацыяй было толькі адно выйсце – стукнуць першым. А пʼянюга ўжо стаяў побач.

– Я говорю исключительно по-руски, – крыкнуў ён юнаку ў твар, і якраз у гэты момант Валера з усяе моцы рэзануў яму ў сківіцу.

Здаравенны пʼянтос грымнуўся на плечы, падмяўшы пад сябе некалькіх пасажыраў тралейбусу і завыў нямым

голасам. Збоку выглядала так, што ён дастаў па мордзе за жаданне гаварыць па-руску.

Пасажыры ў сваю чаргу таксама зараўлі як недарэзаныя авечкі. Нават у “нямога” шафёра тралейбуса прарэзаўся голас. Ён спыніў свой транспартны сродак, адчыніў усе дзверы і нешта крычаў, як сто вар’ятаў. Праўда, было цяжка разабрацца на якой мове, бо па нецэнзурнай лаянцы гэта зразумець немажліва. А Абламейка, каб не зацягваць канфлікт, куляй выскачыў з тралейбусу і пайшоў дахаты пехатой.

Дзесьці праз гадзіну дзверы яму адчыніла чымсьці вельмі напалоханая маці.

– Сыночак, дзякуй Богу, прыйшоў, – з палёгкай уздыхнула яна.

– А дзе я дзенуся, – засмяяўся Валера, і занепакоіўшыся матуліным збянтэжаным выглядам спытаў: – Ці што здарылася, што на табе твару няма?

– Ды за цябе ўсё непакоюся, – глянула яму ў вочы маці. – Ты хоць у сённяшняй акцыі апазіцыянераў не ўдзельнічаў?

– Ну, збіраў подпісы за нашу мову. Я ж табе яшчэ ранкам казаў куды пайду.

– Я не пра гэтую акцыю пытаюся. Вашы збіранні подпісаў ужо ўсім абрыдлі. Людзі кажуць апазіцыя слабая, толькі і можа што подпісы збіраць. А толку з таго, як кот наплакаў. Я пытаюся пра іншую акцыю.

– Пра якую, мама?

– А вось суседка толькі што прыходзіла. Казала што вы сёння па ўсім горадзе заладзілі масавую бойню. Нібы-

та ў грамадскім транспарце да смерці збівалі тых людзей, што па-руску гавораць. Кажуць, усе шпіталі заваленыя пацярпелымі.

– Што ты пляцеш, мама! – Зарагатаў юнак. – Як ты ў гэта магла паверыць?

– А што, няпраўда? Ну і добра. Хоць з другога боку і шкада. Суседка казала, што вас людзі зноў сталі паважаць. Моцная, кажуць, ужо апазіцыя ў нас стала, раз адважылася біцца. Трэба, маўляў, цяпер трымацца бліжэй да яе.

## Семінарыст

– Пара ўжо і табе трошкі падвучыцца ў нашых заходніх калегаў, – замест “Добры дзень” прывітаўся з Косцікам кіраўнік яго мясцовай партыйнай суполкі, накінуўшы на твар такі выгляд, нібыта прапаноўвае свайму маладому калегу прама тут і зараз білет у рай, якім той можа скарыстацца ў кожны дзень і ў той год, калі сам захоча гэта зрабіць, нажыўшыся ўволю на гэтым грэшным свеце. – Праз тыдзень за мяжой (тут ён падняў палец угору, надаючы дадатковую важкасць сказанаму) будзе праходзіць для такіх невукаў як ты адукацыйны семінар. Хлопец ты неблагі, але неадукаваны. Хоць практыку змагання з большага маеш. І на пікетах стаяў, і на мітынгах актыўнічаў. Засталося трохі розуму набрацца, тады можа што добрае і атрымаецца нават з такога асталопа як ты. У вас маладых галоўная бяда, што вучыцца не жадаеце. А вучэнне, як вядома, свет, а невучоных – процьма. Вырашылі мы паслаць цябе за мяжу на цэлых пяць дзён. Візу зробім. Задарма (тут ён яшчэ раз падняў палец угору, на гэты раз яшчэ вышэй, чым у папярэдні). Глядзі толькі не сядзь у лужыну як Станіслава на зэдлік. А то некаторыя там абы чым займаюцца, лайдакі. Зважай, па вяртанні сам іспыты прымаць буду. Пагляджу, ці навучыўся ты выбары выйграваць.

Косцік вельмі ўзрадаваўся. Ён ужо даўно пераймаўся, што як улёткі раскідваць – то яму давяраюць, а як за мяжу – то нехта іншы. Некаторыя ўсё сваё палітычнае жыццё толькі і робяць, што па семінарах катаюцца. Іх так і называюць – семінарысты. Ну а цяпер і ён трапляе ў гэтае элітнае кола, як кажа яго кіраўнік, разумнікаў.

Рыхтаваўся малады хлопец да паездкі вельмі адказна, як бедны бацька да шлюбу першай дачкі. Перачытаў некалькі разоў статут і праграму сваёй партыі, вывучыў галоўныя прынцыпы, на якіх гуртуецца аб'яднаная апазіцыя, папрасаваў порткі сам (не даверыў малодшай сястры), купіў новую кашулю і першы ў сваім жыцці гальштук. Залез у слоўнік і пастараўся ўспомніць пару-тройку фразаў з школьнай праграмы па-ангельску. На мяжы, у краме "д'юціфры" купіў за апошнія грошы самую дарагую бутэльку віскі для падарунку і жуйку для "свежага дыхання". Здавалася, быў падрыхтаваны да ўсяго. Але, калі ўбачыў пяцізоркавы гатэль, які зіхацеў кансерватыўнай велiччу і нязвыклай для славянскага вока маўкліва-халоднай чысцінёй, ужо хацеў уцякаць дахаты. Гэта ж трэба, колькі яму павагі! Дзе ж ён зможа апраўдаць такі давер! Відаць, яго ўспрымаюць як нейкага вялікага палітыка, разумнага і вопытнага, ад якога залежыць найменш лёс не толькі яго краіны, але і ўсёй галактыкі. А можа і не адной. Ад яго, хіба, чакаюць выступ роўню Ўінстана Чэрчыля. А ён жа ж ні халеры не ведае. Лепей, каб не зганьбіць сябе і сваю краіну, трэба хутчэй хапіць ногі ў рукі ды на пяту, пакуль не агледзеліся яго неадукаванасці ў палітычных пытаннях. І ўцёк бы, каб былі грошы на квіток. А той, што ў яго быў, дазваляў дэзерціраваць толькі праз пяць дзён.

Да гэтага моманту Косцік быў толькі ў адным айчынным гатэлі нейкага раённага цэнтру. Гразі там было, больш толькі ў палескіх балотах да пачатку меліярацыі. А тут яго пасялілі ў вялікім чыстым пакоі з двума ложкамі. А ён нават не арыентаваўся, які ложак для яго, таму баяўся прысесці хоць на нейкі. А зранку на сняданку ён упершыню даведаўся што такое шведскі стол і застаўся галодным. Яму ўвесь час здавалася,

што ўсе глядзяць колькі ён бярэ сабе ежы. Таму Косцік абмежаваўся кавалачкам каўбасы і шклянкай соку, якую няўпэўнена нёс да свайго століка і спатыкнуўшыся палову разліў.

Першы дзень заняткаў быў самым складаным днём яго маладога жыцця. Прыехалі замежныя трэнеры, упэўненыя, высокія, прыгожыя, нібы толькі з Галівуду. "Семінарысты" таксама выглядалі адважна і ўпэўнена. Шмат выступалі, дыскутавалі з замежнікамі, тлумачылі ім палітычную сітуацыю ў Беларусі і на планеце Зямля. Паказвалі свой розум і дасведчанасць напоўніцу. У Косціка ўжо тады мільганула думка, што ён чамусьці нікога з іх не бачыў на вулічных акцыях на Радзіме. Акрамя двух, якія гэтак жа як і ён, сядзелі і сціпла маўчалі, як рыба ў акварыуме. Астатнія так любілі выступаць, што Косцік падумаў, што прымусіць іх заткнуцца можа толькі раптоўная смерць ад залішняй балбатні. Але па абедзе юнак ужо стаў заўважаць нейкія несутыкненні. Замежныя трэнеры з усходняй Еўропы, якія навучалі як весці выбарчую кампанію, пад час палітычных пераменаў у сваіх краінах былі зусім не ў эпіцэнтры змагання. Добра, калі хто з іх сачыў за гэтым па тэлевізары. А тыя, хто сапраўды біўся і сядзеў за свабоду і дэмакратыю ў астрогах, чамусьці не патрапілі сюды як эксперты. Калі статыстыкі сталі абвяшчаць вынікі сацыялагічных даследванняў у Беларусі, Косцік злавіў сябе на думцы, што сапраўды ёсць толькі тры сапраўднадзеючых варыянты падману. Проста падман, нахабны падман і статыстыка. Гаворачы пра рэйтынг БНФ або сацыял-дэмакратаў, трэнеры нават не ведалі колькі тых сацыял-дэмакратаў і БНФ-аў ёсць у Беларусі. А як сталі навучаць, як правільна выступаць на тэлебачанні, да якога апазіцыю нізашто не дапусцяць, ды як трымацца перад тэлекамерай, неведаючы што яна здымае толькі для таго, каб быў доказ твайго ўдзелу на мітынгу ў судзе, і якія

артыкулы пісаць у незалежную прэсу, якой практычна не засталося, Косцік мала не звар’яцеў. І толькі тады, калі нехта з трэнераў стаў расказваць, што трэба сачыць каб каля выбарчай дзяльніцы прадстаўнікі ўладаў не плацілі грошы выбарцам (так званая скупка галасоў), юнак стаў істэрычна рагатаць, як прафесар у псіхушцы.

На другі дзень Косцік ужо выкарыстаў усе мажлівыя перавагі шведскага стала, і на сняданку наклаў сабе столькі ежы, што не здужаў з’есці і палову. На трэці, зразумеўшы, што ніхто не забірае і не перашкаджае ўзяць тае ежы яшчэ раз, браў патроху, але часта. На чацвёрты, ён з тымі двума маўчунамі, якіх бачыў на мітынгах, раздушыў бутэльку падарункавага віскі і зусім не пайшоў на сняданак. А ў апошні дзень смела выступаў перад аўдыторыяй маладых палітыкаў, добра ведаючы, што чым больш незразумелай бязглуздзіцы ён скажа, тым больш высокі бал свайго “семінарнага” навучання атрымае ад трэнераў.

– Ну што? – прывітаўся з ім па прыездзе на Радзіму кіраўнік яго арганізацыі. – Навучыўся як правільна выйграваць выбары? Хочаш яшчэ калі наведаць такое шкаленне?

– Хіба не, – вяла, неяк без асаблівага энтузіязму адказаў Косцік. – Наеўся я з першага разу гэтых семінараў, як жаба мула. Слухаў я там усё і ўсіх. Мала не звар’яцеў ад іх розуму. Скажу шчыра. Зараз мог бы выйграць выбары ў кожнай заходняй дэмакратычнай краіне. Ці, скажам, быць там карысным. А што тычацца Беларусі, калі па-праўдзе, то навукі правільна выйграваць выбары не зразумеў. Затое зразумеў галоўнае – чаму мы ніяк тых выбараў выйграць не можам, старанна і дакладна выкарыстоўваючы набытыя на тых замежных семінарах веды.

## БНФаўскія дзеткі

– А чаму б нам не зрабіць для нашых дзяцей свята? – задумліва і ляніва спытаўся Кастусь у старэнькага партыйнага кампутара, які ўжо паўгадзіны не мог загрузіцца, і таму хіба "загрузіў" новымі ідэямі галаву свайго гаспадара. – Новы год. А мы за палітычнымі справамі зусім пра дзяцей забыліся. Круцімся ў сваім асяродку, а нашыя дзеці нават незнаёмыя паміж сабой.

Кампутар нічога не адказаў на гэты крык чалавечай душы. Толькі міргануў запыленым маніторам і зусім "здох". Затое, непазбаўлены ад прыроды пачуцця гумару, заўсёды вясёлы Яўген, які сядзеў за паперамі ў другім куце партыйнага офісу БНФ, з ахвотай і звыклай для яго жартаўлівасцю весела падключыўся да развагаў.

– Дзеці гэта такія маленькія паскудныя чалавекападобныя істоты, якія вераць у Дзеда Мароза і лічаць, што на Новы год ім увесь свет павінен рабіць падарункі? Ты іх маеш на ўвазе? Такіх падобных на нас стварэнняў, толькі меншых па некалькіх крэтэрах. Па росту, подласці, хцівасці, сквапнасці, зайздрасці, хітрасці, кар'ерызме і імкненні да супрацьлеглага полу.

– Не прыдурвайся, Яўген, я сур'ёзна, – нечакана для сябе і сам зацікавіўся гэтай ідэяй Кастусь. – Здымем залю, паставім ёлку, запросім усіх сяброў нашай партыі разам з іх сем'ямі, і абавязкова з дзецьмі, на святкаванне Новага году. Прызначым каго-небудзь Дзедам Марозам, купім для дзяцей падарункі...

– Я нават ведаю што. Кожнаму чырвонага каня, срэбныя латы і шчыт з крыжам Еўфрасінні Полацкай.

– Гэта для нас. А для дзяцей цукеркі, весялосць і шчаслівае дзяцінства. Самае галоўнае зрабіць для іх вясёлы вечар. Каб ён ім запомніўся на ўсё жыццё. Гэта мы, дарослыя, толькі "Жыве Беларусь!" ды "Жыве Беларусь!". А маленькім дзеткам гэтага яшчэ, на жаль, не зразумець. Як падрастуць, тады мусяць ісці нашым патрыятычным шляхам. А зараз гэтыя наіўныя маленькія чалавечкі ні халеры ў палітыцы не разбіраюцца. Таму трэба зрабіць усё, каб і дарослыя не сапсавалі вечарыну палітычнымі размовамі. Трэба на ідэалогію накласці на гэты вечар табу. Усё для дзяцей. Вось толькі не ведаю, што за персанаж павінен у нас быць. Дзед Мароз, Санта-Клаўс ці Святы Мікола.

– Сапраўды важнае пытанне, – ужо больш сур'ёзна ўспрыняў ідэю свята для бэнээфаўскіх дзяцей Яўген. – Ты праўду казаў, што дзеці малыя і пакуль што ні ў чым не разбіраюцца. Прыйдзецца доўга тлумачыць хто такі Святы Мікола. У школах і дзіцячых садочках толькі вобраз Дзеда Мароза кшталтуецца. Яны да гэтага прывыклі, то хай так і цяпер застаецца.

– На жаль так, – уздыхнуў аўтар геніяльнай (на яго думку) навагодняй ідэі. – Мы ж за сваім змаганнем зусім уласных дзяцей закінулі. На іх, на галоўнае што ёсць у жыцці, часу не хапае. А яны ўжо прывыклі да таго, што бацькі вечна няма ў хаце, як грошай. То на паседжанні, то на выбарах, то на мітынгу, то ў астрозе... Калі ім растлумачыць свае ідэі, расказаць што такое "Жыве Беларусь", і хто такі Святы Мікола... Таму не будзем ім псаваць вечару падобнымі завіхрэннямі, а зробім усё так, як у іншых людзей. Проста, весела і без ідэалогіі адзначым Новы год. А ты, Яўген, і будзеш Дзедам Марозам. Толькі зайшоўшы ў

залю, не крыкні “Жыве Беларусь!”, а скажы: “З надыходным Новым годам вас, дзеткі!”.

Рыхтаваліся да гэтага вечару ўсе вельмі сур’ёзна, як да гвалтоўнага захопу ўлады. Канспірацыя была на вышэйшым роўні. Галоўная ўвага на дзяцей. Ніякіх сваіх ідэалагічных і палітычных размоваў не дазвалялася. Толькі навагодняя тэматыка. А дзеці адаптаваліся да новага асяродку вельмі хутка. Іх не здзівіла, што тут усе, да апошняга чалавека, размаўлялі па-беларуску. Зусім не так, як у іх школках і дзіцячых садочках, дзе нават на занятках па беларускай мове размаўляюць па-расейску. Яны цешыліся новай кампаніяй, святам і чакалі, як усе дзеці свету ў гэты вечар, цуда. Але сапраўдны цуд убачылі толькі іх бацькі.

– Добры вечар, дзеці, – пабарабаніўшы палкай аб падлогу, прывітаўся праз наклееную бараду, пераапрануты Дзедам Марозам Яўген. – А вось і я, ваш Дзед Мароз!

– Глядзіце, Святы Мікола прыйшоў, – паказала на Яўгена пальцам маленькая дзяўчынка з бантамі на косах, і дзеці прыліплі да яго з усіх бакоў, як таўстун да куфля піва. Шумнага такога піва, нефільтраванага.

Яўген так разгубіўся з-за таго, што ў вобразе Дзеда Мароза бэнээфаўскія дзеці распазналі Святога Міколу, што нечакана для сябе, замест падрыхтаванага паводле сцэнару свята: “З надыходным вас Новым годам, дзеткі!” гучна ляпнуў:

– Жыве Новы год!!!

У прысутных бацькоў аж вочы на лэб палезлі, нібыта яны ўбачылі марсіянскі карабель з бел-чырвона-белай сімволікай. А дзеці ні кроплі не збянтэжыліся.

– Жыве Беларусь! – Весела адгукнуліся яны. – Жыве Вечна!

А дзяўчынка з бантамі на косах прымусіла Яўгена нахіліцца і шэптам на вуха спыталася:

– Святы Мікола, скажыце, а дзе Снягурачка? І яшчэ, калі ласка, адкажыце, а ці будзе сёння Дзед Мароз?

## Шлях да замірэння

– Ніхто зараз і не памятае, хто першы сказаў, што беларуская апазіцыя мусіць аб'яднацца, – плюнуў у роспачы на зямлю счырванелы ад злосці Яська. – Колькі не ламайце галаву – не здагадаецеся. Бо гэта сказаў не адзін чалавек. Іх было некалькі. Яны, незалежна адзін ад іншага, выказалі гэтую, на іх думку геніяльную ідэю разам, у адзін і той жа час і прыкладна ў адным і тым жа месцы. Праўда, па сённяшні дзень кожны з іх лічыць, што менавіта ён мусіць увайсці ў падручнікі навейшай палітычнай гісторыі Беларусі як першы і сама разумны аўтар тэорыі палітычнага аб'яднання. Калі вы яшчэ не здагадаліся пра каго размова, то пакапайцеся ў архівах прэсы часоў развалу Савецкага Саюза і аднавіце ў сваёй памяці прозвішчы, якія апазіцыю раз'ядналі. Менавіта гэтыя людзі, праз гадоў так дзесяцьпятнаццаць, і сталі ідэолагамі аб'яднання. Можа хто жадае паспрачацца з гэтым? Ці як?

Ахвотных паспрачацца было багата, як заўсёды ў беларускіх апазіцыйных колах. Хоць адбаўляй апалонікам. А тая спрэчка разгарэлася якраз напярэдадні парламенцкіх выбараў. Гарадзенскія апазіцыянеры, бліжэй да апоўначы, разносілі ўлёткі. Кожны за свайго кандыдата. І нечакана лэб у лэб сутыкнуліся ля аднаго дома. Тут ледзьве не дайшло да бойкі. Яська быў у Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі БНФ, а Толік проста ў БНФ. Тыя партыі калісь былі адной, і нават расейскія ФСБэшнікі ў самых аптымістычных прагнозах не маглі прадбачыць яе расколу, хоць упарта на тое працавалі. Віталь, які стараўся неяк разняць зчапіўшыхся як маладыя пеўні БНФаўцаў, прадстаўляў "Грамаду" (БСДГ)

і быў у свой час адным з першых утваральнікаў руху БНФ на Гарадзеншчыне. Па сённяшні дзень ганарыўся пасведчаннем, на якім красаваўся подпіс Зянона Пазняка, першага кіраўніка БНФу. А АГПовец Арнольд толькі круціў як аб'еўшыся канаплі баран галавой, і прыпамінаў, што і ён да БНФ мае нейкія цьмяныя даўнішнія дачыненні.

Сапраўды, калісьці нават сама актыўнаму правакатару, засланаму ў шэрагі апазіцыі для яе расколу, не верылася ў мажлівасць рэалізацыі такога сцэнару, як раз'яднанне маналітнага адраджэнскага руху БНФ "Адраджэньне" на розныя партыйныя структуры. Апазіцыя, калі яе яшчэ так і не называлі, выглядала даволі маналітнай, як дэкларавае бальшавікамі яднанне пралетарыяў усіх краінаў. Здавалася, нават Пярун сваімі ўсёзнішчальнымі маланкамі не ў змозе ўнесці там раскол. Але гэта было даўно. Можна сказаць вельмі даўно. Тады яшчэ спявачку на сцэне ацэньвалі не па яе фігуры і ступені распранутасці, а па вакальных даных і прыгажосці голасу. Зараз нават не верыцца, што такое можа быць. І хоць з тае пары мінула не больш двух дзесяткаў умоўных адрэзкаў часу, якія людзі называюць гадамі, а здаецца змянілася цэлая эпоха.

Эпоха сапраўды змянілася. Нядаўна адзіны Беларускі Народны Фронт з здзіўленнем хлопчыка, якому замест чаканай цукеркі далі па азадку, стаў заўважаць наяўнасць іншых палітычных партый. Яшчэ больш здзівіўся, заўважыўшы што і Беларускіх Народных Франтоў аж два, хоць для прыходу да ўлады дастаткова і аднаго. А колькі іншых партый! Хоць віламі раскідвай. Хіба што больш чым самых апазіцыянераў.

– Вельмі некаторым хочацца выглядаць аб'яднаўцамі,

пасля таго як усё развалілі, – несупакойваўся Яська. – Відаць рэлізоўваюць чарговы бізнес-праект. Калісьці бачылі сваю карысць у стварэнні безлічы непатрэбных партыяў і ліпавых арганізацыяў трэцяга сектару, якіх зараз больш чым смуроду ў грамадскай прыбіральні, а на цяперашні момант хіба стала выгадна зрабіць выгляд аб’яднання.

– Знаеш, што я табе скажу, – парыраваў Толік, ужо сціскаючы каўнер кашулі апанента сваімі моцнымі лапамі. – Ёсць людзі, дрымучыя мазгі якіх не паспяваюць мяняцца ў залежнасці ад новых палітычных умоў. Вечна спазняюцца. А некаторыя спазніліся назаўсёды. На ўсё жыццё. Тлумачу яшчэ раз для асабліва тупых – апазіцыя аб’ядноўваецца каб перамагчы.

– Але гэтых хлопцаў нават гарэлка не аб’яднае, – уздыхнуў, павярнуўшыся да Віталіка Арнольд. – Адзін агітуе за выбары, іншы за байкот. Паглядзі як пераконваюць адзін другога. Поп сваё, а чорт сваё. Ды што там казаць – нас таксама ніхто і нішто, нават Сілы Нябесныя да канца аб’яднаць не ў змозе...

Але не паспеў абгрунтаваць сваю думку да канца. Каля іх, як чэрці з балота, нечакана павыпаўзалі з вячэрняй цемры некалькі постацяў у міліцэйскіх мундырах з дубінамі ў руках.

– Улёткі разносім, – прабубнела адна постаць. – І без выходных дадзеных. Прыйдзецца вам пайсці з намі.

Апазіцыянеры адразу згуртаваліся ў шыхт. Плячо ў плячо. Толік з словамі: “Мы іх затрымаем, а ты знікай з улёткамі, бо без наяўнасці ўлётак яны нас ні ў чым абвінаваціць не змогуць”, сунуў у рукі Яську свае агітацыйныя матэрыялы і засланіў таго ад міліцыянтаў. Тое ж зрабілі

і астатнія. Яська дзыгануў за вугал дома, а праз хвіліну астатнія таксама сыпанулі ва ўсе бакі. Аслупянелыя міліцыянты напачатку дрыгнуліся даганяць, ды куды там. Улётачнікаў як ветрам здула. Дзе іх зараз знойдзеш. Як кажуць, шукай ветру ў полі.

Праз паўгадзіны хлопцы сустрэліся зноў і сталі, весела разбіраючы кожны свае ўлёткі, абмяркоўваць начную падзею.

– Ну што, – падміргнуў Віталік Арнольду. – А ты казаў ніхто нас не аб’яднае. Улада нас аб’яднае сваімі рэпрэсіямі. Зробіць усё, каб мы зноў аб’ядналіся супраць яе і ўрэшце перамаглі.

Апазіцыянеры засмяяліся, паціснулі адзін аднаму рукі і разышліся раскідваць улёткі. Кожны за свайго кандыдата на гэтых выбарах. А некаторыя дык і за байкот тых выбараў разам з усімі кандыдатамі.

## Тост

Трыццаць два даляры, сцяг, плакат з надпісам "Басовішча", тры бутэлькі гарэлкі (літровыя бутэлькі), кавалак сала, салёны агурок, добры настрой і нявызначаная колькасць энергіі, лічба якой імкнулася да бясконцасці – гэта ўсё, што Ігар узяў з сабой у дарогу. Дарэчы, гэта ўсё, што ў яго было ўвогуле па жыцці. Для поўнага шчасця ён хацеў бы яшчэ мець квіток на зваротны шлях, але на такую дробязь шкада было губляць грошы. Малады хлапец з працоўнай сям'і, вясёлы, жартаўлівы, ён адразу стаў душой кампаніі ў асяродку сваіх аднагодкаў з Беларусі, якія прыехалі на Беласточчыну на чарговую традыцыйную імпрэзу беларускай песні "Басовішча". Ігара палюбілі за натуральную манеру трымацца і за яго жарты, якія той ніколі не прыдумваў адмыслова. Яны самі нараджаліся пры кожнай размове. З ім было весела.

– Ну вось і мяжу пераехалі, – заўважыў нехта, весела гледзячы ў запацелае вакно цягніка. І падміргнуўшы дадаў: – Ёсць прычына каб выпіць!

– Няма прычыны каб не выпіць, – удакладніў Ігар, і не паспеў цягнік ад'ехацца ад Кузніцы, як тры пустыя бутэлькі, якія яшчэ паўгадзіцы таму трэба было хаваць ад мытнікаў, піхаючы бакамі адна другую, весела пакаціліся па падлозе.

А яшчэ праз паўгадзіны, Ігар ужо паспеў прадаць свае трыццаць два даляры, набыць у больш скупых і менш п'ючых суайчыннікаў чарговыя тры бутэлькі, і, седзячы ля нераскладзенага намёта азначыць той факт, што на "Басовішча", як і на кожную вялікую і шанаваную

народам імпрэзу, збіраюцца дзве катэгорыі грамадзянаў. Адныя каб павесяліцца, іншыя каб зарабіць на весялосці першых.

Пасля чарговага Ігаравага жарту некаторыя прысутныя нават пачалі спалохана пераглядвацца. Ігар, падняўшы палец угару, глыбокадумна заўважыў, што кожная з тых дзвюх катэгорый людзей дзеліцца яшчэ на дзве – на сапраўдных апазіцыянераў, і на тых, хто імі толькі прыкідваецца. А зрабіўшы невялічкую паўзу, ён цяжка ўздыхнуў і дадаў, што сярод неп'ючых адсотак тых, хто прыкідваецца, значна большы, чым сярод людзей з супрацьлеглым ад іхнага стаўленнем да алкаголю. Пасля гэтага нейкі неп'ючы юнак, у якога Ігар купляў "горкую", і які быў аматарам цвярозага ладу жыцця, нечакана для ўсіх выпіў адным махам цэлую шклянку гарэлкі, адразу зваліўся на зямлю ў нязвыклай для чалавека позе, і так праляжаў аж да цемры.

Чым далей доўжылася свята, чым больш спявалася песняў, тым мацней падымаўся настрой. Ужо пры святле месяца, Ігар падняў чарговы кілішак і засяродзіў увагу на тым, што паглынанне алкаголю без адпаведнага тосту, гэта проста банальная п'янка. І прапанаваў выпіць за свой лянівы цень, які падаў ад вогнішча.

Прысутным вельмі спадабаўся такі падыход у змаганні з "зялёным цмокам". Хтосьці нават папрасіў, каб Ігар прыдумаў найлепшы тост усіх часоў і народаў. Каб гэты тост неяк адпавядаў і "Басовішчу", і змаганню за незалежнасць, меў адраджэнцкі характар і веліч беларускага духу. Каб ён палюбіўся ўсяму люду зямлі, і яго абавязкова гаварылі на кожным застоллі.

Ігар ажно зморшчыў лэб, як пакрыўджаны гібонам арангунтанг. Яшчэ нічога і ніколі ён не прыдумваў на заказ. Яго жарты заўсёды ўзнікалі хутка, натуральна. З іх смяяліся іншыя і ён сам, і адразу пра іх забываліся. А тут прыдумаць нешта такое, што не забудзецца ніколі. Але набытую марку лепшага на "Басовішчы" весялуна, ад жартаў якога развязваюцца пупы нават у рыбаў, трэба было трымаць. Ігар так напружваў мазгі, што здавалася ў галаве закіпела, а праз вушы валіць густы белы пар. А ў галаву, як назло, не завітвала ні адна думка. Ужо і надзея на нечаканы прыход Музы пачала знікаць, як раптам нібы хто стрэліў у вуха з танку.

– Ёсць тост! – стрэліў у адказ Ігар. – Найлепшы тост усіх часоў і народаў! Толькі слухаць яго трэба стоячы.

Усе паслухмяна ўсталі. Твар Ігара свяціўся гонарам чалавека, які зрабіў тое, чаго іншыя не змаглі б ніколі. Ён падняў кілішак, і, выразна вымаўляючы кожнае слова, нібыта чаканіў манеты, агучыў усю фразу:

– За нашу і вашу Свабоду!

На яго здзіўленне ніхто не закрычаў у захапленні: "О! Які тост!". І нават не страціў прытомнасць ад велічы пачутага. Наадварот. Усе сталі пераглядвацца з здзіўленымі тварамі. А аматар цвярозага ладу жыцця, што да гэтай хвіліны ўсё яшчэ валяўся п'яны ў нязвыклай для чалавека позе, прачнуўся з трыма пытальнікамі на павернутым да Ігара твары.

– Гэтыя словы, задоўга да цябе, сказаў Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка, наш славуты прашчур і нацыянальны герой, – урэшце пераклаў хтосьці на словы сэнс таго, што адбывалася.

– Прабачце, я не ведаў. Я быў перакананы, што гэта я толькі што стаў аўтарам гэтага выслоўя, – пачырванеў Ігар. Ён убачыў, што яго аўтарытэт знікае, як пясок у верхняй шклянцы сярэднявечнага гадзінніка. Трэба было тэрмінова выкручвацца з неспрыяльнай для яго іміджу сітуацыі. – У мяне ёсць яшчэ адзін, не менш вялікі тост, – бадзёрым голасам, які не прывык здавацца ад першага ўдару, задэкляраваў ён. – Давайце вып’ем за нашых славутых продкаў. Вы толькі падумайце, як яны даўно жылі. Можна сказаць у дзікія часы. Ні там цывілізацыі, ні пачытаць чаго... А якія цудоўныя тосты казалі: – “За нашу і вашу Свабоду!”

## Канспірацыя

Зміцер зайшоў да мяне без званку. Без званку, гэта яшчэ мякка сказана. Ён проста адчыніў дзверы нагой, перад гэтым добра размахнуўшыся. Улічваючы тое, што ён толькі што адсядзеў пятнаццаць сутак у астрозе за арганізацыю несанкцыянаванага мітынгу і ўваліўся да мяне ў невыносна дурным настроі, але з бутэлькай гарэлкі ў руках, я вырашыў прыняць удар нагой у дзверы за лёгкае пастукванне.

– Сёння маем права выпіць, – традыцыйна для такога настрою прывітаўся ён.

На мяне яго эфектны дазвол чаканага ўражання не зрабіў. Зміцер быў у цвярозым стане. Мой стан быў проста адваротны ягонаму. Гэта па-другое. А па-першае, ужо гадоў дваццаць пяць, мне, каб выпіць, нічый дазвол не быў патрэбны.

– У мяне, пакуль я любаваўся небам праз краты, быў час для прыёму ў сваю башку новых думкаў пра нашу нязгдарную дзейнасць, – заявіў Зміцер, з абыякавасцю кінуўшы бутэльку на канапу, нібыта збіраўся з ёй спаць. – Мы, як тыя бараны, б'ёмся галавой усё ў тыя ж вароты, а толку ніякага. Толькі выйдзем улёткі раздаць, а на нас скок міліцыя, як блохі на бяззубага сабаку. І ўлётак не паспяваем раздаць, і нас заграбаюць у каталажку. Не паспяваем нават мяўкнуць. А ў чым справа, пытаю? І сам адказваю. Справа ў адсутнасці канспірацыі. Міліцыя заўсёды ведае, дзе мы будзем збірацца. Бо трэплемся языкамі на кожным рагу, як бабы без работы. З гэтага моманту – больш ніякіх публічных абмеркаванняў нашай дзейнасці. Сабраліся пяць чалавек і ўсё вырашылі. Тады і ўлёткі раздаць паспеем, пакуль за намі

міліцыя прыедзе, і ў дадатак яшчэ паўцякаем з месца “злачынства”. А там, шукай ветру ў полі. Дакажы, што мы былі. Пачнём дзейнічаць прама сёння. Няма чаго адкладваць у глыбокую скрыню. І ўлёткі ёсць, што на мінулую акцыю рабілі. Так і не раздалі яшчэ. Затое зараз усё пойдзе як па масле. Канспірацыя – гарантыя нашых перамог!

Я не стаў спрачацца. Бессэнсоўна. Як можна ў чым пераканаць апантанага. Толькі ўласны досвед, кінуўшы пару палак у колы, можа збіць такі імпэт. Ды, калі сказаць па-праўдзе, і ў самога нейкая надзея з’явілася, што знойдзены залаты ключык ад усіх праблемаў. Вельмі хацелася ў гэта верыць, бо вельмі абрыдла пападацца ў лапы бугаёў у мундзірах. Таму і пагадзіўся з гэтымі высновамі. Толькі паспрабаваў неяк надаць такой сур’ёзнай размове трохі жартаўлівасці:

– Але ж як нас не будуць біць, садзіць і затрымліваць, то колькасць людзей у апазіцыі паменшыцца, – кажу. – Не будзе тады стымулу працаваць. А так дастанеш па плячах дубінай і зноў хочацца на мітынг. Каб паглядзець чым скончыцца на гэты раз.

Ды гэты жарт Зміцерам на быў успрыняты належным чынам. Занадта быў настроены ён па-дзелавому. Як кот на мышкаванні.

Праз колькі гадзінаў мы з ім і яшчэ тры чалавекі, павыключаўшы мабільныя тэлефоны, схаваўшыся ў бязлюдным лясным масіве, шэптам абмяркоўвалі мейсца правядзення чарговай акцыі. Моцна, аж да сваркі паспрачаўшыся, як гэта прынята ў апазіцыянераў (хіба такая даўняя нацыянальная беларуская апазіцыйная традыцыя, бо на пяць прысутных там чалавекаў было шэсць меркаванняў пра тое, у якім месцы гораду зручней здзейсніць задуманае, і сем меркаванняў

наконт часу правядзення), мы ўрэшце здолелі дамовіцца. Выйграў восьмы варыянт, які ніхто не прапаноўваў. Але ўсе цешыліся, што нічыя з нашых прапановаў не была прызнана разумнейшый за іншыя.

Назаўтра ў дамоўленым месцы і ў вызначаны час мы зноў спаткаліся, трымаючы за пазухай некалькі скручаных пакетаў з улёткамі. Праўда, двое з пяці не прыйшлі. Але гэта справа звыклая. Мала там што магло здарыцца. Бяда была не ў тым, а ў іншым. Вакол нас, як каты ля акварыуму соўгаліся нарады міліцыі. Гэтая акцыя была сарваная ад самога пачатку.

– Адкуль яны тут узяліся, – праз зубы выдушыў Зміцер. – Мы ж здаецца добра заканспіраваліся. Як атрымаўся такі пракол? Уцечка інфармацыі?!

– Ды ніякай уцечкі, – ляніва пазяхнуў Лявон, трэці хто з намі быў. – У гэтым месцы і ў гэты час іх заўсёды больш чым сабакаў на сметніку. Цэнтр гораду ўсё ж. Работа ў іх такая, хадзіць туды сюды. Вось і ходзяць.

– Сапраўды, міліцыі хоць адбаўляй. Толькі дастанеш улёткі, зразу замятуць у пастарунак. Акцыю прыйдзецца адкласці, – пачырванеў расчараваны аўтар тэорыі мясцовай канспірацыі. – Аднаго толькі не магу ўцяміць. А дзе нашы? Дзе апазіцыя? Каб нас было шмат, можа паспрабавалі б што зрабіць.

– А нашы пра акцыю нічога не ведаюць, – засмяяўся я. – У нас вельмі добрая канспірацыя, – і пашкадаваўшы збянтэжанага Зміцера дадаў, – Хадзем лепш да мяне. Там з учарашняга дня на канапе твая бутэлька валяецца, нікому не патрэбная, нібы ў ёй мёд, а не гарэлка. Там і паразмаўляем, як канспіравацца на будучыню. Можа што талковага пры ёй і прыдумаем.

## Праўдзівы адказ

Трэці дзень запар, пад вакном партыйнага офісу, які па-сумяшчальніцтву яшчэ быў і жылым домам кіраўніка суполкі, Алег назіраў адзін і той жа малюнак – цёмна-сінюю машыну, у якой два зявакі сядзелі і слухалі музыку, падтрасаючы ў такт і рытм шырокімі тоўстымі тварамі і двайнымі падбародкамі. Яны ўсім сваім выглядам стараліся паказаць, што сочаць за кіраўніком мясцовай апазіцыйнай структуры, у якую акрамя Алега ўваходзіла, па спісе, яшчэ сем чалавекаў. Трое з іх, у пошуках лепшай долі, ужо з'ехалі некуды на заробкі, а двое знайшлі нейкую працу на месцы і не прызнаваліся нават самым сабе, што яны ўваходзяць у нейкую партыю. Яшчэ адзін штодзённа і цэлы працоўны час мясцовага піўнога бара расказваў усім, каго не сустрэне ў гэтым улюбёным амаль усёй мужчынскай паловай невялічкага раённага цэнтру месцы, што пасля наступных прэзідэнцкіх выбараў улада і жыццё ў Беларусі кардынальна памяняюцца. Яго аповеды мелі вялікі поспех у ўдзячных сіняносых слухачоў і чырвонамордай тоўстай буфетчыцы, якая толькі яго, з усіх сваіх кліентаў, не адважвалася аблічваць і заўсёды налівала піва столькі, колькі ён абяцаў ёй вярнуць грошай з першага ж заробку. Заробак і працу расказчык пра светлую будучыню спадзяваўся атрымаць акурат пасля тых кардынальных зменаў, пра якія апавядаў. А сёмым, па тым партыйным спісе, якраз і быў Алег. Для апазіцыянера з шматгадовым палітычным стажам адразу было зразумела, што за людзі сядзяць у цёмна-сіняй іншамарцы заходнееўрапейскай фірмы "Фольксваген". Ён іх характарызаваў бы так: яны цярпець не могуць усё заходнееўрапейскае, акрамя хіба што толькі тых рэ-

чаў, якімі валодаюць самы. І ставяцца тады да тых рэчаў з неўласцівай для сваёй прафесіі ласкай і пяшчотай. Яшчэ яны атрымоўваюць добры заробак, які ім патрэбны для набытку рэчаў усё той жа заходнееўрапейскай вытворчасці, маюць вышэйшую адукацыю, якая ім для працы зусім не патрэбная, і мундзіры з пагонамі, што вельмі неабходныя для наведвання афіцыйных мерапрыемстваў на працы, прысвечаных такім святам як “Дзень чэкіста”. Яны толькі тым былі падобныя на Алега, што наведвалі любімае месца жыхароў вёскі гарадскога тыпу толькі для таго, каб забраць адтуль аўтара аповедаў пра хуткія і непазбежныя змены на палітычным полі Краіны.

Што тычыцца кіраўніка мясцовай апазіцыі, то справы ў таго былі вартыя ўвагі сама вялікіх філосафаў, што зацыкліўшыся на навуковых тэорыях паўсюдна шукаюць парадаксальнасць. Толькі чамусьці лянуюцца выйсці з кабінетаў. Алег уваходзіў у тую невялічкую колькасць апазіцыянераў, што выйгралі выбары ў мясцовыя саветы. Сам не ведаў як гэта атрымалася. Ці то аповеды ў піўбары мелі такі эфект на мірнае мясцовае насельніцтва, якое час ад часу становіцца электаратам, ці які эксперымент улада рабіла. А можа яго з кім пераблыталі пры падліку галасоў.

Такі рэзкі прарыў яго кар’еры прынёс “шчасліўцу” дзве рэчы. Па-першае – славу. Яго імя цэлы месяц, пасля тых выбараў, не пакідала старонкі апазіцыйнай прэсы. Па-другое, яго пасля гэтага поспеху так “запаважала” мясцовая ўлада, што ўжо трэці год нікуды не мог уладкавацца на працу.

Былі і пабочныя эфекты. Мясцовы савет нарэшце пабачыў чалавека, які галасуе не так як іншыя. Гэткая

справа! Такога не было з моманту ўтварэння таго савету пасля другой сусветнай вайны. Напачатку іншыя дэпутаты моцна напалохаліся гэтай з'явы. Думалі, што хутка надыдзе або канец існавання самых саветаў, або канец свету. Але паступова прывыклі. Тады, неўзабаве, і з'явіўся цёмна-сіні "Фальксваген".

У гэты дзень Алегу моцна абрыдла назіраць за тымі, хто назірае за ім. Ён выйшаў з хаты-офісу і накіраваўся да месца "засады". Засадчыкі, убачыўшы госця, з цяжкасцю выпаўзлі з машыны і адначасова павесілі кожны з свайго боку свае стодваццацікілаграмовыя целы на яе адчыненых дзверках. Хіба баяліся, што калі зробяць гэта не адначасова, то машына неўзабаве перакуліцца.

– Памагай Бог у цяжкой рабоце, – завязаў размову партыйны лідар.

Назіральшчыкі збянтэжана глянулі адзін на другога і вылупілі вочы на Алега. На іх тварах чыталася: "А прычым тут Бог?"

– Вы назіраеце за мной, я за вамі, а толькі Бог за ўсімі, – патлумачыў той.

Мяркуемыя суразмоўцы з дакладнасцю да паўруху паўтарылі аперацыю з пераглядваннем, толькі за тым выключэннем, што на гэты раз ў знак згоды кіўнулі галовамі.

– Маю да вас пытанне, – не супакойваўся дэпутат. – Толькі прашу каб адказалі чэсна, як у папа на споведзі. Я ўсё разумею. Хутка выбары, таму вы тут і прызямліліся, як блін з каровы на зямлю. А што будзе пасля выбараў? Будзеце працягваць цікаваць за мной, ці супакоіцеся?

– Адказваю чэсна, – імгненна адгукнуўся адзін

назіральшчык. – Можа будзем назіраць, як зараз, а можа пачнём вас жа і ахоўваць, а назіраць за тымі, хто сёння аддае нам загады назіраць за вамі.

– Так, – падмахнуў галавай у знак згоды другі. – І гэта не ад нас залежыць. Гэта залежыць больш ад вас. Ці калі быць шчырымі да канца, то гэта залежыць толькі ад вынікаў выбараў.

## Дарагія падарункі

Другая палова васмідзесятых гадоў дваццатага стагоддзя для абывацеляў “самай справядлівай і заможнай” краіны, тавары ў якой можна было набыць толькі па талонах, па “блату” і адстаяўшы вялікую чаргу (чым хіба і вызначалася яе справядлівасць), і якая яшчэ працягвала па сямідзесяцігадовай звычцы называцца Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, нечакана, нават для яе краўніцтва, прынесла небачаныя на працягу ўсяго яйнага існавання змены. Галоўным шокам быў нават не абраны кірунак на “галоснасць” і “перабудову”. Грамадскасць успрыняла гэта як чарговы жарт адурэлага, прыстарэлага, дастаткова прыдзіцянелага кіраўніцтва з даволі маладым новым генеральным сакратаром камуністычнай партыі Савецкага Саюзу. У гэтыя байкі верылася яшчэ менш, чым у папярэднюю заяву былога сакратара кампартыі, што цяперашняе пакаленне будзе жыць пры камунізме. З ног збіваючай весткай стала тое, што можна на нейкі кароткі тэрмін вырывацца з моцных лапаў вялікай і неабсяжнай Радзімы і выязджаць за мяжу. І гэта не толькі камсамольскім ці партыйным наменклатуршчыкам, а каму хочаш. Народ спачатку ажно разгубіўся. Не паверылі людзі. Але пасля, патроху, крыху баязліва, то адзін, то другі, паспрабавалі на сабе праверыць праўдзівасць дазволу, які ніяк, на думку выхаваных у духу марксізму-ленінізму грамадзянаў не стасаваўся з палітычнай лініяй “партии и правительства”.

А як паглядзелі, што перасеч абнесеную калючым дротам тэрыторыю заваёў “вялікага кастрычніка” можна, то ламанулі на захад шэрагамі і калонамі, ажно кажухі

заварочваліся. Толькі гай шумеў, як людзі пёрліся ў “злачынны свет”, дзе “чалавек чалавеку – воўк”, і галоўным прынцыпам існавання грамадства ёсць “эксплуатацыя чалавека чалавекам”. Ішлі, ехалі і ляцелі. Хто па што. Адны каб зарабіць, другія каб назаўсёды пакінуць прасторы “развитого социализма”, трэція каб на свае вочы пабачыць абяцанае камуністамі загніванне і падзенне капіталізму.

А на Беласточчыне, мясцовыя беларусы, якія павявалі за “Салідарнасць” і справядлівасць для ўсіх людзей Рэчы паспалітай, шчыра і наіўна мяркуючы, што ў гэты спіс увойдзе і беларуская нацыянальная меншасць Польшчы, з нецярпеннем чакалі сустрэчы з нацыянальна свядомымі братамі па крыві з этнічнай Радзімы. Наіўныя. Скуль ім было ведаць, што тыя, хто сапраўды збіраўся змагацца за змены ў Беларусі, гуртаваліся ў нефармальныя клубы і гэтак жа наіўна меркавалі, што тыя змены надыдуць хутчэй, чым ім спатрэбіцца пераехаць праз мяжу. Але былі і такія, што перспектывы “змагання” за незалежнасць свайго Краю атаясамлялі менавіта з замежнымі паездкамі. Прычым, за чужы кошт.

Сустрэлі адну з такіх дэлегацый на Беласточчыне надзвычай ветліва. У Яўгена, які тады па маладосці думаў, што ў Польшчы, дзе ён нарадзіўся, ужо ўсе праблемы будуць вырашацца ў правільным кірунку, і таму ён цалкам можа прысвяціць сваё жыццё толькі беларускім справам, ад радасці з тае сустрэчы аж падбародак тросся, як хвост у галоднага ката на марозе. Ён да яе адмыслова падрыхтаваўся. Чакаў гасцей з Беларусі больш, чым нявеста чакае, што яе абраннік перад першай шлюбнай ноччу так нап’ецца, што ні ў чым не разбярэцца.

Госці елі, пілі і дзякавалі. Шчыра здзіўляліся аповедам пра згуртаваную і шматколькасную беларускую супольнасць ў Польшчы. Хіба сапраўды шчыра. Бо нават і зараз, праз столькі гадоў, афіцыйныя (не апазіцыйныя) беларускія дэлегацыі здзіўляюцца, што і за мяжой ёсць нейкія беларусы, якія яшчэ ў дадатак размаўляюць па-беларуску. Ну скуль пра гэта ведаць людзям, якія, як сцвярджае афіцыйная беларуская дзяржаўная прапаганда, ажно настолькі "талерантныя", што гатовыя усім народам пайсці на вайну, распачаць гэтую вайну хоць з цэлым светам, і нават загінуць усім народам на той вайне, толькі дзеля адной мэты – абы вайны не было.

Прыехаўшыя тады не былі аж настолькі талерантныя і недасведчаныя. Яўген быў у захапленні ад іх. Галоўным яго гонарам былі кніжкі на беларускай мове, якія ўдалося выдаць беластоцкім беларусам і якія ён ад шчырага сэрца прэзентаваў сваім новым знаёмым.

– А вы не баіцеся праз мяжу весці тыя кніжкі? – Запытаў шчаслівы Яўген. Настрой у яго быў вышэй Эйфелевай вежы. – Бо там разумнікі, якія будуць правяраць вас на мяжы, могуць знайсці і антысаветчыну?

– Не! – Хорам адказалі госці. – Мы нічога не баімся. Гэта для нас самыя дарагія падарункі якія мы мелі ў жыцці.

– Ну то тады яшчэ вазьміце. Падорыце знаёмым.

Тыя ўзялі. А Яўген цешыўся з таго факту, як дзіця з цукеркі. Кніжкі былі не толькі яго гонарам, але і тым, чым ён мог дапамагчы беларускаму Адраджэнню. І вельмі засумаваў, калі беларуская дэлегацыя з'ехала. Ён хадзіў па тых вулачках куды вадзіў гасцей і дзе расказваў пра беларускасць Беласточчыны, прыпамінаў, ці чаго не забыўся

распавесці, ганарыўся ў думках мужнасцю людзей, якія не зважаючы на небяспеку быць абшуканымі на мытні, завязуць яго кніжкі ў Беларусь. Во дзе цвет нацыі! Ды яшчэ сказалі, што тыя кніжкі найлепшы падарунак.

Як перапітага да беспамяцтва ногі самы цягнуць да хаты, так і Яўгена, паглыбленага ў думкі пра новых знаёмых, ногі прыцягнулі на вакзал. Ён выйшаў на перон і ад убачанага там аслупянеў як мыш, у вочы якой упялілася сваім пранізлівым позіркам каралеўская кобра. Цягнік з “мужнымі” хлопцамі пакідаў Беласток, здзекліва махаючы хвастом апошніх вагонаў. А на пероне, на рэйках, на вакзальных лаўках і каля іх, паўсюдна валяліся падораныя кніжкі.

## Паводле Валодзі Высоцкага

– Шалёна люблю гэтага хлопца, – узяў у рукі гітару Валодзя Кіслы, паставіўшы на стол недапіты кілішак з вадкасцю светла-бронзавага колеру, якая для недасведчанага вока магла б нагадваць каньяк або віскі, але на самой справе была звычайнай беларускай самагонкай, якая настойваецца на дубовай кары і карэннях яшчэ там нейкай расліннасці, па адмысловым рэцэпце, які ведае зараз толькі адна, даўно страціўшая розум і мову бабка з Мастоўскага раёну. З прычыны яе нематы, складнікі рэцэпту даведацца ўжо немажліва. Хіба толькі падгледзіўшы, як яна чаруе над самагонным апаратам. Але каму гэта трэба, падглядаць за старымі людзьмі? Ды і часу няма.

– Часамі здаецца, што ўся яго творчасць, гэта неўміручы голас барацьбіта са злом, – працягваў хваліць вялікага майстра Кіслы. – Для нас, беларусаў, тыя песні актуальныя аж па-сёння. Прыходзяць нават думкі, што менавіта для нас, беларускіх нацыяналістаў пісаныя. Нездарма яго продкі з нашай зямлі. Вось паслухай.

Спрактыкаваныя пальцы праляцеліся па струнах, і Валодзя, паклаўшы цыгарэту на папяльнічку, стараючыся нават у рухах быць падобным на свайго куміра, скалыхнуў паветра мастацкай майстэрні хрыпаватым басам: -

“Эх, да не Церковь, и не кабак, да ничего не свято,

эх, ребята, всё не так, всё не так, ребята”.

Песні Валодзі Высоцкага я палюбіў задоўга да таго, як пачуў спяванне яго цёзкі Кіслага. Але не адразу змог спалуцыць творчасць вялікага майстра бардаўскай песні з цяперашнім гаротным лёсам беларускага нацыяналіста. Таму,

каб не пакрыўдзіць узвышаных пачуццяў падвыпіўшага сённяшняга выканаўцы, пачаў здалёк.

Валодзя мастак. Ды не абы які. Тым і ганарыцца. Кажа, што яго маляванне беларускіх пейзажаў для адраджэння беларускасці перавышае па значнасці дзеянні ўсіх апазіцыйных палітыкаў, як выява Леніна на некалі савецкай дзесяцірублёвай купюры, для ўсё тых жа савецкіх людзей, пераважна пралетар'ята, перавышала вартасць заспіртаванай муміі важака пралетарыяў усіх краін. Таму, каб дакапацца да сутнасці заявы пра беларускасць Высоцкага, і неяк зразумець праспяванае меркаванне пра Царкву і кабак, ды пры гэтым не пакрыўдзіць выканаўцу, я пачаў з нахвальвання твораў свайго сённяшняга суразмоўцы Кіслага.

– Які цудоўны партрэт, – кажу. – І як табе ўдалося дасягнуць такога падабенства з арыгіналам. Гэта ж Зянон Пазняк у маладосці.

– Увогуле гэта Архангел Гаўрыіл. Абраз дзевятнаццатага веку. Прынеслі тут мне на рэстаўрацыю, – дапіў свой кілішак мастак і, самае дзіўнае, не пакрыўдзіўся. Толькі прыжмурыўся і выбухнуў надрыўным голасам: –

"...поэты ходят пятками по лезвию ножа,

и режут в кровь свои босые души".

– А распавядзі ты мне пра беларускасць Высоцкага, ды пра лучнасць з нашай рэчаіснасцю царквы ды кабака, пра якія ты спяваў, – засаромеўшыся сваёй памылкі, на гэты раз пачаў я наўпрост. – У чым сувязь? Дзіўна мне чуць з тваіх вуснаў такое. Чалавек ты набожны, абразы малюеш, праваслаўны, молішся бывае. Нават часамі з царкоўнымі бацюшкамі гарэлку той мастоўскай шаптухі-вядзьмаркі

выпіваеш. А тут пляцеш такое, як прафесар-філосаф з універсітэцкай адукацыяй.

– А сувязь такая, што нам беларусам, нідзе месца няма, – на гэты раз Валодзя выпіў кілішак да канца адным махам, і нават не зморшчыўся. – Усюды чужая мова. Прыходжу неяк у кабак, кажу: – “Мне куфаль піва!”. А мне ў адказ: - “А што такое куфаль?” Добра што не спыталі, што такое піва. Ну і ў Царкве аднойчы. Прынёс я штучныя кветкі. Прыгожыя такія. Тады ў нас гэта было рэдкасцю. Толькі-толькі з Польшчы прывозіць сталі. Ну і гавару там па-свойму. Куды лепш пакласці пытаюся. Ды вось пачуў нейкі там царкоўны прыслужнік-маскаль, скуль ён толькі ўзяўся ў Мастоўскім раёне, што я па-беларуску размаўляю. Не звярнуў увагу нават на тое, што мы ў Царкве. Падышоў да мяне з перакошаным ад злосці, як у недарэзанай авечкі мордай, ды кажа: – “А Господь искусственных цветов не любит”. – З упэўненасцю такой кажа, нібыта ён сэрвіруе Госпаду стол, і добра ведае, што Той любіць, а што не. Вось і мяркуй, дзе нам месца знайсці на нашай зямлі? І якой дарогай ісці да нашай Радзімы.

Я задумаўся. А Валодзя зноў рэзнуў пальцамі па струнах: -

“Вдоль дороги лес густой, с бабами-Ягами,

а в конце дорги той, плаха с топорами”.

– І што, – глянуў я ў вочы Кісламу. – Няўжо ты прамаўчаў?

– Кепска ты мяне ведаеш, – засмяяўся мастак. – Адказаў так, што больш таго прыслужніка ніхто не бачыў у нашай Царкве. Я дачакаўся, пакуль да нас падыдзе бацюшка і пытаю прыслужніка на яго мове: – “Так вы утверждаете,

что Господь искусственных цветов не любит. Скажите, а Он вам это сказал лично?”

Я засмяяўся, а Валодзя, падміргнуўшы левым вокам і гахнуўшы яшчэ адзін кілішак, зноў заспяваў Высоцкага: –

“А если б водку гнали не с опилок,
то что б нам стало с семи бутылок...”

## Таямнічыя коды

Пасля таго, як ужо амаль заснуўшы пасля нуднай начной змены памежнік падскочыў на сваім крэсле, толькі з тае прычыны, што Павел прасунуў у вузенькае акенца яго цёплай памежнай будкі свой пашпарт, пасажыры халоднага аўтобуса, які рухаўся праз мяжу з Гародні ў кірунку Беластоку, зразумелі – сёння ім не патрапіць своечасова на сваё працоўнае мейсца продажу кантрабанднага алкаголю і цыгарэтаў на беластоцкім рынку. Праўда, калі той памежнік куляй, як голы ў лазню, паляцеў з Паўлавым пашпартам у другую цёплую будку, дзе сядзела яго кіраўніцтва, пакінуўшы апусціўшых насы і ўціснуўшых ад ранішняга зімовага холаду галовы ў плечы жадаючых пераехаць мяжу суайчыннікаў стаяць на марозе перад будкай нумар адзін, у сэрцах няшчасных пасажыраў аўтобуса яшчэ шавялілася надзея, што затрымка з-за нейкага крывога штампу ў пашпарце, ці яшчэ з-за якой нязначнай дробязі. І што прычына непаразумення хутка вырашыцца і яны патрапяць хаця б на канец гандлю.

Але калі зноў убачылі свайго памежніка, які плёўся ў хвасце дэлегацыі з ужо трох памежнікаў, трох мытнікаў і аднаго нізкарослага, але задзёртаносага чалавека ў цывільным, усё стала зразумелым – хутка выбары, а ў аўтобусе апазіцыянеры. Алярм! Праверка будзе безвыніковай, але доўгай. Нічога не знойдуць, але нервы папсуюць. Урэшце ўсіх адпусцяць, але на рынак ужо ніхто не паспее.

– Вазьміце свае рэчы і ідзіце з намі, – ляніва звярнуўся да Паўла адзін з мытнікаў, молячы ў думках Бога, каб нічо-

га незаконнага ў тых рэчах не было. Бо прыйдзецца тады, замест таго, каб пасля заканчэння працы паехаць у цеплыню нагрэтага жонкай ложка, цэлы дзень пісаць паперы. А вечарам тлумачыць усё той жа жонцы, што яго позняе вяртанне да сямейнага ўтулку адбылося не з-за каханкі і не з-за гарэлкі. (І тое і другое яго жонкай аднолькава ўспрымалася як самае вялікае злачынства свету. Яна так і не магла за доўгія гады шчаслівага сямейнага існавання вызначыцца, што горш).

Павел узяў свае рэчы, кінуў позірк на Алеся, другога ў тым аўтобусе апазіцыянера, і паслухмяна, як баран на бойню, пасунуўся ўслед за прадстаўнічай шматколькаснай памежнай дэлегацыяй.

Торба была пустая, як кішэні алкаголіка. Яе праверылі ўсе па-чарзе, а чалавек у цывільным аж некалькі разоў. Яго твар свяціўся паляўнічым азартам з тае забавы. Хацелася штосьці знайсці. Ды дзе там. Як у тую торбу сам нічога не пакладзеш, то нічога і не знойдзеш. Апазіцыянеры народ бывалы. Праз мяжу нават вошаў не рызыкуюць перавозіць. Ведаюць, што з “пашаны” да іх, нават блох могуць кваліфікаваць як кантрабанду.

Паўла прыйшлося адпусціць. Пасажыры аўтобуса, і нават памежнікі з мытнікамі, уздыхнулі з палёгкай. Засмуціўся толькі чалавек у цывільным. Ён яшчэ раз праверыў прозвішчы пасажыраў, адклаў у бок цяпер ужо Алесеў пашпарт, і яго твар зноў засвяціўся паляўнічым азартам, а на лбе нават нібыта стаў бачны надпіс “Можа на гэты раз пашанцуе”.

Далей падзеі пайшлі так, як бы хтосьці на відэамагнітафоне націснуў клавішу “Паўтарыць”. Уся тая ж дэлегацыя з

трох мытнікаў і трох памежнікаў ды аднаго ў цывільным, усё тое ж расчараванне на тварах пасажыраў, усё той жа лянівы голас паўтарыў тыя самыя словы: "Вазьміце свае рэчы і ідзіце з намі". Другая серыя ад першай рознілася толькі тым, што мытнік звярнуўся не да Паўла, а да Алеся. Усё гэтак жа, паслухмяна, як баран на бойню, Алесь пайшоў услед за прадстаўнічай памежнай дэлегацыяй. Такая сама нудная праверка торбы і... раптам у сцэнары памежнага серыялу нечакана памяняўся сюжэт – у торбе быў нататнік. А ў нататніку...

Сярж. Зінк. 2(7), 5(9), 3(8) – 10+24=34

Яўг. Кап. 4(6), 7(9) – 11+15=26

І так ад вокладкі да вокладкі. Старонка ў старонку. На тварах памежнікаў і мытнікаў роспач – дахаты сёння не патрапяць. І надзея – а можа той у цывільным нічога не разбярэцца ў тых таямніча-закадаваных надпісах і апазіцыянера адпусціць. А ў таго ў цывільным выраз твару мяняўся з кожнай хвілінай. На пачатку радасць, ад якой вочы заблішчэлі мацней, чым свежавыбіты медаль, які меркаваў атрымаць за затрымку "дзяржаўнага злачынцы". Пасля злосць, што ў тых надпісах не толькі ён, але і лепшыя кадавальшчыкі КДБ не разбяруцца. У канцы страх. Раптам сапраўды не разбяруцца. А як ні ў чым не разбярэшся, то нічога і не дакажаш. Тады яму не толькі медаль не свеціць, але ён стане пасмешышчам усёй заходняй мяжы. Халера б іх пабрала, тых апазіцыянераў. Як добра кадаваць навучыліся! Прыйдзецца адпускаць.

Уздых палёгкі мытных супрацоўнікаў суправаджаўся бурлівай радасцю пасажыраў аўтобуса, які нарэшце вырваўся з моцных лапаў Радзімы.

– Чаго так доўга трымалі? – ужо на польскай тэрыторыі спытаўся ў Алеся хтось з пасажыраў.

– Да нататніка прычапіліся, – усміхнуўся той. – Але як зразумелі, што разабрацца ў надпісах не змогуць, страцілі да мяне цікавасць.

– А пакажы тыя надпісы нам.

Алесь паказаў нататнік, і пачуццё захаплення талентам апазіцыйных палітыкаў да шыфравання, перамешанае з павагай да іх інтэлектуальных здольнасцяў, ахапіла ўсіх, нават шафёра.

– Вось дык шыфроўка! Дзе так можна было навучыцца. Хіба ты праходзіў курсы ў ЗША, – пацікавіўся той.

Аўтобус заціх у чаканні геніяльнага адказу, вартага інтэлекту чалавека, які здольны на такія таямнічыя коды.

– Якая шыфроўка? – здзівіўся Алесь. – Гэта не шыфры, а скарачэнні. Я спартовы журналіст. Пішу пра нашы гарадзенскія каманды. Занатоўваю для дакладнасці вынікі спаборніцтваў. Напачатку стаіць скарочанае імя і прозвішча спартсмена. Пасля лічбы галоў і пасаў. І нарэшце сума, якая і вызначае спартовы рэйтынг.

## Расеец

Калі вам часта даводзілася ездзіць цягнікамі па Беларусі, то вы з лёгкасцю зможаце ўявіць адчай Яўгена Міхнюка. Малады хлопец, які вяртаўся з Мінску ў Гародню, адчыніўшы дзверы свайго купэ, убачыў на сваім месцы трох жанчын сталага веку. Яны ўтульна расселіся на яго паліцы, і ўсім сваім выглядам паказвалі, што не збіраюцца яе саступаць законнаму ўладальніку, нават калі той выкупіў увесь цягнік. Стомлены пасля правядзення несанкцыянаванага мітынгу ў абарону беларускай мовы, юнак адразу зразумеў, што заснуць на тым месцы, якое яму гарантаваў куплены білет можна было б толькі ў адным выпадку – каб ён зайшоў у купэ ў мундзіры нямецкага афіцэра СС часоў Другой Сусветнай вайны з шмайсэрам на грудзях і вялікай пугай у руках. А паколькі ў яго не было ні таго ні другога, і ніякага жадання да спрэчак, Яўген залез на самую верхнюю паліцу і вырашыў крыху паспаць.

Такія спакойныя паводзіны юнака адразу выклікалі ў яго спадарожніц нічым невытлумачальную буру нянавісці і агрэсіі. Адна з пасажырак, твар якой нагадваў галоднага бабра, які пабіраецца каля крамы на бакал піва, адразу гучна пачала абмяркоўваць нявыхаванасць і бездухоўнасць сучаснай моладзі. Другая, якая была падобная на хвост таго галоднага бабра, з выглядам заклапочанасці пра новае пакаленне ў знак згоды ківала той часткай цела, якое звычайна бывае галавой. Трэцяя пачала цяжка ўздыхаць, нібыта не пазней чым сёння пахавала ўсіх сваякоў. Хоць гэта і не перашкаджала ёй адначасова даставаць з торбы ежу.

Пасажыры грамадскага транспарту дзеляцца на пяць катэгорый. Адны, незалежна ад часу сутак адразу пачынаюць спаць. Другія стараюцца завязаць размову з незнаёмымі і пры нагодзе выпіць з імі пляшку-другую. Трэцяя катэгорыя выкарыстоўвае дарогу для чытання. Чацвёртая для мараў. Яўгенавы спадарожнікі належылі да пятай, выміраючай катэгорыі пасажыраў, якая ў часы Савецкага Саюзу дамінавала сярод пасажыраў жаночага полу на неабсяжных прасторах чыгуначных камунікацый. Гэтыя людзі, дзе б і куды б яны не ехалі, мусяць стогнучы і ікаючы абавязкова штосьці есці. Пры гэтым іх агрэсія да прысутных трохі зніжаецца, але надзвычай моцна ўзрастае пачуццё пошуку нейкага абстрактнага ворага. Вось і ў Яўгену яны адразу распазналі ворага па бел-чырвона-беламу значку на яго кашулі.

– Добра што гэтых бэнээфаўцаў ганяюць, – пераржоўваючы жалезнымі зубамі варанае яйка з каўбасой, плаўна перайшла да палітыкі пасажырка з тварам галоднага бабра. – Дай ім волю, яны вайну распачнуць. Такую вялікую краіну развалілі! А зараз хочуць стасункі з Расіяй папсаваць.

– Ага. Ды яшчэ сваю беларускую мову хочуць прымусіць вучыць, – жуючы падтрымала яе Бабровы хвост, гаворачы на такой "расейскай мове", якую можа зразумець толькі народжаны ў Беларусі чалавек. – Душыць іх трэба, як сляпых кацянятаў! Хочуць зрабіць нам як у Прыбалтыцы. А ў мяне сваячка жыве ў Вільні, дык казала што жыць там цяжка. Немажліва там жыць. Хоць бяры і памірай адразу. На гэтых злыдняў трэба заўсёды міліцыю выклікаць...

Яўген стараўся не звяртаць на размову ўвагі, хоць жылы маладога беларускага патрыёта нацягнуліся ад усяго

пачутага як перацягнутыя струны перад тым як разарвацца. Колькі ён змагаўся, рызыкаваў вучобай і працай, плаціў штрафы і сядзеў у пастарунках за сваю мову, за свой народ, а тут цэлую дарогу мусіць цярпець такое. Але пасля таго як цямкаючая кампанія перамыла косці ўсім апазіцыйным палітыкам, зрабіла высновы, што без Расеі беларусам на пражыць, распавяла пра тое, як выміраюць тыя рэспублікі, якія некалі квітнелі ў Саюзе Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, і зрабіла выснову, што беларускай мовай не наясіся – не вытрымаў. Але вырашыў не даказваць свайго, а пайсці іншым шляхам.

– Слухаю я вас, і бачу – разумныя вы людзі, – уклініўся ён у размову. Жанчыны ад такой нечаканай пахвальбы нават на некалькі хвілінаў перасталі цямкаць. А на юнака спусцілася натхненне. – Бачыце, што тыя апазіцыянеры хочуць. Каб мы, беларусы, на сваёй зямлі па-беларуску размаўлялі! А нашто гэта нам?

– Так – так, – пагадзіліся суразмоўніцы, але моцна і нервова насцярожыліся, самы няведаючы чаго.

– Беларусы – гэта ж не нацыя, – разышоўся юнак. – За беларускую мову і нават за тое, што нехта кажа, што ён беларус, трэба кідаць у астрог.

– Тут я з вамі не пагаджуся, – спалоханым нерашучым голасам запярэчыла адна з тых жанчын.

– Мы ўсё ж асобны народ, але..., – паспрабавала падтрымаць яе другая, яшчэ не ведаючы чым яна можа падтрымаць сяброўку і што тая хацела давесці юнаку.

– Ах вось вы як загаварылі! – Не супакойваўся Яўген. – Беларусаў надумаліся абараняць.А хто такія беларусы?! У іх жа нічога няма! Без Расеі паздыхаюць, як тыя прыбалты. А

можа вы бэнээфаўкі? Супраць Расеі ідзеце?!

– Мы не супраць Расеі, – вылупіла вочы Бабровы хвост. – Толькі вы, малады чалавек, дарэмна кажаце што ў нас няма нічога. У нас усё ёсць, што нам трэба. І не памром мы без той Расеі, завярні яе зямля. Абыйдзімся неяк. Не калекі якія. Яшчэ невядома хто без каго загіне! Ды і прыбалты неяк выжылі. Няма чаго наракаць. Жывуць не горш, чым у той Расеі. У мяне ёсць у Вільні сваячка, дык яна казала, што там не так ужо і кепска, жыць можна...

– Ага! Я вас раскусіў. Вы апазіцыянеркі. Нацыяналісткі..., – Яўген так увайшоў ў прыдуманы сабе вобраз, што на хвіліну нават пашкадаваў, што не паступаў на акцёрскі факультэт.

– А ты хто! – Зараўлі жанчыны ў тры гарлякі. – Хіба маскаль нейкі! Панаехалі тут нас павучаць! Заткніся, смаркач! Яшчэ слова і міліцыю паклічам! Паляціш у сваю Расею хутчэй чым кабыла ад ваўка. Там і будзеш хлябальнік разззяўляць. А мы тут і без вас разбяромся!

Яўген так і зрабіў. Заткнуўся. І лежачы на правым баку, шчаслівы, аж да Гародні з задавальненнем слухаў размовы жанчын пра тое, што ён нахабны прыезджы расеец. І што апазіцыя ў нас не такая ўжо і кепская. І што беларусы самы пражыць могуць. Без Расеі. І нават лепш будзе...

## Бліжэй да народу

– Дык вось што я табе скажу, сябра, – сумным голасам пачаў Лявон, нагбом асушыўшы кілішак "Беленькай" і нават не дакрануўшыся да закускі. – Нашыя метады агітацыі – марны лямант. Людзі нас не чуюць, як цецярукі пад час току не чуюць паляўнічага. Я ў глыбокай роспачы. Не ведаю што рабіць. Можа не тое мы ім даводзім? Можа мацней трэба крычаць?

– Крычы ім хоць у самае вуха – не пачуюць. Яны панараджаліся глухімі, – зрабіўшы заклапочаны і злёгку дзелавы, як у практыка-псіхолага твар, заявіў Міхась, у дакладнасці паўтарыўшы рухі Лявона, скіраваныя на паглынанне "Беленькай". – Колькі ўжо гадоў апазіцыя даўбеніць адно і тое ж, а мала хто пачуў. Не даходзіць да іх. Тут патрэбныя іншыя метады.

– Цікава якія? – Вылупіўся Лявон, упяліўшыся вачамі ў суразмоўцу як гадзюка на яшчарку. – Я ўжо тыдзень чакаю арышту. Сам ведаеш за што. Мае дзеянні даўно сядзяць у пячонках улады. Муляюць ім, як каменьчык у боце. Сёння сваёй жонцы, якая ўжо дзесяць год непасрэдна назірае чым я займаюся, сказаў, што як не вярнуся вечарам дахаты, то значыць мяне забралі. А яна мне ў адказ: – "А каму ты патрэбны, каб цябе забіраць. Хіба збіраешся жэрці гарэлку з сваімі бесталковымі сябрукамі-апазіцыянерамі, а мне пляцеш усялякія казкі-небыліцы". Вось і атрымліваецца, што нават самыя блізкія людзі не разумеюць што ў нас робіцца. А як гэта давесці да астатніх? Разбалелася ў мяне душа, пасля жончыных словаў. Кажа, гарэлку жэрці буду. Ну то буду. Хоць неяк той боль душы заліць.

– А я думаю, што трэба быць бліжэй да народу, – падняўшы палец левай рукі ўгару, а правай паднёсшы чарговы кілішак да вуснаў, глыбокадумна заўважыў Міхась. – Далёкія мы ад людзей. Вось паглядзі. Людзі ў гэтай кнайпе гэтак жа як і мы жаруць гарэлку "Беленькую", каму колькі здароўе дазваляе, але не пра праблемы размаўляюць, а весяляцца так, нібы гэта апошняя п'янка ў іх жыцці. Адрываюцца на ўсю шпулю. Ажно шубы заварочваюцца. Караоке для іх уключылі. Яны спяваюць, цешацца жыццём. Цэлая кнайпа, знаёмыя і незнаёмыя, як адно цэлае. Толькі мы з табой тут чужародныя элементы. Сядзім, нудзімся. Чаго тады прыйшлі. Паспрабуй паспяваць з імі. Можа тады і мы іх лепей зразумеем. Ды і яны нас.

Лявон падняў вочы. Вакол, з чырвонымі ад колькасці выпітага тварамі, весяліліся людзі. На запыленым і падрапаным экране "Караоке", якому, каб канчаткова падкрэсліць сваю прымітыўнасць і нягоднасць толькі не хапала выразнага надпісу "Зроблена ў Кітаі", праляталі словы ненавісных Лявону расейска-папсовых песняў. Але іншыя прысутныя з шчаслівымі, як у абкурыўшыхся канаплёй анархістаў тварамі, галасілі кожны ў тры гарлякі, то апярэджваючы мелодыю, то спазняючыся за музыкай.

– Зараз я ім зраблю камедыю. Толькі сумняваюся, што яна нас зблізіць, – Злосна вымавіў Лявон, замахнуў яшчэ кілішак, уклініўся ў спяваюча-рагочачую кампанію "караокнікаў", і, незвяртаючы ўвагі на тое, што на экране, пад адпаведную музыку прабягалі словы: – "Муси-пуси, муси-пуси, миленький мой...", зароў хрыплым басам сваё, беларускае: – "А я лягу прылягу, край гасцінца старога..." Зароў так, што на століках папераварочваліся кілішкі. І нават талеркі з гарачым.

На яго здзіўленне, астатнім гарлапанам такая аранжыроўка расейскай папсы прыйшлася вельмі даспадобы, і як на экране паляцелі словы чарговай песні: – “Нас не догонят, нас не догонят...”, уся кнайпа зараўла ў адзін голас: – “Касіў Ясь канюшыну, касіў Ясь канюшыну...”.

Здавалася гэтай забаве не будзе канца. Кожны хацеў выпіць на брудэршафт менавіта з Лявонам ці Міхасём і абавязкова пагарлапаніць каля іх штосьці народнае, беларускае, падобнае на “Кладачка тоненька, вада халодненька, а я малодзенька...”. Ды неўзабаве абедзве стрэлкі гадзінніку спыніліся на лічбе дванаццаць, што азначала закрыццё кнайпы. Гаспадыня толькі разявіла рот, каб абвесціць пра гэта п’яным наведвальнікам кнайпы (а іншых папросту не было), як адзін з кліентаў перабіў яе:

– Прапаноўваю выпіць за нашых апазіцыянераў, – падняўшы кілішак, звярнуўся ён да ўсіх прысутных. – Я раней і няведаў, якія гэта цудоўныя людзі. Толькі сёння зразумеў. За вас хлопцы! За БНФ. Жыве Беларусь!

– Жыве! За вас, хлопцы! – Хорам падхапіла ўся кнайпа. – І хай гаспадыня паставіць на караоке штосьці беларускае.

– Няма ў мяне нічога такога, – збянтэжылася гаспадыня, а пасля махнула рукой, уключыла першую папаўшуюся музыку, і, не зважаючы на загучаўшы расейскі папсовы матыўчык добра пастаўленым голасам зацягнула сама: – “Ой ляцелі гусі з броду...”

## Самы гарласты

Затрыманых праводзілі ў кабінет стомленай суддзі цэлымі партыямі па тры-пяць чалавек, як авечак на рынак. Суд доўга не цягнуўся. Суддзя, яшчэ маладая сімпатычная жанчына, твар якой не быў сапсаваны ні інтэлектам, ні нават ценню мажлівасці згрызотаў сумлення, не даслухваючы блытаных, чытаных з адной і той паперкі сцверджанняў ілжэсведкаў-міліцыянтаў, выносіла прысуды, кіруючыся хіба што толькі адным жаданнем – хутчэй усіх пасадзіць у астрог, каб засталося крыху часу схадзіць у краму купіць на вячэру сардэлькаў. Здавалася яна хутка перасадзіць усіх без вынятку. І апазіцыянераў, якім перад выбарамі хтосьці з высокапастаўленых дзяржаўных афіцыйных асобаў з крыху большым чым у гэтай суддзі інтэлектам і пачуццём гумару вырашыў даць мажлівасць адпачыць на нарах, і міліцыянтаў, якія здавалася будуць цягаць тых апазіцыянераў бясконца, і нават сваю сакратарку, якая так і не навучылася запаўняць судовыя паперы з хуткасцю святла. Па ўсіх разліках на волі павінны былі застацца толькі яна сама і прадаўшчыца сардэлькаў.

Каб на той суд прыйшоў хтось недасведчаны ў беларускай рэчаіснасці, то яму здалося б, што судзяць шпіёнаў чужой краіны. Бо суддзя і сведкі гаварылі на адной мове, па-расейску, а абскарджваемыя на другой, па-беларуску.

Прысудзіўшы па сем сутак арышту чарговай партыі беларускамоўных затрыманых, суддзя з нязвыклым сумам паглядзела на дзверы, у якія зноў заводзілі некалькі арыштаваных з бел-чырвона-белымі значкамі на кашулях. Іх

было ажно трое. Праўда адзін быў без значка.

– І так..., – пазяхнула суддзя.

– Мы былі на працы, і раптам убачылі вось гэтых трох чалавек, – пачаў тлумачыць міліцыянт, які ў гэтыя дні па сумяшчальніцтву быў яшчэ і нібыта выпадковым мінаком, і ілжэсведкам, і яшчэ цалкам легальна падпрацоўваў даваннем на судзе няпраўдзівых звестак. – Яны ішлі па людных вуліцы і лаяліся нецэнзурнымі словамі.

– Нікуды мы не ішлі, – агрызнуўся адзін з затрыманых. – Мы дахаты ехалі. Вы нас з аўтобуса знялі.

– Ну так, – пацвердзіў другі. – Напалі на нас знянацку, і павалаклі з аўтобуса ў пастарунак.

Трэці затрыманы нічога не сказаў, а толькі ўзіраўся на ўсё здзіўленымі вачамі, як у вожыка, які чамусьці прачнуўся зімой.

– Якая розніца, на вуліцы ці ў аўтобусе, – крыху збянтэжыўся міліцыянт, але адразу паправіўся. – Я і кажу, яны так брыдка мацюкаліся, што амаль усе людзі з кнайпы паўцякалі.

– З якой кнайпы? – злосна сплюнуў на падлогу першы падсудны.

– Для асабліва дэбільна-тупавата-дурных паўтараем, нас узялі ў аўтобусе, – кінуў у бок міліцыянта другі.

Трэці маўчаў. Здавалася ён зусім не разумее што тут адбываецца.

– Я так і сказаў, – не здаваўся міліцыянт. – Запомніш тут вас усіх, дзе каго арыштоўвалі. Галоўнае, што памятаю як вы мацюкаліся. Асабліва вось гэты, які сёння маўчыць. Напалохаўся цяпер. А тады быў самы гарласты. Найграм-

чэй крычаў нецэнзурнымі словамі.

– Усё ясна, – перабіла яго суддзя. Яна разглядала свае нафарбаваныя лакам кіпцюры і не жадала перагружаць галаву нейкімі там падрабязнасцямі гэтай кожнаму зразумелай брудна сфальсіфікаванай справы. Ёй і самой гэтыя працэсы настолькі абрыдлі, што ў думках яна лаялася самымі непрыстойнымі трохпавярхоўнымі нецэнзурнымі словамі, праклінаючы апазіцыю, міліцыю, палітыку, сваю работу, халоднае надвор'е і графік працы крамы з сардэлькамі, дзе акурат сёння быў скарочаны працоўны дзень. У яе галаве нават мільганула думка, што яна толькі што прыдумала некалькі новых брыдкіх нецэнзурных выразаў, якія як няма лепей адпавядаюць існай сітуацыі, абагаціўшы тым самым і без гэтага багатую, найчасцей ужываемую насельніцтвам частку мовы суседняга ўсходняга народу.

– Ясна як белы дзень. Віна ваша даказана, што падцвярджаецца паказаннямі сведкаў. Прысуджаю вам двум па сем сутак арышту, а трэцяму, самаму гарластаму, які сёння маўчыць – дзесяць сутак. Рашэнне суда можаце абскардзіць. Хочаце штосьці сказаць?

– Так, хачу! – закрычаў першы асуджаны. – Суд несправядлівы. Справа сфабрыкаваная. Рана ці позна вам прыйдзецца адказваць.

– Асабліва ілжэсведкам, – падтрымаў яго другі. – Праўда пераможа. За ўсё прыйдзецца заплаціць. Асабліва за несправядлівасць. Вось гэтага чалавека, што маўчыць, увогуле выпадкова заграблі. Такі быў хапун, усіх падмяталі. А ён нават не з нашых. Проста ехаў разам у аўтобусе.

– А ўсё справядліва, – заіранізавала суддзя, і звярнулася да трэцяга асуджанага. – Хто менш лаяўся – менш атрымаў, а хто гарланіў мацней за ўсіх, той больш. Ваша віна даказана. Можа вы штосьці сказаць хочаце?

– Можа і хоча, ды не можа, – усміхнуліся два першыя. – Ён нямы.

## Згрызоты сумлення

Як толькі, зрабіўшы колькі простых матэматычных падлікаў з школьнай праграмы, Анатоль зразумеў, што за кратамі сяброў стала нашмат больш, чым на волі, у яго не засталося сумневаў, што і ён вельмі хутка папоўніць спіс людзей на нарах. Яго ўпэўненасць яшчэ ўзмацнілася пасля таго, як з рэгіёнаў сталі прыходзіць звесткі, што міліцыя хапае апазіцыянераў дзе толькі ўбачыць: на працы і каля хаты, на вуліцы і на вакзалах, паабедаўшых і галодных, трымаючых Вялікі Пост і атэістаў. Пасля, правёўшы няхітрую працэдуру ў судзе, дзе суддзі спяшаліся абвесціць: – "Вінаваты! Давайце наступнага!", супрацоўнікі праваахоўных органаў цягнулі няшчасных змагароў за праўду і справядлівасць да астрогу, дзе тыя і мусілі сустрэць дзень выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, да якога так доўга рыхтаваліся.

Анатоль раскінуў трошкі мазгамі і вырашыў, што тыя некалькі дзён або гадзін, якія яму засталося правесці на свабодзе, ён мусіць пражыць так годна і варта, каб было што ўспамінаць у турме. Дастаўшы адмыслова схаваныя ад жонкі трыццаць пяць тысяч дзвесце дзесяць беларускіх рублёў, ён скіраваўся ў бліжэйшую кнайпу, пастанавіўшы, што для хворага сэрца і падарванага адваротным спартыўнаму ладу жыцця здароў'я будзе лепш, калі міліцыя забярэ яго ў безнадзейна алкагольным, цалкам адключаным ад невыносна-паскуднай рэчаіснасці стане.

Але ў міліцыі былі свае меркаванні. Таму апазіцыянера затрымалі на паўдарозе да кнайпы і цалкам цвярозага звінавацілі ў тым, што ён п'яны кідаўся на людзей, пры тым брудна мацюкаўся, як грузчык з гарадзенскага рачнога пор-

ту. Такое цынічнае абыходжанне перапаўняла сэрца Анатоля помстай, якую ён надумаўся здзейсніць над ілжэсведкамі адразу, як адсядзіць свае пятнаццаць сутак.

У такім помслівым стане Анатоль быў трое сутак. На чацвёрты дзень яго нечакана наведалі думкі пра сям'ю. Ён успомніў, што жанаты, мае дзяцей, родных, блізкіх... Як яны без яго? Сэрца сціснулася ад суму. Вось бы іх хоць на хвілінку ўбачыць. Адразу стала б лягчэй. Ды дзе там. Тут толькі халодныя нары, смярдзючая параша і ніякай сувязі з тым светам за сценамі астрогу.

На сёмы дзень душу арыштанта агарнулі нязвыклыя згрызоты сумлення. Як ён няправільна жыве! Толькі тут, адарваны ад дурной, нікому непатрэбнай мітусні і палітыкі, што нішчыла душу, ён зразумеў, што ў пэўны момант яго жыццё пайшло не тым кірункам. У яго ж добрая, чулая, прыгожая жонка. Мілыя дзеткі. Жыць бы і радавацца. А ён, што? Вечныя паседжанні, мітынгі, арышты. Пасля, каб неяк выпаўзці з стрэсавага стану, п'янкі да апоўначы як у тых грузчыкаў з гарадзенскага рачнога порту.

Сям'і сваёй амаль не бачыць. А жыццё ж адно. Трэба неяк цешыцца з таго найлепшага, што яно дало і шанаваць тых, хто побач. Дарыць ім сваё цяпло і ласку, а не пераймацца нейкай помстай нейкім міліцыянтам. Гары яны сінім агнём разам з усёй гэтай дурной палітыкай. Кідаць яе трэба.

Калі мінуў дзесяты дзень "адсідкі", Анатоль пераканаўся, што нарэшце зразумеў сэнс жыцця. Згрызоты сумлення, што жыў дагэтуль няправільна, дасягнулі піку. Цяпер ён усё зменіць. З працы дахаты будзе прыходзіць у час, нідзе не затрымлівацца. Калі захочацца пайсці ў knайпу, то толькі з жонкай. Ён будзе гуляць

па горадзе з дзецьмі, а па выходных выязджаць сваёй сям’ёй на прыроду...

Дзверы камеры, зарыпеўшы, як косці старога каня, павольна адчыніліся.

– Выходзьце, – роўным, пазбаўленым эмоцый голасам, прасіпеў міліцыянт. – Вы свабодны.

Пад апошнія каманды: “Проста”, “Направа”, “Тварам да сцяны”, Анатоль павольна прасоўваўся па цёмным калідоры да так чаканай свабоды. Перад апошнімі дзвярыма, якія аддзялялі яго ад волі, арыштант атрымаў свае шнуркі, дзяжку, бел-чырвона-белы значок, ланцужок з крыжыкам, мабільны тэлефон і трыццаць пяць тысяч дзвесце дзесяць, так і непрапітых рублёў. Ён выйшаў на вуліцу і адразу скіраваўся да групы сяброў, якія чакалі яго ўжо з ранку.

– Жыве Беларусь! – адказаў Анатоль на аналагічнае прывітанне і спытаў – Як прайшлі выбары?

– Як заўсёды ўсё сфальсіфікавана.

– А людзі на плошчы сабраліся?

– Так. Акцыі пратэсту яшчэ ідуць у Мінску.

– Цудоўна! – павесялеў Анатоль. – Значыць заўтра зранку едзем у Мінск. А зараз хадзем у якую кнайпу. Трэба стрэс зняць. Ляснем па пары кілішкаў. Ды можа тых ілжывых міліцыянтаў сустрэнем, што мяне засадзілі на нары. Пазабіваю гадаў! Не дарую. Цярпець іх не магу.

– А можа з’ездзі спярша дахаты, – параіў хтосьці з прысутных.

У Анатолевым сэрцы штосьць кальнула. Нейкія незразумелыя смутныя пачуцці праляцелі па нацягнутых як стру-

ны нервах. Шалі душы завагаліся і на імгненне іх стрэлка спынілася пасярэдзіне. Але толькі на імгненне.

– Дахаты затэлефаную, – упэўненым голасам заявіў ён. – Як можна сядзець пад спадніцай у жонкі, калі такія падзеі. Дахаты завітаю пасля прыезду з Мінску. Калі зноў не арыштуюць.

## Сачыненне

Бяда на гэты раз здрадзіла сваёй даўняй подленькай звычцы падкрадвацца ззаду, акурат тады, калі яе ніхто не чакае, і прыйшла дакладна ў чаканы час. Як толькі адпаведныя грамадзянскія структуры абвесцілі прэзідэнцкія выбары, адразу ж адпаведныя сілавыя структуры паспяшаліся заявіць, што з боку беларускай апазіцыі, якую нібыта падтрымлівае ўвесь гэты “паганы” цывілізаваны свет, рыхтуецца антыканстытуцыйны пераварот. І што ўсе замешаныя ў ім будуць выкрытыя і жорстка пакараныя. Маўляў, спуску не будзе нікому. Унутраны вораг будзе разгромлены, знешні пасаромлены, а нейкі там яшчэ страшны, невядомы нікому вораг, пракляне той дзень калі нарадзіўся. Кажучы карацей, у гэты дзень беларускае тэлебачанне толькі тым і займалася, што палохала суайчыннікаў, як юнак, які першы раз перабраў максімальную для сябе дозу алкаголю і таму цэлы вечар палохае ўнітаз у хаце каханай дзяўчыны.

– Хай лепш напалохаюць вожыка голым азадкам, – сплюнуўшы ад злосці на падлогу, выключыў тэлевізар Вітаўт. – Буду ведаць, дзе што робіцца, пасунуся туды. Ніколі не цікавіўся палітыкай, але зараз пайду шукаць апазіцыю. Абрыдла ўжо вось так жыць, як жывёла ў заапарку, ды ўсяго баяцца. Баяцца нешта сказаць, бо з работы папруць, баяцца на мітынг выйсці, бо міліцыя забярэ, баяцца...

– Страх – найлепшая страхоўка, – не пагадзіўся з ім яго сусед Валянцін, у якога Вітаўт быў гэтым разам у гасцях. – І добра, што мы нікуды не лезем. Палезлі б, то ўжо сто разоў атрымалі б па рагах і паміж рагоў. Працу згубілі б. А дзяцей карміць трэба. Хто, акрамя нас, імі заапякуецца? Хто я цябе

пытаю? Апазіцыі да тваіх дзяцей няма аніякай справы. Як і ўсім астатнім на гэтым свеце.

– У тых, хто змагаецца, таксама дзеці ёсць. І маюць яны праблемы толькі таму, што такія як мы ўсяго баімся, як авечкі ваўкоў, і іх не падтрымліваем, – не здаваўся Вітаўт. – Былі б з імі разам, даўно годнае жыццё для сваіх дзяцей забяспечылі б. І для іншых таксама. А так, і ў тых сілаў мала, і мы годнасць губляем.

– І нічога мы не губляем, – стаяў на сваім Валянцін. – Жывём мы сумленна, гадуем дзяцей. Ці ж гэта не ганаровае жыццё? Ды каб мы пайшлі зараз у апазіцыю, то каму стала б лепш? Нічога гэта не змяніла б. Толькі нашкодзіла б з цэлую гару. І нам, і нашым дзецям. Яны зараз добра вучацца ў школе, выдатнікі. Настаўнікі іх любяць. А як мы ўляпаліся б, то і ім нашкодзілі б. Бо з уладай няма жартаў. Яна ўсё ведае. Таму хай ідзе, як ідзе.

– Так ісці не можа вечна. Усё вернецца па законе бумеранга. Гэтая сістэма і да нашых дзяцей дабярэцца...

Не паспеў Вітаўт абгрунтаваць свае высновы, як дзверы кватэры адчыніліся і ў хату заляцелі іх сыны.

– Як там у школе? – у адзін голас запыталіся бацькі.

– Сачыненне загадалі напісаць у хаце, – гэтак жа, у адзін голас адказалі дзеці. – І казалі пісаць разам з бацькамі.

– А што за тэма?

– Тэма, як сказала наша настаўніца, вельмі простая. Пра нашу любімую бацькаўшчыну Беларусь. Пра тое, як яна расквітнела за апошнія гады і за што мы любім нашае кіраўніцтва. Сказала, што тэма вельмі важная і будзе ўплываць на ўсе адзнакі. Сачыненні будуць пасылаць аж у

міністэрства адукацыі.

Бацькі пераглянуліся.

– Вось бачыш, – выдыхнуў Вітаўт. – Што я табе казаў. Хочуць каб дзеці гэтае бездарнае кіраўніцтва хвалілі. І палохаюць, што калі не, то адзнакі будуць кепскія. Ды яшчэ як палохаюць, прылізана так, нібыта не разумеюць што робяць. За дзіцячыя душы ўжо ўзяліся, брыдоты. Ты як хочаш, а я больш цярпець не буду. Хочуць з бацькамі каб пісалі, злыдні. Ну то я напішу. І пра тое, як я іх ненавіджу, і пра іх урад, і пра выбары. Усю праўду напішу.

– Ты што, – спалохаўся Валянцін, у якога на галаве ад жаху падняліся валасы, нібы поўсць у шакала ў перыяд бітвы за самку. – Ты чуў? Гэтыя сачыненні на ўсе адзнакі будуць уплываць. Іх жа ў міністэрства адпраўляюць. Лепш напісаць штосьць нейтральнае. Што Беларусь любім за азёры, за лясы і балоты... І ілгаць не трэба, і адзнаку кепскую не паставяць. За такое, як ты хочаш напісаць, не толькі цябе з працы папруць, але і настаўніцу. Добра калі не пасадзяць. А што, пры Сталіну за такое маглі б і забіць. Не хочаш думаць пра дзяцей, пра чужога чалавека падумай. Ты не маеш права яе падстаўляць. Вось гэта і ёсць наш гонар, каб каму кепска не зрабіць. Ні свайму, ні чужому чалавеку.

– Ты словам "гонар" прыкрываеш сваю баязлівасць. Пішы пра што хочаш, а я напішу тое, што я лічу правільным. Хопіць маўчаць, – глыбока абурыўся Вітаўт, хапіў за руку сына і пайшоў да сябе.

Праз тыдзень сын Валянціна вярнуўся дахаты апусціўшы галаву. Адзнака за сачыненне была ніжэй сярэдняй. Выціраючы слёзы, ён распавёў бацьку, што тэма

пра лясы і азёры не стасавалася з канцэпцыяй міністэрства, як сярэдні заробак з коштамі ў крамах. Трэба было пісаць пра прэзідэнта.

– А што ж тады паставілі сыну Вітаўта? – шэптам спытаўся бацька.

– Ён атрымаў самую высокую адзнаку. Пяцёрку. Настаўніца сказала, што падзяляе погляды яго бацькі. І перадавала яму падзяку за выхаванне сына. Хваліла яго вельмі моцна. Толькі прасіла прабачэння, што не змагла паслаць сачыненне ў міністэрства. Недзе згубіла сшытак...

## Сусветная вядомасць

У невялічкім пакойчыку, які больш нагадвае цесную келію манаха-адзінотніка з наўмысна малым метражом, узятым адмыслова для здзеку над сваім зямным аблiччам, каб чалавек не мог ні легчы, выцягнуўшы ногі, ні сесці, галавой не ўпёршыся ў столь, праводзілі сход каля трох дзесяткаў апазіцыянераў. Спрэчкі, як і ў бальшыні разоў, былі пустымі як кішэні гулякі і ніякіх сур'ёзных тэмаў не ўздымалі. На тое было безліч прычынаў. І зацеснае, як дзявочыя джынсы памяшканне, і мажлівае з боку дзяржаўных спецслужбаў праслухоўванне, і завялікая, для сур'ёзных размоваў, колькасць людзей. А не разыходзіліся таму, што некаторыя кіраўнікі яшчэ не паспелі сказаць усе глупоты, якія засталіся ў іх галовах з апошняе сустрэчы, а іншыя яшчэ не задаволілі свае хворыя амбіцыі агідным пазаваннем перад дабраахвотнымі падначаленымі.

– І не хвалюйцеся. Як пойдуць пераследы, то дапаможам усім. Мы ўсё ж вядомыя па ўсім свеце людзі, і таму грамадства на наш заклік адгукнецца, – агучваючы чарговую неабдуманую ідэю, якая толькі што прыйшла ў галаву, заявіў Сымон. – Мы ў дзень выбараў выведзем на вуліцы нашага гораду дзесяць тысяч чалавек. Калі іх затрымаюць, то выведзем сто тысяч.

– А калі затрымаюць сто тысяч, то выведзем сто мільёнаў, – не вытрымаўшы ўсёй бяздумнасці і нерэальнасці сцверджанага, здзекліва і саркастычна зарагатаў Віталь. – Толькі вось у нашым горадзе жыве нашмат менш грамадзянаў, чым нашае кіраўніцтва плануе вывесці на вуліцу. А ўсю нашу шматколькасную апазіцыю міліцыя закіне ў

адну машыну, і яшчэ там месца застанецца для выпадкова прыйшоўшых і свядома прыехаўшых. А можа мы чаго не ведаем? Можа нашы кіраўнікі, пасля ганебных паразаў на мясцовых выбарах год таму, часу дарма не гублялі? І зараз, перад прэзідэнцкімі выбарамі, плануецца вялікае падвышэнне нараджальнасці? І ўсе нованароджаныя генетычна будуць нашымі прыхільнікамі.

– Я табе слова не даваў, – рэзка перабіў яго Сымон. – Мы не можам мець поспеху, калі будуць хоць якія сумневы. Калі хтосьці пачынае лічыць колькі месцаў ёсць у міліцэйскіх машынах і камерах затрымання, то ўсялякая агітацыя – справа безнадзейная. Усе намаганні тады рассыпаюцца як попел пасля пажару, а дух змагання высока падымае рукі ўгору.

– Такія жудасці адбываюцца тады, калі кіраўнікі апазіцыі нясуць больш бязглуздзіцы, чым трэці Напалеон з сёмай палаты дзевятай рэспубліканскай лякарні шалёных вар'ятаў і псіхічна хворых філосафаў. Заўсёды трэба казаць толькі праўду. Тады людзі будуць ведаць куды яны ідуць, навошта, і чым гэта скончыцца, – парыраваў Віталь. – Толькі тады можна спадзявацца на поспех, калі не падманам, а свядома людзі выйдуць на вуліцу і, не чакаючы нейкай дапамогі, самы перастануць баяцца. А пра свае сувязі і мажлівасці, што ты нібыта неверагодна вядомы ў межах сваёй краіны і за яе абшарамі, як дацкі прынц разам з бедным Ёрыкам, можаш расказаць глухой прыдзіцянелай бабульцы, якую ўнукі кожную раніцу вывозяць пакатаць на крэсле па такой жа як яна глухой вуліцы. Вось будзе табе радасці. Бо тая бабулька, што б ёй не сказаў, на ўсё ў знак згоды істэрычна трасе галавой.

– Ды мяне ўвесь свет ведае, – раззлаваўшыся ўскочыў на ногі Сымон, праверыўшы пры гэтым на трываласць гала-

вой столь. – Пра мяне ўвесь інтэрнэт піша без прерастанку. У мяне штодзённа бяруць каментары журналісты...

– Можа і бяруць. – праверыў трываласць столі з другога боку памяшкання Віталь. – Можа нават і пішуць што. Толькі ці хто чытае тое.

Каб не ўмяшанне прысутных, якія так да канца і не вызначыліся, на чыім баку праўда, на трываласць, акрамя столі, прайшлі б праверку дзверы, адзінае вузкае акно і чатыры змрочныя сцяны маленькага памяшкання. І наўрад ці вытрымалі б аргументаў сяброўскай спрэчкі двух апазіцыйных змагароў. Сымона тая спрэчка так закранула, што цэлую ноч не мог заснуць. Ён жа такі вядомы. Нават усе замежныя палітыкі, што прыязджаюць на Беларусь, вітаюцца з ім за руку. А тут такое сказалі...

– Сёння дзень выбараў, не забылася, – прывітаўся на раніцы ён з жонкай, так і не адыйшоўшы ад вячэрняй спрэчкі. – Сёння ў нас несанкцыянаванае мерапрыемства. Мяне можа забраць міліцыя...

– Ой, ды каму ты патрэбны, – адгукнулася з кухні жонка, варочаючы нешта ў патэльні і вуркочучы сабе пад нос нейкі музычны матыўчык.

– Як гэта каму?, – Сымон зайшоў на кухню і глянуў жонцы ў вочы. – Я ж вядомы палітык, апазіцыянер у таталітарнай краіне, кіраўнік небяспечнай для гэтага рэжыму партыйнай структуры...

– Ты?! – Здзіўлена глянула на яго жонка, не перастаючы вуркатаць. – Сапраўды? Што ж ты мне раней гэтай таямніцы не здрадзіў. А то я ўвесь час думала, што ты проста лайдак. Х-м-м. Вядомы палітык! Хто б мог падумаць.

## Памылка міліцыянтаў

Наўрад ці хто калі-небудзь прызнаецца, што менавіта ён стаў аўтарам міліцэйскай аперацыі “Хапун”. Па-першае, яна прайшла дастаткова няўдала і малавынікова. Па-другое, ажыццяўленне гэтага бездарнага плана патрабавала поўнага парушэння дзеючага заканадаўства людзьмі, якія паводле сваіх працоўных абавязкаў мусілі сачыць акурат за яго выкананнем. Ну і па-трэцяе (гэты пункт самы галоўны), каб зразумець прымітыўнасць мыслення складальнікаў гэтай бесталковай спецаперацыі, цалкам дастаткова першых двух пунктаў.

Характар згаданай аперацыі настолькі прамалінейнаы і адарваны ад беларускай рэчаіснасці, што міжволі наводзіць на думку пра высокія афіцэрскія, ці нават генеральскія званні яе прыдумшчыкаў. А тое, што рэалізацыя гэтага сакрэтнага плану заблытала да поўнага шаленства і выканаўцаў, і тых, супраць каго яна была скіраваная, адназначна паказвае, што склалі яе за межамі Беларусі кіламетраў гэтак за паўтары тысячы ўсходней Мінску.

Поўны змест аперацыі “Хапун”, які хутчэй за ўсё пісаўся месяцамі і ўтрымоўвае не адзін дзесятак тамоў друкаванага тэксту, можна перадаць трыма радкамі напісанымі рукой: – міліцыянты, у мундзірах і ў цывільным, на працы і пад час адпачынку, мэтна і выпадкова мусяць хапаць апазіцыянераў дзе толькі ўбачаць, абвінавачваць іх у дробным хуліганстве і на падставе гэтага прадстаўляць ім казённае памяшканне, а таксама ахову і харчаванне за дзяржаўны кошт, аж да заканчэння выбарчай кампаніі.

“Хапун” абрыд усім. Асабліва сапраўдным хуліганам, якія не маглі зразумець, чаму ў заўсёды вольных камерах

на гэты раз столькі сядзіць людзей, што няма дзе сесці. І нават стаць на абедзве нагі. Можна было прыступіць толькі на адну, ды і тая належала суседу па камеры.

Вось у такі цікавы час да Віктара ў госці завітаў яго даўні партыйны калега з раёну Лявон. Хлопцы шчыра цешыліся з сустрэчы, ну і як прынята не толькі ў апазіцыянераў, але і ў іх апанентаў, і нават у той катэгорыі мірнага насельніцтва, якую і тыя і другія называюць электаратам, вырашылі прапусціць грамаў па стопяцьдзесят беленькай. Чыста сімвалічна. Каб паказаць адзін другому важнасць і веліч сустрэчы. З-за страху папасціся міліцыянтам, якія нават увогуле няп’ючых апазіцыянераў хапаюць і абвінавачваюць тых у алкагольных скандалах, вырашылі нават не выходзіць з хаты. І не выходзілі, пакуль не збіліся, якія па ліку ўжо былі чарговыя стопяцьдзесят.

– А што мы іх усё баімся? – Адкінуўшы ў бок пустую бутэльку заявіў п’яны як палеская дрыгва і гэтак жа асмялелы Лявон? – Што, вось так усё жыццё хавацца будзем? Не, я не згодны.

– Не дачакаюцца! – Адважна грымнуў кулаком па стале Віктар, стан якога нічым не адрозніваўся ад Лявонавага. – Хадзем на вуліцу.

Сябры, падтрымліваючы адзін другога, кепска арыентуючыся ў прасторы і часе, адважна рушылі ў горад шукаць міліцыянтаў. Канкрэтнага плану дзеянняў яны не мелі, акрамя як набыць яшчэ пляшку і штосьці абразлівае сказаць людзям у мундзірах. Але як на зло ўсе крамы з празрыстай вадкасцю ўжо былі зачыненыя, а на вуліцы не сустракаўся аніводзін ахоўнік парадку. Пасля гадзіны няўдалых пошукаў яны вырашылі, што на вакзале абавязкова будзе

і той і другі аб’екты іх шуканняў і, равучы ўсім гарляком апазіцыйныя песні, рушылі туды. Было каля апоўначы, калі нарэшце іх мара збылася. На вакзале, сумна і сонна ўзіраючыся на пасажыраў стаяў нарад міліцыі.

– Ну што, казлы! – Зараўлі ў адзін голас п’яныя апазіцыянеры. – Зараз паглядзім чаго вы вартыя! Давайце сюды! Мы вам хлябальнікі начысцім.

У міліцыянтаў, ад такога нахабства, на некалькі хвілінаў перахапіла дыханне. Паступова адыйшоўшы ад паралічу яны кінуліся на хлопцаў, скруцілі ім рукі, крыху памялі бакі і начапілі кайданкі.

– Выклікаю базу, – пачаў раіцца па рацыі адзін з іх з начальствам. – Тут два моцна п’яныя і вельмі агрэсіўныя мужчыны. Кідаюцца да нас біцца. Зусім, прыдуркі, ашалелі. Мы іх затрымаем?

– Вы што там, павар’яцелі?! – Злосна адказала рацыя. – А куды іх дзець? Няма месца куды садзіць. Усе ізалятары забітыя апазіцыянерамі, каб іх халера пабрала. Няма куды нармальных людзей садзіць.

– Гэтыя таксама хіба апазіцыянеры, – пачаў апраўдвацца міліцыянт. – Размаўляюць яны па-беларуску, акрамя, зразумела, мацюкоў. Значкі ў іх бел-чырвона-белыя... Морды, здаецца, таксама такога ж колеру...

– Што ты пляцеш! – Яшчэ больш злосна зараўла рацыя. – Дзе ты бачыў, каб апазіцыянеры самы, ды яшчэ п’яныя ішлі нам у рукі пад час выбараў. Дайце добра тым у косці, каб надоўга запомнілі. Гані тых алкаголікаў з вакзалу дахаты, і пільнуй сапраўдных бэнээфаўцаў.

Міліцыянты знялі з хлопцаў кайданкі і пачалі выганяць

з вакзалу. Тыя ўпіраліся, брудна лаяліся і абзываліся, але ўрэшце, дастаўшы пару разоў у карак, стаміліся даказваць ахоўнікам парадку, што яны таксама людзі, набылі яшчэ пляшку і пасунуліся дахаты. А міліцыянты зноў пачалі пільна шукаць сярод цвярозых наведвальнікаў вакзалу апазіцыянераў, каб затрымаць тых за п’янку.

## Вачамі праваабаронцы

Віктар заўсёды лічыў сябе беларускім нацыяналістам. Не тое, каб ён меў нейкія прэтэнзіі ці непавагу да іншых. Гэтага не было. Проста праблемы іншых яго мала хвалявалі. Любіў сваю нацыю больш за сябе, хоць і быў яе прадстаўніком. І ў палітыку папёрся каб лепшае для свайго народу здабыць. Ну а іншыя, казаў, хай самы вырашаюць свае праблемы. Нам бы, маўляў, абы сваё разграбсці ўдалося.

Як беларускія палітычныя лідары на мітынгах ці ў прэсе пачыналі хвалявацца за чачэнцаў ці яшчэ каго – вельмі злаваўся. Раіў не лезці ў чужую палітыку, як і ў чужыя кішэні. Хай самі разхлёбваюцца з сваім. І з якой пяшчотай заўсёды гаварыў пра беларусаў, так у дачыненні да іншых мог адкалоць і непрыстойны жарцік. Кшталту таго, што ў нейкага там афрыканца скура вельмі прыгожая. Маўляў, добрыя боты з яе атрымацца могуць. Чорныя, такія, бліскучыя. Нават гуталіны не трэба. Анучкай пратрэш – і зноў блішчаць.

Яму нават спрабавалі мянушку даць "ґомафоб". Ды не прыжылася. Хіба таму, што нейкай там сапраўднай грэблівасці да іншых не было ўвогуле. Проста павесяліцца любіў. Але факт застаецца фактам – як убачыць афрыканца, то ўсё пра тыя боты ці то жартуе ці то марыць.

З афрыканцамі ў беларускай правінцыі не так ужо і часта сустрэнешся. Але першая непасрэдна-блізкая сустрэча пакінула вельмі адмоўнае ўражанне. Віктараў сябра, пасля чарговага куфлю піва, пайшоў у прыбіральню. А там нейкі добра налізаўшыся гарэлкі чарнаскуры пачаў рабіць яму недвухсэнсоўныя сэксуальныя прапановы. Раз'юшанасць сяброў, якія ніколі не мелі талерантнага стаўлення

да сэксуальных меншасцяў, магла закончыцца фатальна для афрыканскага госця. І той гэта зразумеў. Тым больш, што Віктар не стаў на гэты раз захапляцца мажлівасцю пашыць боты, бо гэта вельмі доўга. Проста ў рэзкіх фразах коратка растлумачыў няўдачліваму сэксуальнаму агрэсару, што экзатычныя дзяжкі з яго плячэй разыдуцца на гарадзенскім рынку па сто баксаў за кожную, нават без спражкі. Напалоханы такой перспектывай афрыканец стаў крычаць, што калі хлопцы яго будуць біць, то іх пакарае сам Бог. Гэта падзейнічала. Кары Божай баяцца ўсе, нават тыя, каму нібыта няма чаго баяцца. Лавеласа проста выкінулі з бара, адчыніўшы дзверы яго галавой.

Другое блізкае знаёмства з цёмнаскурым было больш станоўчым. Неяк у Мінску быў мітынг апазіцыі за захаванне беларускай мовы. Міліцыя пахапала мітынгоўшчыкаў і стала пакаваць іх у машыны. Віктара таксама ўкінулі ў аўтазак, дзе ён з такімі ж, як сам, залізвалі раны па дарозе да пастарунку. Дзверы аўтазаку час ад часу адчыняліся, каб закінуць туды чарговага апазіцыянера. І раптам, міліцыянты адчыняюць дзверы і штурхаюць у машыну чарнаскурага хлопца. Апазіцыянеры ў адзін голас закрычалі на міліцыянтаў: – “Што вы робіце?! Зусім сумленне згубілі. Звяры! Нашто здзекуецеся з невінаватага? Няўжо не бачыце, што ён не наш!”. Але якое было здзіўленне, калі чарнаскуры замест каб скарыстацца з тае нагоды ды вызваліцца, пакрыўджана закрычаў на цудоўнай беларускай мове: – “Ваш я, хлопцы, ваш. Не адракайцеся ад мяне. Я ваш!”

З тае пары Віктар перастаў жартаваць пра боты. Тым больш, што па волі лёсу стаў працаваць у адной праваабарончай арганізацыі, дзе патрабавалі дбаць пра правы ўсіх

пакрыўджаных, а не толькі беларусаў. Ён так і рабіў, хоць да беларусаў ставіўся больш пяшчотна. Пакуль не патрапіў у сітуацыю поўнага абсурду.

Яго чарговы раз кінулі на нары. На так званыя суткі. Зноў дарогу ўладзе перайшоў. А ў камеры сядзіць нігерыец. Ды такі чарнаскуры, што пакуль не засмяецца ў цемры, то не заўважыш што ёсць. Таксама сядзеў на сутках. Праўда не за палітыку. Ён прыйшоў у міліцыю і папрасіўся, каб яго дэпартавалі на радзіму. Бо тут вучыцца ўжо не можа з тае нагоды, што нашы дзяўчаты вельмі любяць грошы, і яны ў яго скончыліся хутчэй, чым ён скончыў першы курс нейкай беларускай навучальнай установы. Віктар спачатку на яго і ўвагі не звяртаў. Але калі таго, маладога чарнаскурага хлопца, кожны дзень, пачынаючы з самай раніцы, белыя міліцыянты прымушалі то падлогу мыць, то посуд, то дарожкі ад снегу чысціць – Віктар не вытрымаў.

– Як выйду адсюль буду скардзіцца ў міжнародныя арганізацыі, – зароў ён, нібы ў камеру да яго падсялілі дваццаць сем чарцей і аніводнай вядзьмаркі. – Вы што робіце? Раба сабе набылі? Чаму іншых не прымушаеце працаваць, а толькі чорнага? Упісваеце ў беларускую гісторыю ганебную старонку чорнага рабства?

Міліцыянты напалохаліся, і больш нігерыйца не чапалі. Самы падлогу мылі. А Віктар цэлымі днямі слухаў аповеды сукамерніка пра Нігерыю і Афрыку і думаў, ці ёсць там праваабаронцы, якія ў разе чаго змогуць абараніць правы пакрыўджанага нігерыйскімі ўладамі якога-небудзь беларуса. Бо тут, у Беларусі, гэта зрабіць неверагодна цяжка.

## Паслуга за паслугу

Генадзь якімсьці сёмым пачуццём адчуваў, што сёння яго абавязкова затрымаюць. І хоць нічога кепскага не збіраўся рабіць, проста разам з іншымі ў гэты дзень, восьмага верасня, Дзень беларускай вайсковай славы, збіраўся ўскласці кветкі ў гонар перамогі беларускага войска пад Воршай над расейскім, ды памятаў, што і раней яго затрымлівалі не за кепскае. Прадчуванні яго не падманулі. Мардаты шыракаплечы следчы, цяжка ўздыхнуўшы ад відавочнай абсурднасці і непатрэбнасці той працы, якую яму падкінулі апазіцыянеры, з дзікім нежаданнем, робячы ў некалькі разоў больш намаганняў волі, чым могуць зрабіць самыя вопытныя і спрактыкаваныя індыйскія ёгі, дастаў з паліцы бланкі пратаколаў затрымання. Нічога асабістага ў таго следчага да Генадзя не было. Але тупасць маючай адбыцца бяздумнай працы даводзіла яго да шалу. У дадатак ён збіраўся з сябрамі пасля працы выпіць куфаль-другі піва. А тут такі аблом. Трэба зноў займацца апазіцыянерамі.

Гэтыя змешаныя пачуцці нараджалі ў яго душы нічым не абгрунтаваную і невытлумачальную нянавісць як да ўсёй беларускай палітычнай апазіцыі разам, так і да затрыманага сёння Генадзя асабіста. Прычым, тая нянавісць расла з кожнай хвілінай як снежны камяк і вось-вось магла ператварыцца ў імклівую лавіну.

– Як вы мяне дасталі! Як вошы лайдака, – гнеўна зіркнуўшы на Генадзя, і разумеючы, што для складання пратаколу ўсядно прыйдзецца пачаць размову, ці то сцвердзіў, ці то паскардзіўся следчы. – У мяне куча нерас-

крытых справаў. Трэба бандытаў лавіць, злодзеяў усялякіх. А я вымушаны губляць свой час на цябе. Абрыдла гэта мне. І вы ўсе абрыдлі.

– А я што, прасіў цябе мяне затрымліваць? – спакойна адгукнуўся Генадзь. – Ідзі лаві сваіх бандытаў. Ты ж сам зараз прызнаўся, што невінаватага схапіў. Ніхто цябе не прымушаў.

– Ты мяне не блытай, – следчы рэзка павысіў свой голас. – Сядзелі б сабе ў хаце – ніхто вас не чапаў бы. А так лазіце, як блохі па бяззубым сабаку, толькі праблемы ствараеце. Чаго вы дамагаецеся? І што вы ўвогуле для людзей можаце зрабіць?

Генадзь зразумеў, што следчы сапраўды вельмі раззлаваны. І не столькі тым, што не можа злавіць тых бандытаў, а тым, што не ведае за што затрымаў Генадзя і як складаць цяпер пратакол. Загадалі затрымаць – затрымаў. А за што – і сам не ведае. Таму, паколькі не можа знайсці юрыдычнага, то шукае хоць маральнага апраўдання сваім невытлумачальным дзеянням.

– А чаго цябе цікавіць, што мы можам зрабіць? – павысіў голас і Генадзь. – Выкінь тое з галавы і ні ў каго больш не пытайся. Бо ты сляпы, як крот на сонцы. Бо мы ўжо шмат зрабілі, у тым ліку і для цябе асабіста, а ты не бачыш.

– Для мяне асабіста? – Усміхнуўся следчы. – Ну-ну. Можа раскажаш што вы зрабілі? Хоць я вас ні пра што не прасіў. А то я сапраўды незаўважаю вашай дабрыні да мяне. Прасвятлі мне розум.

– Ну, прыкладам, дзякуючы нашай працы, так і не могуць нас, беларусаў, далучыць да Расіі.

– А мне то што? – з сарказмам усміхнуўся следчы. – Мне хай далучаюць хоць да Кітаю. Абы за работу плацілі. Я ў Расіі можа яшчэ больш зарабляў бы. Што за ласку вы мне зрабілі?

– Можа і зарабляў бы, да пары да часу, – цяжка ўздыхнуў Генадзь. – Але зараз цябе можа ўжо і не было б. Усе расійскія міліцыянты праз Чачню прайшлі. Ды не ўсе адтуль вярнуліся. Можа і ты сваю тупую башку там склаў бы за чужацкі інтарэс. Хто ведае. Хто цяпер зарабляў бы для тваіх дзяцей? Тоцкі? І мяне зараз дапытваў бы Тоцкі, а не ты. Так што я для цябе шмат зрабіў. І некалі твае дзеці мне за тое дзякуй скажуць. А вось мае дзеці табе не падзякуюць. Бо ты замест каб сапраўдных бандытаў лавіць, мяне дахаты не пускаеш.

Следчы адклаў асадку ў бок і ўважліва паглядзеў на затрыманага. Ён сапраўды так ніколі не думаў. Не ўмеў так думаць. А тут гэты апазіцыянер сцвярджае, што зрабіў для яго такую паслугу. Гэта трэба было абдумаць. Ён дастаў з кішэня цыгарэты і выйшаў на вуліцу.

Праз нейкі час у кабінет увайшоў другі міліцыянт. Ён сказаў Генадзю забраць усе рэчы і ісці за ім.

– Ну вось, – сонна пазяхнуў ён, выйшаўшы на вуліцу. – Не ведаю, пра што вы размаўлялі з следчым, але ён загадаў адпусціць вас дахаты.

– Вельмі міла з яго боку, – узрадаваўся Генадзь. – Не часта такое адбываецца. Больш нічога не казаў?

– Казаў, што ён з вамі цяпер у разліку, – адказаў міліцыянт. – І прасіў, каб больш яму не пападаліся і не дурылі галаву. У яго і без вас клопатаў вышэй страхі. Бандытаў лавіць трэба.

## Сандалі

– Хлопцы, ёсць дакладныя звесткі. Заўтра на мітынгу нас будуць біць як п'яны Яська гуляшчую жонку! – як з пажару заляцеўшы ў партыйны офіс і не пераводзячы дыхання выгукнуў Пятро.

Гэтая навіна не для мяне, не для іншых прысутных як бы і не была нечаканасцю. У Мінску ўжо даўно таўклі апазіцыянераў, якія адважваліся выходзіць на несанкцыянаваныя мітынгі. У Гародні яшчэ такога не было. Іх проста арыштоўвалі і кідалі на нары. Таму тыя мясцовыя змагары за дэмакратыю, якія мелі яшчэ і прэтэнзіі на лаўры філосафаў і мысліцеляў сучаснасці, цэлымі днямі ў апазіцыйных канторах, з вячэрнім працягам у якойсьці гарадзенскай knайпе за куфлем піва, спрачаліся пра тое, як правільна называць існуючы рэжым, аўтарытарным, які чыста тэарэтычна можа развівацца як у бок таталітарызму так і ў бок дэмакратыі, ці ўсё ж таталітарным, які ўжо даразвіваўся. Але пасля гэтай навіны, спрэчкі пра назву рэжыму адышлі на другі план. Трэба было думаць пра тое, што рабіць заўтра. Бо планавалася акцыя, на якой можна дастаць у нос. А што рабіць пры гэтым не было выпрацавана.

– Хай толькі паспрабуюць, – пачуліся галасы некалькіх чалавек, якія зусім нядаўна ўліліся ў адраджэнцкія шэрагі і ўсімі сваімі дзеяннямі стараліся паказаць, што лепш за іншых разбіраюцца ў сітуацыі. – Мы падзяром ім морды як Тузік шапку. Здаецца, здароўя хапае, каб начысціць рыла некалькім сотням наёмнікаў.

Старэйшыя апазіцыянеры задумаліся і высноваў не агучвалі. Але з новымі сябрамі арганізацыі таксама не

спяшаліся спрачацца. Тады быў такі час, калі адна з новых плыняў даволі жорстка вінавaціла кіраўніцтва ў адсутнасці радыкалізму. Праз дзень пасля згаданых падзеяў яны заткнуліся і маўчалі як куры ноччу, але ў той момант, яшчэ не паспрабаваўшы плячамі міліцэйскай дубіны, выглядалі вельмі рэзкімі, адважнымі і рашучымі.

– Можа не лезці на ражон і не нажываць сабе праблемаў па дурноце, – нясмела засумняваўся Апанас.

– Ну так! Мы ж не ставім за мэту бойку з міліцыяй. Можа паспрабаваць пазбегнуць мардабою ды давесці да грамадства нашы думкі іншым метадам, а на ладзіць недазволены мітынг, – падтрымаў яго старшыня.

– Ага, забаяліся! – крыкнуў малады і гарачы Андрэй, нефармальны лідэр той новай моладзевай плыні. – Як у партыйнае кіраўніцтва лезці, то вы там. Новых людзей не пускаеце. А як біцца, то разлятаецеся як пацукі ад пажару.

– Заткні сваё дзюбло, – не вытрымаў я. – Хопіць зяпу разяўляць. Як вырашыць Рада, так і будзе.

Андрэй замаўчаў. Яго паплечнікі таксама. Але назаўтра вырашылі мне адпомсціць. Думалі-думалі да чаго прычапіцца, і нарэшце дадумаліся. Да маіх сандаляў. Рада ўсё ж вырашыла праводзіць вулічную акцыю. На вуліцы зіма, мароз. А я прыйшоў у сандалях. Усе ведалі, што я другога абутку не нашу, бо ногі баляць. Але гэта не спыніла Андрэеву каманду.

– Глядзі не згубі свае сандалі, як пачнём біцца, – пачаў нехта з іх з іранічна-здзеклівым, як у прастыўшага філіна голасам.

– Я ў сваіх сандалях хадзіў пад бел-чырвона-белым

сцягам яшчэ тады, калі ты з-за кута назіраў, чым мой паход скончыцца. І дай Бог табе на машыне столькі праехаць, колькі прайшлі мае сандалі, – пачаў абараняцца я. Ды гэтыя аргументы Андрэеву каманду не спынілі.

– Дзіва што ты быў супраць бойкі, – працягваў дабіваць мяне хтосьці яшчэ. – У такім абутку шмат не навоюеш. Вось паглядзі ўважліва, як мы падрыхтаваліся да сур'ёзнай акцыі. Не тое што ты.

Я глянуў на хлопцаў і аж пазайздросціў светлай зайздрасцю. Яны былі адзетыя ў адмыслова лёгкія, але цёплыя курткі, падперазаныя афіцэрскімі партупеямі. На руках, сціснутых заранёў у моцныя кулакі – чорныя скураныя пальчаткі. За пазухай дубовыя палкі. На нагах кароткія шнураваныя боты з такім пратэктарам на падэшве, што пазайздросцілі б колы калгаснага трактара. Ды на абцасах яшчэ і падковы набітыя. Я нават заганарыўся гэтай групай. Думаю, трэба на бліжэйшых выбарах рады прапанаваць іх у кіраўніцтва. Такія адважныя і рашучыя хлопцы...

Мае развагі перабіў хаатычны грукат. Я глянуў наперад і ўбачыў міліцэйскі шыхт, які барабанячы дубінамі па шчытах хутка набліжаўся да нас. Сярод некаторых людзей пачалася паніка. Мінакі і людзі выпадковыя пачалі ўцякаць як статак авечак ад зграі ваўкоў. А хто ведалі, чаго выйшлі на вуліцу, пачалі гуртавацца і ствараць свой шыхт. Плячо ў плячо, локаць да локця. Праз імгненне насупраць міліцэйскага стаяў наш шыхт. Настрой быў трывожны і сур'ёзны.

І тут я разрагатаўся, як у кума ў гасцях. Ад майго смеху, не тое што нашы, але і міліцыянты разгубіліся так, што нават спыніліся. А я не мог спыніць смеху. Бо паглядзеўшы па-баках, я не заўважыў аніводнага ў тых трактарных бо-

тах, якія абяцалі разагнаць усю гарадскую міліцыю разам з мірным насельніцтвам. Усе паўцякалі, напалохаўшыся. Як ветрам здула. Як карова языком злізала. А ў шыхце сталі звычайна апранутыя людзі. Маладыя і сталага веку, высокія і нізкія, у самых звычайных паліто ды куртках, звычайных шапках, звычайных зімовых чаравіках... І яшчэ я, у сваіх сандалях.

## Прароцтва

Капітан міліцыі Андрэй Ліпскі ляцеў дахаты як звар’яцелая электрамяцёлка. Ён яшчэ ўчора распланаваў сённяшні дзень, які абяцаў быць для яго вельмі ўдалым. Сам намеснік міністра ўнутраных спраў збіраецца быць на ўрачыстым адкрыцці імпрэзы, дзе яго, Ліпскага, павінны ўзнагародзіць за доўгую, добрую і сумленную службу беларускаму народу. Але не абышлося без непрыемных для яго нечаканасцяў, якія нібы наўмысна імкнуліся сапсаваць капітану міліцыі ўсе яго планы. Мясцовыя апазіцыянеры ладзілі ў гэты дзень сваю імпрэзу пад лозунгам “Міліцыя з народам”. Прыйшлося міліцыі хутка тых мітынгоўшчыкаў пахапаць, пакуль народ не паспеў убачыць іх лозунгі. Ліпскі так спяшаўся хутчэй завершыць вываз мітынгоўшчыкаў з пляцу, што запіхваючы нейкага маладога хлопца ў аўтазак, падзёр сабе парадны кіцель. А менавіта на яго меліся і прычапіць тую так чаканую ўзнагароду.

Гэта так узлавала Ліпскага, што ён нават некалькі разоў штурхануў затрыманага локцем пад скабы, чаго раней ніколі сабе не дазваляў. А зараз добра так прыклаўся, што маладзён ажно паваліўся як прастрэлены ў галаву з гранатамёта і ад болю качаўся па машыне, нешта пагрозліва буркаючы сабе пад нос.

– Будзеш ведаць, як закон парушаць, – Ліпскі злосна пырснуў слінямі затрыманаму ў твар і толькі тады пачаў супакойвацца.

– Цікава, што гэта я парушыў, – прастагнаў той, гнеўна бліснуўшы вачамі, у якіх нібы чорным па беламу, ды яшчэ выразным разборлівым почыркам было напісана: - “Пача-

кай, менцяра, прыйдзе час адказаць за ўсё".

– Ён яшчэ пытае, – крыва ўсміхнуўся капітан. – Сімволіку забароненую трымаў? Трымаў. І як можна такое! Сумлення зусім няма. Бел-чырвона-белы сцяг! Ты яшчэ малады, не ведаеш многага. А ці бачыў ты калі, хоць бы ў фільме, што павязкі такога колеру насілі паліцаі, якія немцам служылі.

– А ты ці бачыў, што паласа такога колеру нашытая на вопратцы ў нашых святароў, – перавёў дыханне затрыманы. – Можа ты і ў іх здзіраць яе пойдзеш. То спяшайся. У царкве яшчэ служба не закончылася.

Такога акцэнту ў іх спрэчцы Ліпскі не чакаў. Малады хлопец загнаў яго ў тупік. Трэба было нечым парыраваць.

– А гэты конь ваш, што "Пагоняй" называеце, можа хочаш сказаць, што таксама папы носяць, – засмяяўся ён.

– Хай будзе конь. Абы не такі асёл як ты, – агрызнуўся юнак. – Хутка гэтыя сімвалы зноў будуць дзяржаўныя. Так залунаюць, што ўсіх ворагаў аслепяць. А ты, капітан гаўнячы, яшчэ будзеш прасіцца каб пакінулі цябе служыць пад гэтымі сімваламі. Плакаць будзеш як бабёрка, горкімі і буйнымі слязьмі. І ілгаць будзеш, што заўсёды нашы сімвалы любіў і шанаваў.

– Я?! Ды ніколі ў жыцці я пад іх не стану.

– Але ж быў час, калі ты іх насіў. Хіба і прысягу на вернасць народу пад гэтай сімволікай прымаў. А зараз ужо забыўся, што зусім нядаўна яна была дзяржаўнай. Памяць кароткая. Толькі такіх, хіба, і бяруць у вас на службу. Ды і нашто табе памяць. Галоўнае каб паболей зорачкаў на пагонах было.

– А гэта ўжо не твая справа, колькі зоркаў, – вызвя-

рыўся капітан. – І што калі было, таксама не твайго розуму задача. Усё быллём парасло, што калісьці было. Зараз гэтай сімволікай карыстацца забаронена. Значыць будзеш адказваць. І за мой падзёрты кіцель адкажаш.

– А ты адкажаш за такое стаўленне да нашых нацыянальных сімвалаў, – не здаваўся юнак. – Хутка адкажаш.

Вось такая атрымалася ў Ліпскага размова. І ніяк яна з галавы не вылазіла. І хоць міліцыянт не быў забабоністы, але нешта яму падказвала, што гэтае прароцтва збудзецца. А міністар мусіць прыехаць з хвіліны на хвіліну.

Капітан прыляцеў дахаты, скінуў падзёрты кіцель і паспрабаваў зчапіць ніткамі адарванае рукаво. Але нічога не атрымлівалася. Тады міліцыянт успомніў, што ў яго ёсць яшчэ адзін парадны кіцель. У якім некалі прысягу прымаў. Ён палез у шафу, знайшоў яго, прыкалоў да пагонаў дадатковыя зоркі, хуценька апрануў, і як вецер сігануў па ўзнагароду. Але да ўрачыстасці не дайшло. Намеснік міністра заўважыў яго яшчэ ў калідоры.

– А гэта што такое?! – як пярун грымнуў ён моцным раз'юшаным басам, звярнуўшыся да непасрэднага начальніка Ліпскага, з якім толькі што ветліва і весела пра нешта сваё размаўляў.

– А гэта наш сённяшні герой, – спалохана адказаў той, перавёў позірк на капітана і нечакана збялеў.

А праз невялічкую паўзу запішчаў як недарэзаны сабака:

– Заўтра чакаю заяву на звальненне па ўласным жаданні! Не! Сёння! Сам напішаш. А то горш будзе.

Ліпскі, нічога не разумеючы, паспяшаўся хутчэй

знікнуць з вачэй начальства. Абліваючыся халодным потам, ён заляцеў у прыбіральню, глянуў у люстэрка і абамлеў. Нават паверыў, што калі адно прароцтва таго пабітага юнака збылося, то збудуцца і іншыя. На рукаве яго старога кіцелю, у якім ён некалі прымаў прысягу, бел-чырвона-белымі колерамі пераліваўся тагачасны міліцэйскі шэўрон. А з кожнага бліскучага гузіка весела падміргвала неўміручая “Пагоня”.

## Змест



## Навелы

**ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА** – выдавецкая ініцыятыва, заснаваная ў 2006 годзе з мэтай дакументацыі і прасоўвання культурнага і гістарычнага даробку гарадзенцаў, а таксама папулярызацыі ведаў пра сярэднявечную, навачасную, міжваенную і паваенную гісторыю Гародні як істотнага элемента еўрапейскай спадчыны. ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА – гэта яшчэ адзін напамін гарадзенцам, што лёс горада ў іх руках. Агульнымі намаганнямі мы здолеем перанесці ў наступныя стагоддзі непаўторнасць гістарычнай Гародні, зберагчы яе ўнікальнасць для нашчадкаў.

**Выйшлі з друку:**

Юры ГАРДЗЕЕЎ “Магдэбургская Гародня”

Данута БІЧЭЛЬ “Хадзі на мой голас”

Пётр СЯЎРУК “Небыцця не існуе. Невядомыя старонкі беларускага нацыянальнага руху”

Аляксей КАРПЮК “Развітанне з ілюзіямі”

“Зрабаваны народ. Размовы з беларускімі інтэлектуаламі”

Алесь КРАЎЦЭВІЧ “Рыцары і дойліды Гародні”

Сяргей ШАПРАН “Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця” Т. 1-2

Гарадзенскі палімпсест 2008

Гарадзенскі палімпсест 2009

Гарадзенскі палімпсест 2010

Апанас ЦЫХУН “...Улюбёны я ў сваю зямлю”

Віктар ШАЛКЕВІЧ “Рэквіем па непатрэбных рэчах”

Дзмітрый ЛЮЦІК “Нёманскі Фронт. 12-25 ліпеня 1944 года. Баі за Гродна ў данясеннях, успамінах, статыстыцы”

Аркадзь ЛІЦЬВІН “Галс”

Віктар САЗОНАЎ “Маленькія гісторыі з вялікай палітыкі”

“Гродназнаўства. Гісторыя еўрапейскага горада”

Васіль БЫКАЎ. “Гарадзенскі архіў. Невядомыя творы (1957—1972). Незавершанае. Нататнікі”

Ларыса ГЕНІЮШ “Лісты з Зэльвы”

Біяграфія гарадзенскіх вуліц. Ад Фартоў да Каложы

Гарадзенскі гадавік-2012

